ПРОЛЕТАРЫІ УСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# САВЕЦКАЯ КРАІНА







ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

Студзень
№ 1
(27)
1933

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# САВЕЦКАЯ КРАІНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН

ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ГОД ВЫДАНЬНЯ ТРЭЦІ

СТУДЗЕНЬ

№ 1 (27)






МЕНСК — 1933

# Пастановы студзеньскага аб‘яднанага пленуму ЦК і ЦКК ЎсеКП(б) і задачы на краязнаўчым фронце

Аб‘яднаны пленум ЦК і ЦКК Усе КП(б) (7-12 студзеня 1933 г.) адбываўся на рубяжы першай і другой пяцігодкі; ён мае гістарычнае значэньне. Пленум падвёў вынікі вялізарнага соцыялістычнага будаўніцтва першай пяцігодкі, даўшы палітычны аналіз зьместу гэтага будаўніцтва, і паставіў перад партыяй, рабочай клясай і колгасным сялянствам асноўныя задачы далейшай работы па соцыялістычнаму будаўніцтву. Пленум абмеркаваў і паставіў чарговыя задачы партыі ў вёсцы.

У выніку пасьпяховага выкананьня пяцігодкі, Савецкі саюз з краіны аграрнай, з адсталай тэхнікай, ператварыўся ў краіну індустрыяльную, незалежную, самастойную. У першую пяцігодку ў СССР створана ўласная індустрыяльная база для рэконструкцыі прамысловасьці, сельскай гаспадаркі і транспорту.

Вялізарнейшых посьпехаў пад кіраўніцтвам партыі рабочая кляса дабіліся ў галіне чорнай і каляровай мэталюргіі, хэміі і энэргетыкі. Вырасьлі новыя гіганты: Магнітабуд, Кузьнецкбуд, Рыдлераўскі полімэталічны комбінат, Волхаўскі алюміневы завод, Уральскі медны комбінат, Бярэзьнякоўскі і Чорнарэчанскі азотныя заводы, Днепрабуд, пабудованы новыя магутныя шахты ў Донбасе, Кузбасе і г. д.

На працягу першай пяцігодкі, калі капіталістычны сьвет перажывае жорсткі крызіс, СССР па трактарабудаўніцтву, торфаздабываньню, будаўніцтву с-г машын і комбайнаў—вышаў на першае месца ў сьвеце, па агульнаму машынабудаўніцтву, нафте і чыгуну—на першае месца ў Эўропе і другое месца ў сьвеце, па вугалю з шостага месца і па хэміі з восьмага месца падняўся на чацьвёртае месца і па электраэнэргіі з восьмага—на пятае месца.

За пяцігодку вырасьлі гіганты машынабудаўніцтва: Сталінградзкі, Харкаўскі і Чалябінскі трактарныя заводы, Саратаўскі завод комбайнаў, Ростсельмаш і інш. аўтомобільныя заводы, завод імя Сталіна ў Маскве, імя Молатава ў Горкім, Яраслаўскі завод цяжкіх грузавікоў, пабудаваны новыя заводы па вырабу магутных паравозаў і вагонаў, буйных турбін і генэратараў для электрастанцый, абсталяваньня для апалавай прамысловасьці, па самалёта- і авіямоторабудаўніцтву, варштатабудаўніцтву і г. д. Усё машынабудаўніцтва за пяцігодку павялічылася ў 4-5 раз, а ў параўнаньні з даваенным часам—больш чым ў 10 раз. Далейшае разь-

віцьцё індустрыялізацыі ў СССР забясьпечана стварэньнем новай вугальнамэталюргічнай базы—Урал і Кузбас.

Пад кіраўніцтвам ленінскай партыі і пры актыўнай дапамозе рабочае клясы ўсяго Савецкага саюзу, БССР—да рэволюцыі прыгнечаная і адсталая с.-г. краіна, з слаба разьвітай поўсаматужнай і саматужнай прамысловасьцю—ператвараецца таксама ў індустрыяльна-аграрную краіну. За пэрыод пяцігодкі ў БССР пабудавана каля 20 новых буйнейшых прадпрыемстваў—Гомсельмаш, Бабруйскі дрэваапрацоўчы комбінат, Белдрэс, Магілеўская фабрыка штучнага шоўку, Крычаўскі цэмантны завод і інш., рэконструяваны і ператвораны ў буйнейшыя прамысловыя прадпрыемствы заводы „Бальшавік", імя „Варашылава", ф-ка „Кастрычнік" і г. д.

У выніку шпаркага росту індустрыялізацыі Савецкага саюзу, „карэнным чынам зьмяніліся суадносіны прамысловасьці і с.-г. продукцыі ў карысць першай" (з пастановы Пленуму). Адносная вага прамысловасьці вырасла з 48% (у 1927-28 годзе) да 70% ў 1932 г. пры нязьменным росьце сельскай гаспадаркі, аб'ём-жа прамысловасьці ўзрос у параўнаньні з 1927-28 г. да 219%, а ў параўнаньні з даваенным часам да 334%; капіталаўкладаньні ў прамысловасьць за 4-3 м-цы склалі 23,3 мільярды руб. (замест запроектаваных пяцігодкай 18,8 мільярдаў руб. за пяць год).

„Правільная політыка партыі, накіраваная на індустрыялізацыю краіны і ліквідацыю кулацтва як клясы, далі магчымасьць забясьпечыць сельскую гаспадарку трактарамі і навейшымі с.-г. машынамі, аб'днаць дробныя аднаасобныя сельскія гаспадаркі ў буйныя колектыўныя гаспадаркі і організаваць шырокую сетку збожжавых і жывёлагадоўчых Савецкіх гаспадарак"(з пастановы пленуму).

Дасягненьні ў рэконструкцыі сельскай гаспадаркі характарызуюцца наступнымі лічбамі: на працягу пяцігодкі сельская гаспадарка атрымала больш як 120 тысяч новых трактараў і на 1600 млн. руб. с.г. машын (больш, як падвоена машынная ўзброенасьць сельскае гаспадаркі ў параўнаньні з 1928 г.), організавана 2.446 МТС, звыш 200.000 колектыўных гаспадарак, якія аб'ядналі звыш 60% сельскіх гаспадарак і каля 75% усіх сялянскіх плошчаў і створана 5.000 савецкіх гаспадарак. А ў выніку ўсяго гэтага „разгромлена кулацтва, падарваны карэньні капіталізму ў сельскай гаспадарцы і тым самым забясьпечана перамога соцыялізму ў вёсцы", колгасныя-ж гаспадаркі зрабіліся моцнай апорай будаўніцтва соцыялізму, пасьпяхова вырашана гістарычная задача пераводу раздробленай, індывідуальнай гаспадаркі на рэйкі буйной соцыялістычнай гаспадаркі, пасеўныя плошчы за пяцігодку павялічыліся на 21 млн. га, моцна ўзрасьлі разьмеры таварнага збожжа ў краіне і ў дзясяткі раз павялічыўся соцыялістычны сэктар ў галіне жывёлагадоўлі.

На аснове індустрыялізацыі і росту колгаснага будаўніцтва замацавалася вытворчая змычка рабочае клясы з колгасным сялянствам, як асноўная форма змычкі гораду з вёскай, а гандлёвая форма змычкі, ўзьнята на новую, больш высокую ступень, на ступень Савецкага гандлю, дзе забясьпечана пануючае становішча

дзяржаўна-коопэрацыйнага і колгаснага гандлю і праводзіцца выкараненьне спэкуляцыі ў гандлі. Рост продукцыі лёгкай прамысловасьці на 187%, раздробнага дзяржаўна-коопэрацыйнага тавараздвароту на 175%, вялізарны рост дзяржаўна-коопэрацыйнай гандлёвай сеткі, разгортваньне колгаснага гандлю—усё гэта вельмі выразныя і яскравыя паказчыкі павялічэньня тавараздвароту ў нашай савецкай краіне, паказчыкі паляпшэньня дабрабыту працоўных мас гораду і вёскі. У выніку пад'ёму прамысловасьці і сельскай гаспадаркі ў СССР зьнішчана беспрацоўе, няўпэўненасьць у заўтрашнім дні сярод рабочых; у вёсьцы на аснове посьпехаў колгаснага будаўніцтва падарвана распластаваньне сялян на заможных і незаможных, зьнішчаны паўпэрызм.

На аснове росту народнай гаспадаркі і палепшаньня дабрабыту працоўных мас, мы маем вялізарнейшыя дасягненьні на фронце культурнага будаўніцтва: рост пачатковых, сярэдніх і вышэйшых школ, навукова-дасьледчых устаноў і г. д.

Вось дасягненьні краіны дыктатуры пролетарыяту за першую пяцігодку. Зусім іншы малюнак маем з прамысловасьцю, сельскай гаспадаркай, становішчам працоўных мас і культурай ў капіталістычных краінах. Тут мы бачым жорсткі крызіс і катастрофічнае падзеньне ў галіне прамысловасьці (падзеньне прамысловай вытворчасьці: у ПАЗШ—на 44%, Германіі—на 45%, Францыі—на 25%, Англіі—на 20%, Польшчы—на 46% у параўнаньні з 1928 годам), абмяртвеньне вытворчага апарату (недагрузка і закрыцьцё фабрык і заводаў), зьнішчэньне продукцыйных сіл, крах канцэрнаў і г. д.

Такі-ж жорсткі крызіс і падзеньне вытворчасьці мае месца ў капіталістычнах краінах і ў галіне сельскае гаспадаркі: скарачэньне пасеўных плошчаў, падзеньне вытворчасьці збыту с.-г. машын (у ПАЗШ—на 83%, у Германіі на 72% ў параўнаньні з 1929 г., у Польшчы—амаль поўнае спыненьне вырабу с.г.-машын) разбурэньне сялянскіх і фэрмэрскіх гаспадарак, рост іх запазычанасьці і продаж з малатка. Крызіс у галіне прамысловасьці і сельскае гаспадаркі ў капіталістычных краінах прывёў да катастрофічнага падзеньня гандлю, масавага зачыненьня гандлёвых прадпрыемстваў, банкруцтва гандлёвых фірм, разбурэньня сярэдніх і дробных гандляроў, пры бязупыным падзеньні пакупной здольнасьці працоўных мас. Адначасна з экономічным крызісам у капіталістычных краінах адбываецца крызіс у галіне культуры—зачыняюцца вышэйшыя школы, навуковыя ўстановы, павялічваецца беспрацоўе сярод інжынэрна- тэхнічных і навуковых кадраў, адбываецца дэградацыя навуковае мысьлі.

Такім чынам, ў СССР буйны рост продукцыйных сіл, пасьпяховае будаўніцтва соцыялістычнай гаспадаркі, палепшаньне дабрабыту працоўных мас росквіт соцыялістычнай культуры, а там, у краінах капіталу,—крызіс гаспадаркі, зьбядненьне працоўных мас, беспрацоўе, рэгрэс навукі.

Вялізарнейшыя посьпехі першай пяцігодкі дасягнуты ў выніку клясавае барацьбы. Пленум адзначыў, што пераможнага завяршэньня пяцігодкі ў 4 гады партыя дасягнула ў барацьбе за няўхільнае і пасьлядоўнае правядзеньне генэральнай лініі, у барацьбе

з правым опортунізмам, як галоўнай небясьпекай, у барацьбе з „лявацкімі“ перагібамі і контррэволюцыйным трацкізмам шляхам бязьлітаснага разгрому ўсякага роду антыпартыйных груповак шляхам рашучага выкрыцьця агентаў клясавага ворага з партбілетам ў кішэні з ліку буржуазных перараджэнцаў. Пераможнага завяршэньня пяцігодкі партыя дасягнула на аснове няўхільнага росту творчай актыўнасьці і вытворчай ініцыятывы шырокіх мас, на аснове ўцягненьня ўсё большай колькасьці рабочых і колгасьнікаў у рады ўдарнікаў соцыялістычнай будоўлі, на аснове разгорнутага соцыялістычнага спаборніцтва. Аднак клясавая барацьба яшчэ ня скончана. Яна яшчэ больш будзе абвастрацца ў паасобных раёнах і на паасобных вучастках соцыялістычнага будаўніцтва. Прыкрываючыся фальшыва-нацыянальным сьцягам, клясавы вораг пролетарыяту—рэшткі разьбітых контр-рэволюцыйных груповак, нацыянал-дэмократычныя элемэнты, кулацтва—выступае супроць соцыялістычнага, будаўніцтва супроць пролетарскай дыктатуры. І таму асноўнай прадпасылкай далейшых посьпехаў будаўніцтва зьяўляецца ўзмацненьне рэволюцыйнай пільнасьці ў рабоце кожнага працаўніка партыйных, савецкіх, гаспадарчых, навукова-дасьледчых і інш. установ і організацый.

Пленум ня толькі падвёў вынікі першай пяцігодкі, але ён даў конкрэтныя ўказаньні для выкананьня пляну другой пяцігодкі, якая, бязумоўна, будзе адрозьнівацца ад першай пяцігодкі. Калі, „першая пяцігодка была пяцігодкай *будаўніцтва* новых заводаў, якія прадстаўляюць тэхнічную базу *прамысловасьці* для рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі, пяцігодкай будаўніцтва новых прадпрыемстваў у *земляробстве*—колгасаў і савгасаў, якія прадстаўляюць вагар для організацыі ўсёй народнай гаспадаркі на пачатках соцыялізму,“ дык другая пяцігодка будзе„ пераважна пяцігодкай *асваеньня* новых прадпрыемстваў, ў прамысловасьці, пяцігодкай *організацыйнага ўмацаваньня* новых прадпрыемстваў у сельскай гаспадарцы—колгасаў і савгасаў“. Опортуністы розных масьцей ужо цяпер пробуюць „вытлумачыць“ гэтую пастанову Пленуму як згортваньне новага будаўніцтва ў прамысловасьці і сельскай гаспадарцы. Але Пленум выразна падкрэсьліў, што асваеньне новых прадпрыемстваў у прамысловасьці і організацыйнае ўмацаваньне колгасаў і саўгасаў „не выключае, а мае на мэце далейшае разьвіцьцё новага будаўніцтва“, што цяперашні лёзунг новага будаўніцтва толькі *дапаўняецца* новым лёзунгам асваеньня новых прадпрыемстваў і новай тэхнікі...

Але асваеньне новых прадпрыемстваў і новай тэхнікі звязана са значна большымі цяжкасьцямі, чым выкарыстаньне старых або рэконструяваных прадпрыемстваў; адсюль некаторае зьніжэньне тэмпаў росту прамысловай продукцыі ў другой пяцігодцы ў параўнаньні з тэмпамі росту продукцыі у першай пяцігодцы (13-14% у другой пяцігодцы супроц 21-22% ў першай пяцігодцы). Аднак, гэтае зьніжэньне проценту росту продукцыі, як паказаў тав. Сталін ў сваім дакладзе на Пленуме, не азначае зьніжэньня агульнай сумы гадавога прыросту продукцыі, наадварот—яго павялічэньне, бо кожны процант прыросту продукцыі, пры агульным росьце ўсёй сумы продукцыі, у конкрэтным грашовым выражэньні значна

падвышаецца (43 млн. руб. у 1925 г.. 128 млн. руб. 1928 г., і 320—340 млн. руб. ў 1933 г.).

Галоўны ўпор у другой пяцігодцы будзе рабіцца не на колькасны рост, а на рост продукцыйнасьці работы і на палепшаньне якасьці продукцыі ў прамысловасьці, на рост ўраджайнасьці і палепшаньне работы ў сельскай гаспадарцы. Барацьба за выкананьне задач другой пяцігодкі, за падвышэньне продукцыйнасьці працы і палепшаньне яе якасьці, за падвышэньне ўраджайнасьці колгасных і савгасных палёў, за выяўленьне і выкарыстаньне ўсіх рэсурсаў для разьвіцьця нашай прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, за комуністычнае выхаваньне рабочых і колгасных мас, выхаваньне соцыялістычных адносін да працы, зьяўляецца асноўнай задачай усіх краязнаўчых організацый у другой пяцігодцы.

Пленум зацьвердзіў народна-гаспадарчы плян першага году другой пяцігодкі і вызначыў вытворчыя заданьні па важнейшых галінах гаспадаркі: прырост продукцыі прамысловасьці ў 16,5%; па агульнай гадавой выпрацоўцы электра-энэргіі—16,300 млн. клвт., па чорнай мэталюргіі—9 млн. чыгуну, а вугалю—84 млн. тон, па нафце—24,4 т; па машынабудаўніцтву—усяго на суму 6,5 мільяр. руб., па хэмічнай прамысловасьці—на 1839 млн. руб., па лёгкай прамысловасьці—на 8,8 мільяр. руб. (у цэнах 1926-27 гг.) і г. д., па сельскай гаспадарцы разьмер вясновай пасеўнай плошчы ўстаноўлены ў 95 млн. га і азімых, збожжавых—38,5 млн. га; сярэдні ўраджай па ўсіх збожжавых вызначаны ў 8 цн з га, па бавоўне—8 цн, па ільну—2,4 цн [1]); колькасьць МТС будзе даведзена да 2.768, колькасьць галоў жывёлы ў савгасах і колгасных фэрмах ўстаноўлена наступная: па буйной рагатай жывёле: у савгасах—2.550 тыс. і таварных фэрмах—6.000 тыс. штук; па каровах: у савгасах 1.162 тыс. і таварных фэрмах—2.500 тыс. шт.; па сьвіньнях: у савгасах—1.100 тыс. штук і таварных фэрмах—3.750 тыс. штук; па авечках: у савгасах—4.840 тыс. штук і таварных фэрмах—6.205 тыс. шт.

Грузазварот па чыгунцы ўстаноўлены ў 300 млн. тон. У адпаведнасьці з устаноўленымі вытворчымі заданьнямі вызначаны капітальныя ўкладаньні: у прамысьловасьць—10.109 млн руб.; у транспорт—2.976 млн. руб. і ў сельскую гаспадарку—2.148 млн. руб., а ўсяго—18 млрд. руб. Продукцыйнасьць працы па прамысловасьці ў 1933 годзе ў параўнаньні з 1932 г. павінна павялічыцца на 14% з адначасным зьніжэньнем сабекошту ў прамысловасьці на 3,9% і па будаўніцтву—на 15%. У мэтах далейшага палепшаньня матар'яльнага і культурнага становішча працоўных павялічваецца разьмер капіталаўкладаньняў: на комунальную гаспадарку (да 696 млн руб.), на жыльлёвае будаўніцтва (да 1.472 млн. руб.), на абслугоўваньне соц. культурных запатрабаваньняў (да 11.616 млн. руб.—рост на 19,8%) і інш. пры адначасным павялі-

[1]) Па БССР сьнежаньскім Пленумам ЦК КП(б)Б агульная плошча пасеву яравых культур у 1933 г. вызначана ў 2680 тыс. га, а сярэдні ўраджай з га збожжавых—8,5 цн, бульбы—100 цн, ільну—3 цн.

чэньні зарплаты на 6,8% у адносінах да 1932 г., а па прамысловасьці—на 9%.

На выкананьне вялізарнейшых задач, вызначаных гаспадарчым плянам 1933 г., асабліва на выкананьне якасных паказальнікаў і на зьніжэньне сабекошту продукцыі, павінна быць накіравана ўвага ўсіх партыйных, гаспадарчых і профсаюзных організацый, усіх рабочых і колгасных мас. Краязнаўчыя організацыі—як масавыя дасьледчыя організацыі, задачай якіх зьяўляецца дапамога партыі і ўраду ў выкананьні задач соцыялістычнага будаўніцтва шляхам разгортваньня масавай дасьледчай работы і выяўленьня дадатковых рэсурсаў, якія могуць быць выкарыстаны для павялічэньне вытворчасьці,—павінны мобілізаваць свае сілы на барацьбу за выкананьне вытворчых плянаў 1933 г. у кожным раёне, на кожным прамысловым прадпрыемстве, у кожным колгасе, савгасе. Краязнаўчыя ячэйкі на прадпрыемствах павінны разгарнуць работу па вывучэньню сыравінных рэсурсаў для свайго прадпрыемства, па выяўленьню новых месц і новых відаў сыравіны, вывучыць усе магчымасьці ўнутры-завадзкога накапленьня, зьніжэньня сабекошту, рацыяналізацыі працы і падвышэньня яе продукцыйнасьці. Для краязнаўчых ячэек у калгасах і савгасах найважнейшай задачай зьяўляецца барацьба за падвышэньне ўраджайнасьці і організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў і савгасаў. Колгасная краязнаўчая ячэйка павінна організаваць спэцыяльныя досьледы па вывучэньню новых с.-г. культур (соя, топінамбур, сарго, цыкорыя, вінаград і г. д.), вывучэньню найлепшых гатункаў розных культур, уплыву на ўраджайнасьць ўжываньня плянавых агратэхнічных мерапрыемстваў (севаазварот, апрацоўка глебы, тэрмін, спосабы і час ўнясеньня ўгнаеньняў, радковы пасеў, барацьба з хваробамі і шкоднікамі с.-г. культур, організацыя догляду і г. д.), вывучэньню пытаньня найлепшай організацыі працы, работы лепшых брыгад у мэтах выкарыстаньня іх практыкі і інш. Аднэй з задач усіх краязнаўчых організацый зьяўляецца барацьба за павялічэньне прадукцыйнасьці працы. На падставе вывучэньня дасягнутых посьпехаў лепшых брыгад, прадпрыемстваў, савгасаў, колгасаў, лепшых ўдарнікаў, навуковай праверкі і абагуленьня вынікаў вывучэньня, краязнаўчыя організацыі павінны дабіцца ўкараненьня гэтых посьпехаў у практыку свайго прадпрыемства, савгасу, колгасу і шырака популярызаваць гэтыя дасягненьні праз друк.

Краязнаўчыя організацыі павінны таксама прыняць актыўны ўдзел і дапамагчы адпаведным гаспадарчым і плянуючым установам і організацыям у складаньні вытворчых плянаў свайго прадпрыемства, колгасу, МТС, савгасу і раёну шляхам вывучэньня паасобных пытаньняў і забесьпячэньня адпаведным матар'ялам плянуючых і гаспадарчых організацый.

Работа краязнаўчых ячэек у справе ажыцьцяўленьня пастаноў студзеньскага аб'яднанага пленуму зьяўляецца баявой задачай і павінна праводзіцца пад непасрэдным кіраўніцтвам партыйных організацый у цеснай сувязі з гаспадарчымі і профсаюзнымі організацыямі.

Пасьпяховае выкананьне народна-гаспадарчага пляну 1933 г. патрабуе ад усіх парторганізацый, а таксама і краязнаўчых арганізацый, рашучай барацьбы з усімі праявамі супраціўленьня клясавага ворага політыцы партыі.

Краязнаўчыя організацыі павінны шчыльней згуртаваць свае рады навакол партыі, узмацніць рэволюцыйную пільнасьць, дысцыплыну і актыўна ўдзельнічаць у соцыялістычным будаўніцтве.

---

В. Самцэвіч

# Задачы краязнаўчых ячэек у вясновай пасеўнай кампаніі 1933 г. барацьба за ўраджай

На аснове будаўніцтва савгасаў і колгасаў і шырокага ўкараненьня машыннай тэхнікі ў соцыялістычнай сельскай гаспадарцы Савецкі саюз, а ў тым ліку і БССР як неадрыўная частка СССР, ператварыўся ў краіну самага буйнога ў сьвеце земляробства. У жорсткай клясавай барацьбе партыя ў першай пяцігодцы дабілася організацыі больш 200.000 колектыўных гаспадарак і каля 5.000 савгасаў, пашырэньня пасеўнай плошчы да 21 млн. га з ахопам колгасамі звыш 70% ўсіх сялянскіх плошчаў і аб'яднаньня ў колгасы больш за 60% сялянскіх гаспадарак.

У БССР мы таксама маем вялізарныя дасягненьні ў рэконструкцыі сельскае гаспадаркі. Колгасы і савгасы БССР да 1933 г. займалі 60% усёй пасеўнай плошчы; пасеўная плошча ў параўнаньні з даваенным часам павялічылася на 1.240 тыс. га; машынаўзброенасьць соцыялістычнага сэктару за 4 гады ўзрасла ў 4 разы організавана 57 МТС. „Колгасы замацаваны і шлях да старой аднаасобнай гаспадаркі закрыт канчаткова. Цяпер задача заключаецца ў тым, каб ўмацаваць колгасы організацыйна, вышыбіць адтуль шкодніцкія элемэнты, падабраць праверанныя сапраўды бальшавіцкія кадры для колгасаў і зрабіць колгасы сапраўды бальшавіцкімі. У гэтым цяпер галоўнае". (Сталін).

У выніку пасьпяховага разгортваньня савецкага і колгаснага будаўніцтва ўжо ажыцьцёўлена мэта першай стадыі ўздыму сельскае гаспадаркі—найбольшае пашырэньне пасеўных плошчаў. Цяпер у галіне сельскай гаспадаркі паўсталі новыя задачы. „Наступіў час, калі ад росту гаспадаркі ў шырыню шляхам пашырэньня пасеўных плошчаў, трэба павярнуць да барацьбы *за падвышэньне ўраджайнасьці*, як галоўнай і цэнтральнай задачы ў галіне сельскай гаспадаркі на данай стадыі разьвіцьця". (З пастановы СНК СССР і ЦК УсеКП(б) аб мерапрыемствах па павышэньню ўраджайнасьці). Барацьба за падвышэньне ўраджайнасьці ў нашай краіне ва ўмовах канчатковай перамогі савгасаў і колгасаў, зьяўляецца разгортваньнем барацьбы за гаспадарча-політычнае і організацыйнае ўмацаваньне колгасаў, за соцыялістычнае перавыхаваньне колгасных мас, за выхаваньне соцыялістычных адносін да грамадзкай маёмасьці, за насаджэньне соцыялістычнай

дысцыпліны ў колгасе і рашучую барацьбу з кулацкімі ўплывамі. Вялікую ролю ў вырашэньні гэтых задач павінны адыграць палітычныя аддзелы МТС і саўгасаў.

Падрыхтоўка і правядзеньне вясновай пасеўнай кампаніі 1933 году — першага году другой пяцігодкі—павінны цалкам забясьпечыць выкананьне пастаноў СНК СССР і ЦК Усе КП(б) аб падвышэньні ўраджайнасьці, IV Пленуму ЦК КП(б)Б аб пляне і арганізацыі вясновай сяўбы ў 1933 годзе і студзеньскага аб'яднанага пленуму ЦКК і ГК Усе КП(б) аб народна-гаспадарчым пляне першага году другой пяцігодкі і пастановы ЦК КП(б)Б і СНК БССР „Аб мерапрыемствах па арганізацыі вясновай сяўбы", 1933 г.

Якія, конкрэтна, пастаўлены задачы перад партыйнымі, савецкімі, гаспадарчымі, комсамольскімі арганізацыямі і ўсёй савецкай грамадзкасьцю ў справе забясьпечаньня пасьпяховай вясновай сяўбы і падвышэньня ўраджайнасьці ў БССР—рэспубліцы галоўным чынам інтэнсыўных культур?

Агульная плошча пасеву яравых у БССР у 1933 г. ўстаноўлена у 2680 тыс. га, у тым ліку: збожжавых—1348 тыс. га, тэхнічных—298 тыс. га, бульбы—620 тыс. га і пад іншыя культуры—425 тыс. га.

Для забесьпячэньня засеву гэтай плошчы павінна быць засыпана насенных і страхавых фондаў у колгасах: збожжавых—132 тыс. тон, ільнанасеньня—20,350 тыс. тон, бульбы—480 тыс. тон. Мінімальнае падвышэньне ўраджайнасьці ў 1933 г. па рэспубліцы вызначана ў такіх разьмерах: з аднаго гэктару збожжавых—8 цн, бульбы 100 цн, ільну—2,4 цн. (лічбовыя даныя з пастановы ЦК КП(б)Б і СНК БССР, „Зьвязда", № 26, 1933 г.).

Вясновая пасеўная кампанія гэтага году і выкананьне вышэйазначаных палітычна-гаспадарчых задач будзе бязумоўна праходзіць ва ўмовах, абвостранай клясавай барацьбы. Кулацтва і яго агэнты ўсімі мерамі і спосабамі будуць імкнуцца ўзрываць колгасы знутры, зрываць пасеўныя пляны і тэрміны сяўбы, перашкаджаць правільнай арганізацыі работы, разгортваньню соцспаборніцтва і ўдарніцтва і г. д.

Вось чаму так неабходна, асабліва цяпер, узмацненьне кіруючай ролі партыі ў вёсцы, у колгасным будаўніцтве, стварэньне моцнага колгаснага актыву навакол партыйных арганізацый у вёсцы, разгортваньне шырокай палітычна-выхаваўчай работы сярод колгасных мас і рашучае выкараненьне ўсякіх антысавецкіх элемэнтаў.

Раённыя краязнаўчыя арганізацыі і асабліва колгасныя краязнаўчыя ячэйкі павінны акты́ўна ўключыцца ў правядзеньне вясновай сяўбы, у барацьбу за поўнае выкананьне пасеўных плянаў кожнага колгасу і максымальнае падвышэньне ўраджайнасьці.

Цяпер, калі колгаснае будаўніцтва ўзьнімаецца на новую *вышэйшую* ступень разьвіцьця, іншым, больш глыбокім становіцца зьмест усёй работы ў колгасах, асабліва павялічваецца роля і значэньне навукова-дасьледчае работы ў колгасным будаўніцтве.

Новыя задачы, якія пастаўлены партыяй у галіне колгаснага будаўніцтва, патрабуюць ад усіх працаўнікоў у раёне і ў кожным

колгасе веданьня конкрэтных умоў і асаблівасьцяй кожнага раёну і кожнага колгасу. „Цяпер кіраваць у раёне—гэта перш за ўсё ведаць раён, ведаць колгас, ведаць людзей у іх, дасканала ведаць усе асноўныя пытаньні колгаснага будаўніцтва, ведаць усе падступы і манэўры клясавага ворага, які пралазіць у колгас"... (з пастановы IV сьнежаньскага пленуму ЦК КП(б)Б). Пленум прапанаваў РК КП(б)Б і РВК устанавіць для кожнага сельсавету, для кожнага савгасу, МТС, колгасу, вёскі дыфэрэнцыяваныя заданьні падвышэньня ўраджайнасьці, з улікам арганізацыйна-гаспадарчага становішча, экономічных глебавых і іншых умоў колгасаў.

Адсюль і задача для ўсіх краязнаўчых ячэек і Райбюро краязнаўства—неадкладна організаваць усебаковае і глыбокае вывучэньне кожнага асобнага колгасу, савгасу, раёну і, у першую чаргу, тых пытаньняў, якія непасрэдна зьвязаны з задачай падвышэньня ўраджайнасьці і выкананьня плянаў вясновай сяўбы.

Работа гэта павінна праводзіцца ў поўнай узгодненасьці з мясцовымі зямельнымі органамі, праўленьнямі колгасаў і пры непасрэдным удзеле колгаснага актыву. Сьнежаньскі пленум ЦК КП(б)Б вынес пастанову аб неабходнасьці ўстанаўленьня „шчыльнейшай сувязі работы навукова-дасьледчых устаноў з конкрэтнымі запатрабаваньнямі савгасаў і колгасаў." Гэта пастанова пленуму павінна легчы ў аснову ўсёй работы колгасных і савгасных краязнаўчых ячэек і паасобных краяведаў, якія працуюць у галіне сельскае гаспадаркі.

Адным з найважнейшых прадпрыемстваў партыі ў галіне організацыйна-гаспадарчага ўзмацненьня колгасаў зьяўляецца ўвядзеньне ў 1933 г. ва ўсіх савгасах і колгасах *севазваротаў*.

„Правільныя севазвароты—адзін з лепшых сродкаў падвышэньня ўраджайнасьці". Увядзеньне севазвароту ў савгасах і колгасах павінна праводзіцца на аснове раённай спэцыялізацыі сельскае гаспадаркі і абавязкова забясьпечыць поўнае выкананьне народна-гаспадарчых плянаў і заданьняў па сельскай гаспадарцы. Гэта патрабуе глыбокай і ўсебаковай навуковай прапрацоўкі пытаньня севазваротаў савгасаў і колгасаў, вывучэньня рэльефу, складу глеб, іх кіслотнасьці, вільготнасьці і ўсіх магчымасьцяй забесьпячэньня найбольш высокіх ураджаяў, у першую чаргу вядучых культур для данага раёну, савгасу, колгасу. Складаньне севазваротаў—заданьне вялікай важнасьці. Для складаньня севазваротаў для савгасаў і колгасаў прыцягнуты лепшыя навуковыя працаўнікі ў галіне соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, агрономы. Кожны краявед-колгасьнік, кожная краязнаўчая ячэйка ў колгасе і савгасе, павінны прымаць актыўны ўдзел у рабоце па складаньню севазвароту свайго савгасу, колгасу, які-бы забясьпечыў найлепшае месца асноўным таварным культурам і павялічэньне іх ўраджайнасьці, а, значыць, і выкананьне плянавых заданьняў, найбольш правільнае і рацыянальнае выкарыстаньне ўласьцівасьцяй глебы, рабочай сілы, інвэнтару і г. д.

Увядзеньне правільных севазваротаў у даны пэрыод зьяўляецца ня толькі агрономічным мерапрыемствам, але і пытаньнем

клясавай барацьбы за ўкараненьне плянавасьці і навуковых асноў у сельскую гаспадарку.

З увядзеньнем севазваротаў ў колгасах і савгасах цесна зьвязаны пытаньні забесьпячэньня *чыстагатунковых* засеваў колгасных і савгасных палёў і своечасовая падрыхтоўка насеньня для пасеву (ачыстка, пратручваньне і інш.).

У гэтым годзе ў БССР гатунковым насеньнем павінна быць засеяна: збожжавых—23.000 га, ільну—8.000 га, бульбы—5.500 га, пры гэтым павінен быць праведзены строгі ўлік пасеваў гатунковага насеньня і організацыя пашпартызацыі насеньня. Перад краязнаўчымі організацыямі ў сувязі з гэтым стаіць задача сыстэматычнага вывучэньня і ўкараненьня ў колгасы і савгасы выпрабаваных, найбольш эфэктыўных культур. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на вывучэньне зімаўстойлівых і яравых культур для сяўбы на зіму і для звышраньняга пасеву. Адначасна з гэтым, краязнаўчыя організацыі павінны шырака разгарнуць досьледы па вывучэньню *новых сельска-гаспадарчых культур:* соя, топінамбур, італьянскія каноплі, цыкорыя, сланечнік, сарго і інш.

Досьледы Балотнага інстытуту, Біолёгічнага інстытуту АН і некаторых краязнаўчых організацый (у Рэчыцы, Рагачэве), паказалі магчымасьць разьвядзеньня ў БССР цэлага раду новых культур: цукровыя буракі, рыс, топінамбур, соя, сарго, алейныя культуры, вінаград і інш., але масавых досьледаў па гэтых новых для БССР культурах мы яшчэ ня маем. Краязнаўчыя ячэйкі ў колгасах і савгасах, а таксама паасобныя краяведы, павінны організаваць на спэцыяльных дасьледчых вучастках досьледы над новымі с.-г. культурамі і асабліва разгарнуць досьледы над тымі культурамі якія ўжо вынесены ў поле.

Вялізарнейшае значэньне, у сэнсе падвышэньня ўраджайнасьці, мае *хэмізацыя глебы.* Ва ўмовах БССР, дзе пераважаюць падзолістыя і забалочаныя тыпы глебы з кіслай рэакцыяй, з дрэннымі фізычнымі і біолёгічнымі якасьцямі, асабліва вялікае значэньне мае вапнаваньне глебы, якое, у сувязі з ужываньнем штучных і натуральных ўгнаеньняў, павінна зьявіцца найважнейшым сродкам падвышэньня ўраджайнасьці нашых соцыялістычных палёў.

Але для правільнай організацыі хэмізацыі глебы нам патрэбна дасканалае вывучэньне глеб ня толькі кожнага раёну, але і кожнага савгасу, колгасу. Нам патрэбна мець глебавыя карты кожнага раёну, савгасу, колгасу, з вызначэньнем тыпу глеб, іх фізычнага складу, кіслотнасьці. Гэту задачу вывучэньня глеб савгасаў, колгасаў павінны ўзяць на сябе краязнаўчыя ячэйкі ў колгасах і ШКМ.

Колгасныя краязнаўчыя ячэйкі павінны разгарнуць сыстэматычную работу па ўкараненьню аграглебавых ведаў і навыкаў дасьледваньня глеб сярод колгасьнікаў, бо толькі на падставе навуковага веданьня глебы можна зьмяняць гэтыя ўласьцівасьці ў мэтах атрыманьня больш высокіх ураджаяў.

Пытаньням хэмізацыі сельскай гаспадаркі партыя і ўрад надаюць надзвычайна вялікае зьначэньне. IV пленум ЦК КП(б)Б (1—5-га сьнежня 1932 г.) у сваей пастанове аб практычных мера-

прыемствах па правядзеньню пастаноў ЦК УсеКП(б) і СНК СССР аб падвышэньні ўраджайнасьці, аб пляне арганізацыі вясновай сяўбы ў 1933 г. зьвярнуў вялікую ўвагу на пытаньне форсаваньня разьвіцьця вытворчасьці мінэральнага ўгнаеньня з мясцовых рэсурсаў рэспублікі, на збор попелу да вясновай сяўбы (20 тыс. тон) вапнаваньне ня менш 10 тыс. га, скарыстоўваньне адкідаў прамысловасьці і нячыстот гарадоў, максымальнае скарыстоўваньне гною ў колгасах, засеў лубіну, як сродку падвышэньня ўраджайнасьці, і пашырэньне кармовай базы на плошчы ня менш як у 40 тыс. га, (разьдзел III, п. 6-7). Гэтая пастанова пленуму абавязвае краязнаўчыя арганізацыі па-бальшавіцку разгарнуць работу на мясцох па *выяўленьню мясцовых рэсурсаў для вырабу мінэральных угнаеньняў*, па выяўленьню і рацыянальнаму скарыстоўваньню колгасамі адкідаў прамысловасьці і нячыстот гарадоў, попелу, па тарфаваньню мінэральных глеб і г. д. На аснове навуковых даных, практыкі дасьледчых станцый і досьледаў у паасобных колгасах, краязнаўчыя арганізацыі разам з аграномамі павінны распрацаваць конкрэтныя пляны вясновых работ, выкарыстаньня ўсіх сродкаў і спосабаў угнаеньня глебы, каб атрымаць максымальныя ўраджаі.

У барацьбе за падвышэньне ўраджайнасьці ў савгасах і колгасах вялізарнейшую ролю адыгрывае і будзе адыгрываць *с.-г. тэхніка*, разьвіцьцё якой зьяўляецца вынікам пасьпяховага правядзеньня палітыкі партыі, накіраванай на індустрыялізацыю нашай краіны. У сваіх пастановах „Аб мерапрыемствах па падвышэньні ўраджайнасьці" СНК СССР і ЦК УсеКП(б) машынізацыі і мэханізацыі сельскай гаспадаркі, асабліва мэханізацыі тэхнічных і прапашных культур, надаюць асабліва важнае значэньне, як аднаму з лепшых сродкаў для ўзьняцьця ўраджайнасьці. IV пленум ЦК КП(б)Б таксама падкрэсьліў вялізарнейшае значэньне ўзмацненьня тэхнічнай узброенасьці сельскай гаспадаркі БССР, неабходнасьць забясьпечаньня савгасаў, колгасаў і МТС складанымі машынамі. Але трэба сказаць, што пытаньне асваеньня с.-г. тэхнікі і рацыянальнага яе выкарыстаньня ў нас яшчэ належным чынам ня вырашана. Мы недастаткова займаліся вывучэньнем найбольш поўнага і найбольш продукцыйнага выкарыстаньня с.-г. машын. Краязнаўчыя ячэйкі ў савгасах, колгасах, пры МТС павінны разам са спэцыялістамі распрацаваць мерапрыемствы па найбольш рацыянальнаму і эфэктыўнаму выкарыстоўваньню сельска-гаспадарчых машын у 1933 г. і весьці сыстэматычную барацьбу за поўнае асваеньне с.г. тэхнікі на аснове вывучэньня дасягненьняў лепшых МТС, савгасаў і колгасаў.

Правільная і своечасовая апрацоўка глебы, час і спосабы ўнясеньня ўгнаеньняў, тэрміны сяўбы і арганізацыя догляду за с.-г. культурамі і ўборкі ўраджаю адыгрываюць вельмі важную ролю ў падвышэньні ўраджайнасьці.

У практыцы колгасаў дзедаўскія традыцыі маюць яшчэ даволі моцныя карэньні ў вядзеньні сельскае гаспадаркі. Задача краязнаўчых арганізацый у вёсцы—разгарнуць рашучую барацьбу супроць рэакцыйных элемэнтаў, якія супраціўляюцца „ўкараненьню новых агратэхнічных форм падвышэньня ўраджайнасьці савгасных і колгасных палёў", на фактычным матар'яле дасьледчых устаноў

організацый паказаць колгасьнікам важнае значэньне правядзеньня вясновай сяўбы ў максымальна раньні і кароткі тэрмін (збожжа і тэхкультур—у 12 дзён, а бульбы і кораньплодаў—у 15 дзён), правільнай апрацоўкі глебы, радковага пасеву адсартаваным і пратручаным гатунковым насеньнем і г. д. Вялікую ўвагу павінны зьвярнуць краязнаўчыя організацыі на вывучэньне найбольш адпаведных для розных культур тэрмінаў сяўбы. Досьледы, напр., Ленінградзкага інстытуту прадзільных культур паказалі перавагу звышраньняга пасеву лёну. У саўгасе Палоннае звышраньні ўраджай даў 21,9 цн саломкі і 4,5 цн насеньня, а звычайны раньні пасеў (9/V)—20 цн. саломкі і 3,4 цн насеньня; у саўгасе Ломы звыштэрміновы пасеў даў 28,4 цн саломкі і 4,6 цн насеньня, тады як звычайны пасеў (19/V) даў усяго 18 цн саломкі і 2,6 цн насеньня. Інстытутам праводзіўся пасеў у 3 тэрміны: 1) пад сьнег, 2) калі сьнег ужо зьлёгся і 3) калі сьнег ужо зыйшоў, але зямля была яшчэ мерзлая. Досьледы паказалі, што найлепшы ўраджай атрымоўваецца пры сяўбе, калі сьнег ужо зыйшоў. У саўгасе „Тэкстыльшчык (Маск. вобл.) былі праведзены досьледы па вясноваму пасеву цыбулі, морквы і пятрушкі. Атрымаліся дадатныя вынікі: морква і пятрушка вясновага пасеву былі сабраны на паўмесяца раней, чым ураджай вясновай сяўбы; цыбулі, „батун“ было сабрана тры ўраджаі.

Вырашэньне пытаньня звыштэрміновых пасеваў і пасеву ўвосень раду гародных і яравых палявых культур мае вялізарнае практычнае значэньне як у сэнсе вырашэньня проблемы ўраджайнасьці, збору двайнога і нават трайнога ўраджаю, так і ў сэнсе найбольш рацыянальнага выкарыстоўваньня рабочай сілы, найбольш раньняга атрыманьня гародніны для грамадзкага харчаваньня і г. д. ЦК КП(б)Б і СНК БССР асабліва значэньне надаецца пашырэньню вопыту звышраньняй сяўбы аўсу і лёну.

Бязумоўна, што колгасныя і саўгасныя краязнаўчыя ячэйкі разам з аграномамі-краяведамі і ў сувязі з адпаведнымі дасьледчымі ўстановамі павінны організаваць досьледы на колгасных і саўгасных палёх па вывучэньню ўраджайнасьці розных с.-г. культур пры раньніх і звышраньніх тэрмінах сяўбы, розных спосабаў выпрацоўкі глебы, унясеньня ўгнаеньня, задзелкі насеньня і інш. Дадатныя вынікі дасьледчай работы краязнаўчыя організацыі павінны шырака ўкараняць у сельска-гаспадарчую практыку, выяўляць і популярызаваць дасягненьні саўгасаў і колгасаў у галіне падвышэньня ўраджайнасьці. Пры гэтым асноўная задача краязнаўчых організацый—кожнаму дасягненьню даць навуковае абгрунтаваньне.

Сярод іншых мерапрыемстваў па падвышэньню ўраджайнасьці вялікае значэньне адыгравае *барацьба з рознымі шкоднікамі і хваробамі* сельска-гаспадарчых культур. Паводле падлікаў НК РСІ па Саюзу ад розных шкоднікаў мы штогодна маем страты больш як на 1,5 мільярдаў руб. і па БССР больш, як на 100 мільёнаў руб. (па падліках тав. Дарожкіна). Сыстэма мерапрыемстваў па барацьбе з захворваньнямі і шкоднікамі с.-г. культур уключае ў сябе меры профіляктычнага характару (апрацоўка глебы, пратручваньне насеньня, сартовы адбор і інш.) і меры непасрэднай

барацьбы з бачнымі шкоднікамі і мікроскопічнымі бактэрыямі (мэханічны і хэмічны мэтоды барацьбы).

Краезнаўчыя ячэйкі павінны зьвярнуць вялікую ўвагу на арганізацыю барацьбы са шкоднікамі і хваробамі сельска-гаспадарчых культур, а гэта, перш за ўсё, патрабуе вывучэньня прычын, якія параджаюць тыя ці іншыя хваробы, біолёгіі шкоднікаў, умоў і часу іх зьяўленьня. Досьледы ўжо памянёнага Ленінградзкага ін-ту прадзільных культур і дасьледчых станцый паказалі, напр., што чым раней праводзіцца сяўба лёну, тым меншая бывае пашкоджанасьць яго. Значыць, раньні тэрмін сяўбы зьявіўся адным з сродкаў барацьбы са шкоднікамі. Зьяўленьне шкоднікаў сельска-гаспадарчых культур бывае заўсёды масавым у кожнай мясцовасьці і таму, іменна, трэба ведаць час зьяўленьня гэтых шкоднікаў, каб ужыць адпаведныя меры барацьбы.

У сувязі з разьвіцьцём нашай хэмічнай прамысловасьці ў барацьбе са шкоднікамі і хваробамі сельскай гаспадаркі першае месца будзе бязумоўна займаць хэмічны мэтод барацьбы, але, разам з тым, і мэханічны мэтод павінен таксама скарыстоўвацца ў поўнай меры. Краязнаўчыя ячэйкі павінны прапрацаваць ў сябе належным чынам пытаньне барацьбы са шкоднікамі і хваробамі сельска-гаспадарчых культур, заняцца вывучэньнем гэтых шкоднікаў і хвароб ў пэўных конкрэтных умовах свайго колгасу, савгасу, распрацаваць сумесна з аграномамі сыстэму мерапрыемстваў па барацьбе са шкоднікамі і хваробамі збожжавых, садова-гародных лубяных культур і бульбы. Абавязкова трэба організаваць вывучэньне вынікаў ужываньня розных сродкаў у барацьбе са шкоднікамі і хваробамі пэўных палявых і садова-гародных культур. Краязнаўчыя організацыі могуць і павінны адыграць пэўную ролю ў адшуканьні атрутных расьлін, як сыравіны для вырабу расьлінных атрут.

У пастанове ЦК КП(б)Б і СНК БССР „Аб мерапрыемствах па організацыі вясновай сяўбы“ адзначана, што „правядзеньне агротэхнічных мерапрыемстваў у значнай меры будзе вырашаць колгасная брыгада“. За кожнай брыгадай у кожным колгасе павінны быць замацаваны вытворча-зямельныя вучасткі, вызначаны пляны і тэрміны вясновай сяўбы з абавязковым указаньнем усяго комплексу агротэхнічных мерапрыемстваў, якія неабходна прывесьці на кожным вучастку, і даны заданьні па нормах выпрацоўкі, па ўраджайнасьці і інш. Краязнаўчыя ячэйкі ў колгасах у сувязі з гэтым павінны організаваць дакладнае вывучэньне работы колгасных брыгад, каб выявіць дасягненьні лепшых брыгад і вопыт іх перанесьці ў практыку іншых колгасаў. Вывучэньне работы колгасных брыгад—адна з важнейшых задач краязнаўчых досьледаў у колгасе. Разам з гэтым ні ў якім разе нельга ігнараваць і вывучэньне ўмоў найлепшага правядзеньня вясновай сяўбы аднаасобнікамі.

Складаньне вытворчых плянаў па ўраджайнасьці і сяўбе ў кожным раёне, савгасе, МТС, колгасе зьяўляецца надзвычайна важнай і адказнай задачай. IV пленум ЦК КП(б)Б даў указаньні, што „партыйным і зямельна-колгасным органам трэба забясьпечыць такі парадак складаньня вытворчых плянаў, каб побач з выз-

начэньнем вытворчых заданьняў былі намечаны (пры непасрэдным удзеле колгаснага актыву, рабочых савгасаў, МТС, лепшых ударнікаў) практычныя меры па выкананьню заданьняў: як падвысіць ўраджай па кожнай культуры, як забясьпечыць барацьбу са стратамі, як падвысіць удой і г. д. Вытворчае заданьне павінна зьявіцца баявой праграмай работы ўсіх зямельна-колгасных організацый у справе выкананьня дырэктыў партыі па падвышэньню ўраджайнасьці". Гэтай пастановай пленуму краязнаўчыя організацыі катэгорычна абавязуюцца прымаць актыўны ўдзел у складаньні плянаў вясновае сяўбы і падвышэньня ўраджайнасьці. На падставе вынікаў сваёй работы краязнаўчыя ячэйкі ў колгасах, савгасах і МТС павінны дапамагчы партыйным і зямельна-колгасным органам найлепш вырашыць задачу—*як* падвысіць ураджай, *як* забясьпечыць барацьбу з стратамі, *як* забясьпечыць найбольшую продукцыйнасьць работы і г. д.

Плянаваньне работы ў сваім колгасе, савгасе мае выключна вялікае значэньне. Чым тлумачацца, напрыклад, зрывы тэрмінаў сяўбы і ўборкі ў колгасах—у значнай меры недастатковай распрацаванасьцю вытворчых плянаў, недастатковым улікам і расстаноўкай рабочай сілы і г. д. Удзел краязнаўчых організацый у складаньні вытворчых плянаў савгасаў, колгасаў і МТС, павінен забясьпечыць выкарыстаньне ўсіх унутраных рэсурсаў колгасаў і савгасаў для выкананьня і перавыкананьня плянавых заданьняў. У практыцы колгаснага плянаваньня ў мінулым былі выпадкі чыста канцылярскага складаньня плянаў, сьвядомае пераўмяншэнь не магчымых і зусім рэальных паказчыкаў вытворчасьці, а часам і наадварот—вызначаліся заданьні, якія нельга было выканаць. Вось чаму патрабуецца ўзмацненьне бальшавіцкай пільнасьці ў складаньні вытворчых плянаў, навуковае іх абгрунтаваньне, дакладныя разьлікі па кожнаму віду работ і правільная організацыя работы для поўнага і сваячасовага выкананьня прынятага пляну. Барацьба за вытворчы плян колгасу ёсьць барацьба за падвышэньне проблемы ўраджайнасьці колгасных палёў, за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў, за соцыялістычную пераробку колгасьнікаў.

У барацьбе за падвышэньне ўраджайнасьці і пасьпяховае правядзеньне вясновай сяўбы актыўны ўдзел павінны прыняць і ўсе краязнаўчыя музэі. Організацыя адпаведных выставак, паказ дасягненьняў перадавых савгасаў і колгасаў у галіне падвышэньня ўраджайнасьці, пропаганда і азнаямленьне колгасьнікаў з новымі с.-г. культурамі, якія маюць пэрспэктывы разьвіцьця ў даным раёне—вось, прыкладна, характар той работы, якую павінны разгарнуць краязнаўчыя музэі ў справе барацьбы за падвышэньне ўраджайнасьці і бальшавіцкае правядзеньне вясновай сяўбы.

IV пленум ЦК КП(б)Б адзначыў і папярэдзіў усе партыйныя організацыі, зямельна-колгасныя ўстановы, рабочыя масы і ўсю пролетарскую грамадзкасьць, што барацьба за падвышэньне ўраджайнасьці, далейшае організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў, падрыхтоўка і правядзеньне вясновай сяўбы будзе праходзіць ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы і што: „рэштка кулацтва і клясава-варожыя элемэнты будуць імкнуцца організа-

ваць саботаж і супраціўленьне справе барацьбы за соцыялістычную рэконструкцыю сельскай гаспадаркі". Адсюль выцякае неабходнасьць ўзмацненьня бальшавіцкае пільнасьці і рашучай барацьбы з кулацтвам і контррэволюцыйнымі элемэнтамі, якія імкнуцца разваліць колгасы, перашкодзіць пасьпяховаму росту нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Трэба памятаць, што „кулакі разьбіты, але яны далёка яшчэ не дабіты." (Сталін). Цяперашнія кулакі, падкулачнікі і антысавецкія элемэнты ў вёсцы „сядзяць ў самым колгасе і займаюць там пасады кладаўшчыкоў, загадчыкаў гаспадарак, рахункаводаў, сакратароў і г. д." (Сталін) і адтуль цішком падрываюць колгасы. Мэтоды барацьбы клясавых ворагаў цяпер зьмяніліся. „Вораг зразумеў сілу і магутнасьць новага ладу ў вёсцы і, зразумела, перабудаваўся, зьмяніў сваю тактыку, перайшоў ад простай атакі супроць колгасаў да работы „ціхай сапай" (Сталін).

Краязнаўчыя організацыі павінны вывучыць новую тактыку барацьбы кулацтва і клясава-варожых элемэнтаў у колгасах і выкрыць іх жульніцкія махінацыі, каб дапамагчы партыі і політаддзелам МТС і савгасаў канчаткова ачысьціць колгасы ад варожых элемэнтаў і пралязаньня іх у кіраўніцтва і на адказныя вучасткі работы ў колгасах (у праўленьне, брыгадзіры, у загадчыкі гаспадарак, кладаўшчыкі і г. д.). Стаўка на разлажэньне кіраўніцтва, прытупленьне рэволюцыйнай пільнасьці адказных працаўнікоў колгасаў, падрыў працоўнае дысцыпліны, порча машын, прыўменшаньне норм і плянавых заданьняў, стварэньне большых, чым патрэбна, фондаў у колгасах, распальваньне ў колгасьніках уласьніцкіх інстынктаў, распрадажа і разбазарваньне колгаснае маемасьці, адцягненьне тэрмінаў сельска-гаспадарчых работ і выкананьня розных дзяржаўных заданьняў і г. д.,—вось тыя формы і мэтоды, якімі пралезшыя ў колгасы кулакі і клясава-варожыя элемэнты імкнуцца разваліць колгасы, перашкодзіць іх гаспадарчаму ўмацаваньню.

У кожным колгасе маюцца пэўныя асаблівасьці праяўленьня клясавае барацьбы. Краязнаўчыя організацыі павінны выкрыць гэтыя асаблівасьці і паказаць колгасьнікам контррэволюцыйную дзейнасьць клясавага ворага. Нельга ні на хвіліну забывацца на тое, што вялізарныя задачы, пастаўленыя партыяй па падвышэньню ўраджайнасьці, выкананьню пляну вясновай сяўбы першага году другой пяцігодкі, організацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню колгасаў і соцыялістычнаму перавыхаваньню колгасьнікаў могуць быць выкананы толькі пры ўмовах рашучай барацьбы з клясавым ворагам і яго агэнтурай—правым і левым опортунізмам—і ўкараненьні ў сельскую гаспадарку передавой тэхнікі і дасягненьняў навукі.

В. Серафімаў

# Клясавая барацьба на вёсцы

Брадзецкі сельсавет Бярэзінскага раёну знаходзіцца ў асаблівых умовах: тут няма і ня было партыйнай ячэйкі, нават да апошняга часу ня было ніводняга партыйца, с/с. знаходзіцца на далёкай адлегласьці ад раённага цэнтру. Усё гэта спрыяла на асобных участках клясаваму ворагу, кулаку. Слабы процант колектывізацыі (каля 20%), нават у цэнтры с/савету, у самай вялікай вёсцы Брадзецк, няма колгасу. Сельсавет не дае рашучага адпору клясаваму ворагу, мала таго ў самае кіраўніцтва с/савету пралез кулак. Аб гэтым будзе гаварыцца асобна. Цяпер мы пазнаёмімся з манэўрамі кулака, залезшага ў колгас, у яго барацьбе супроць колгасу.

Слабае кіраўніцтва колгасным будаўніцтвам з боку с/савету, слабы націск на кулака і патураньне кулаку далі магчымасьць Крату Аўраму да 1930 г. ня быць індывідуальна абкладзеным, а ў 30 годзе быць „перадавіком“ па ўступленьню ў колгас „Актывіст“ у вёсцы Крапіўнае. На справе-ж Крот Аўрам зьяўляецца і тады зьяўляўся сапраўдным кулаком—крывасмокам працоўных мас аколіцы. Крот Аўрам меў свой уласны вадзяны млын, сваю крупарушку і сваю воўначоску. Воўначоску ен „прадаў“ і трымаў яе ў другім сельсавеце ў сваякоў, а млын цяпер зьяўляецца ўласьнасьцю колгасу „Актывіст“, у якім знаходзіцца і сам Крот. Млын стаіць на дварэ ў Крата, а двор Крата і цяпер падобны да панскага двара. Крот, як „перадавік“, быў абраны старшынёй колгасу і „працуе“ да апошняга часу. У колгасе, апрача Крата, знаходзіцца целы рад заможнікаў разам з яго родным братам. Работа ўсёй гэтай кулацка-заможнай групы накіравана на развал колгасу, на дыскрэдытацыю колгаснага будаўніцтва.

Першае, што кідаецца ў вочы, гэта тое, што кулакі і заможнікі стварылі сваю ўласную гаспадарку і поўнасьцю падрыхтаваліся да выхаду з колгасу. Пачынаючы са старшыні—кулака Крата Аўрама, кожны заможнік мае па 2 з лішнім га гароду. Апрача таго заможнікі для сябе на колгасным полі пасеялі па 1 га і болей грэчкі і бульбы. Кулацкая ідэолёгія старшыні Крата з усёй яскравасьцю выяўляецца на кожным кроку. Кулак Крот эксплёатуе сялян, наймаючы іх капаць і ўбіраць яго ўласную бульбу з поля.

Усе заможнікі і Крот, чакаючы поўнага развалу колгасу, пасеялі сабе азімае жыта ў сваіх сваякоў, нават і ў іншых вёсках. Крот пасеяў сабе жыта ў свайго шваrpa.

Адначасна ідзе разбазарваньне колгаснае маёмасьці. Мінулай зімой організаваным парадкам разбазарвалася сена. „Вартаўніком" зьяўляўся брат Крата і таму сена бралі заможнікі, раздавалі сваяком, знаёмым, бралі аднаособнікі, а вясной, калі пачалася работа, ня было чым карміць коняй. Улетку на вясельле заможніка Маркоўскага быў зарэзаны колгасны племяны бык. Пры ўборцы Крот Аўрам краў збожжа і ня раз выпраўляў сваякоў—аднаасобнікаў з гэтым збожжам на рынак. Пры ўборцы бульба ў большасьці пакідалася на полі, а адтуль раскрадалася заможнікамі і аднаособнікамі. Лубін, які быў зданы насеньнем пры ўступленьні ў колгас, раскрадзены і распрадапы заможнікамі. Таксама раскрадаўся колгасны гной і звозіўся заможнікамі на свае гароды, а колгаснае жыта сеялася зусім без угнаеньня. Колгасьнікі-беднякі гавораць: „заела нас кулаччо, з-за іх будзем бяз хлеба, ня ўродзіць хлеб!".

Заможнік Маркоўскі цэлы год даіў абагуленую карову, а калі адзін раз бядняк узяў літар малака для малых дзяцей, дык заможнікі ледзь яго ня зьелі і паднялі гвалт на ўсю ваколіцу. Цяпер гэтую карову Маркоўскі прадаў і грошы ўзяў сабе.

Трэба асабліва падкрэсьліць, што кулакі бязьлітасна прыгнятаюць беднату ў калгасе „Актывіст". Калі бедната імкнулася пасеяць грэчку, то заможнікі гэтага не дапусьцілі, бядняк Букаты быў прагнаны з поля і вымушан кінуць колгас. Для фуражу кулакі бралі сабе самыя лепшыя коні, беднаце абяцалі толькі даць касіць атаву.

Такая кулацкая палітыка ў колгасе і тэрор над беднатой прымусілі большасьць колгасьнікаў выйсьці з колгасу. Выйшла 20 чал., а засталося 12. Прычым з першых 20—15-17 беднякоў, якія не плацілі падатку да ўступленьня ў колгас. Цяпер у колгасе засталося 3—4 беднякі, але заможнікі і кулакі ўсімі мерамі імкнуцца выгнаць і іх з колгасу. Заможнікі адкрыта заяўляюць „чаго вы ішлі ў колгас? Нас „гора" прымусіла трэба было ўцячы ад індывідуальнага абкладаньня". Бедната адсоўваецца ад кіраўнічых пасад у колгасе і ашукваецца пры запісу працадзён.

Па выкананьню абавязкаў перад дзяржавай колгас „Актывіст" на апошнім месцы і пляцецца ў хвасьце нават у аднаасобнага сэктара. Калі, скажам, трэба мяць лён і хутчэй выконваць загатоўкі, знаходзіцца рад прычын, каб адмовіцца ад работы, а галоўнае сьвята (нядзеля). З вялікай нацяжкай прымусілі „Актывіста" выканаць насенную ссуду.

Колгас „Актывіст" патрабуе безадкладна выгнаць кулакоў, падкулачнікаў і ўсю зграю шкоднікаў. Адначасна трэба разгарнуць шырокую растлумачальную работу сярод бедняты і серадиякоў, якія вышлі з колгасу. З боку РК КП(б)Б прымаюцца меры і трэба думаць, што гэта работа будзе даведзена да канца.

Трэба таксама адзначыць недаацэнку гэтай клясавай барацьбы з боку былога старшыні Бярэзінскай РСІ т. Дзергачова. Аб усім гэтым яшчэ ў жніўні гэтага году пісаў у раённую Бярэзінскую

РСІ, вышаўшы з колгасу, бядняк Букатаў Янка. Бядняк Букатаў у сваёй заяве пісаў, што ў колгасе заселі кулакі, што кулакі прыгнятаюць беднату, што бедната разбягаецца з колгасу і што я, Букатаў, выходжу з колгасу, што кулакі і сам старшыня—кулак раскрадаюць маёмасьць колгасу. Букатаў таксама пісаў у РСІ, што с/савет даў яму зямлю, але яе няма чым абсеяць, што ў яго нічога няма. У заключэньне бядняк Букатаў пісаў, што ў такім колгасе я быць не магу, „а як пабудуецца добры колгас я ізноў уступлю і буду працаваць як і да гэтага часу". Гэтага сыгналу аб кулацкім засільлі ў колгасе т. Дзергачоў не захацеў зразумець, ня ўбачыў Дзергачоў і таго, што і с/савет не займаецца гэтай справай. Выйшла бедната з колгасу, ну і ладна; далі ёй зямлі і на гэтым справу скончылі. Свае адносіны да ўсёй гэтай справы старшыня раённай РСІ выразіў у тупой бюрократычнай рэзолюцыі. На заяве Букатава ён напісаў: „Брадзецкай сэкцыі РСІ т. Вараб'ёву. Тэрмінова на месцы разабраць справу аб звароце насеньня г. Букатаву Янку. Тэрмін 29/IX—32 г. Бярэзінскае РСІ С. Дзергачоў". Гэта заява, з рэзолюцыяй Дзергачова і цяпер ляжыць у „справах" сэкцыі РСІ Брадзецкага с/савету. Даўно мінуў устаноўлены тэрмін выкананьня—25/IX, а ніхто гэтай справай не займаўся. „Справы" сэкцыі РСІ Брадзецкага с/савету папоўніліся яшчэ аднэй заявай Букатава ад 29/XI. Прайшоў яшчэ месяц, прайшло чатыры месяцы і ніхто гэтым ня цікавіўся.

Няхай вырашаюць на месцы. Ня цікавіўся Райколгассаюз, ня цікавіўся і райземаддзел становішчам у колгасе „Актывіст". Чым, як ня клясавай тупасьцю, як ня курынай сьлепатой, як ня прымірэнчымі адносінамі да кулацкай авантуры можна растлумачыць такое становішча. Небясьпечнае становішча і ў іншых колгасах у Брадзецкім с/савеце. РК партыі і адпаведныя органы заняліся гэтай справай. Трэба спадзявацца што гэта справа будзя даведзена да канца і зьявіцца палітычным урокам у справе клясавай пільнасьці і бязьлітаснай барацьбы з клясавым ворагам у колгасным будаўніцтве. Трэба думаць, што РК і адпаведныя органы прыцягнуць да суровай адказнасьці тых, хто гэту справу павінен быў выкрыць сваячасова і сваячасова выгнаць кулакоў з колгасу.

Н. А. Дарожкін

# Сучаснае становішча вывучэньня фітофторы на бульбе і мерапрыемствы па барацьбе з ёю

Сярод раду грыбных і бактэрыяльных захворваньняў бульбы фітофтора або бульбяны грыбок па шкоднасьці і тых стратах, якія яна прыносіць сельскай гаспадарцы, займае першае месца ў СССР і, зразумела, у большасьці замежных дзяржаў як Эўропы, так і Амэрыкі. У Эўропе фітофтора была заўважана ў 30-х гадох мінулага стагодзьдзя. Гэта прыблізна ў той час, калі ў былой Расіі рабіліся першыя крокі да пашырэньня культуры бульбы. Фітофтора ў Эўропу была завезена з пасадачным матар'ялам бульбы з Паўднёвай Амэрыкі. Прычынай сур'ёзнага вывучэньня фітофторы было эпідэмічнае распаўсюджаньне яе ў1845—47 гг., якое ахапіла бульбяныя засевы Англіі, Фінлядыі, Францыі, Голяндыі і г. д., дзякуючы чаму атрымалася масавае гніцьцё бульбы. Напрыклад, у Ірляндыі, дзе ў той час насельніцтва харчавалася амаль выключна бульбай, быў вялікі голад. З гэтага часу на важнасьць вывучэньня фітофторы была зьвернута ўвага ня толькі вучоных батанікаў, сельскіх гаспадароў, але і асоб, якія займаліся соцыяльна-экономічнымі дысцыплінамі.

Першае дасьледваньне бульбянога грыбка—фітофторы — у Эўропе было зроблена Марціусам і надрукавана ў Мюнхэне ў 1842 г. пад назвай „Die Kartoffelepidemia der letzen Sahzi (указаньне Растоўцава ). Марціўс указаў, што прычынай захворваньня бульбы зьяўляецца якісьці грыб, але дакладна яго не ўстанавіў. Пазьней Лібэр вызначыў яго як Botritis, Унгер—як Perenosporo, trifurcata і г. д. Усебаковае дасьледваньне бульбянага грыбка—фітофторы—было зроблена вядомым міколёгам Дэ-Бары (де-Вачу) у 1861., ім-жа (Дэ-Бары) і навуковая назва гэтаму грыбку ўпяршыню была дана Phytophthora infestans д-В, якая і засталася да гэтага часу. У гісторыі вывучэньня Phytophthora infestans было многа тэорый, якія супярэчылі адна другой. Многа было розных тэорый аб тым, дзе і як зімуе грыб. Ды гэта зусім і зразумела, бо ад гэтага залежыць кірунак мерапрыемстваў па барацьбе з захворваньнем. З такіх гіпотэз мы спынімся на некалькіх. Дэ-Бары лічыў, што першае заражэньне бульбоўніку адбываецца ад хворай бульбіны. Такім чынам, паводле Дэ-Бары, заражоная хваробай бульбіна дае пасьля пасадкі і хворую расьліну, разам з ростам якой расьце ў сьцябле заражонай бульбіны грыбня,

якая потым і шкодзіць лісьцям. Гіпотэза Дэ-Бары экспэрымэнтальна даведзена Salmon'ам і Ware і назіраньнем іншых дасьледвальнікаў. Эриксон меркаваў, што паразыт мае магчымасьць разьвівацца ў расьліне ў стадыі мікаплязмы і захоўваецца ў такім выглядзе ў клубянёх, але гэтай мікаплязмы на працягу некалькі дзясяткаў год пасьля зьяўленьня гіпотэзы Эриксона ніхто ня ўбачыў і, трэба думаць, што яе і сам Эриксон ня бачыў. І, урэшце, гіпотэза Брэфельда ў асноўным зводзіцца да таго, што фітофтора зімуе ў глебе і што глеба зьяўляецца асноўнай крыніцай заражэньня. Такога пункту погляду прытрымліваецца Дэ-Брайн (de Brayn), а таксама і Бураў, які зусім няправільна даводзіць гіпотэзу Брэфельда. Бураў гаворыць: „Шматлікія нагляданьні паказваюць, што адсутнасьць хворых бульбін пры ўборцы і пасадцы зусім здаровых бульбін на наступны год ані не гарантуе, што пасаджаная бульба не пашкодзіцца хваробай". З гэтага ён робіць вывад, што заражэньне адбываецца ад глебы. Памылка Бурава заключаецца ў тым, што ён забываецца на існаваньне апрача пяршачнай інфэкцыі другаковай, пры якой шляхам рассосваньня конідыяў адбываецца заражэньне бульбоўніка, атрыманага нават ад здаровых бульбін. Што датычыцца таго, што часамі пры пасадцы хворай бульбы мы не заўважаем хваробы, то гэта трэба тлумачыць няспрыяючымі кліматычнымі ўмовамі данага году, а іменна адсутнасьцю вільгаці. Шматгадовымі назіраньнямі ўстаноўлена, што ў засушлівыя гады, калі наглядаецца фітофтора, шкоды яна амаль ня прыносіць ніякай. Урэшце заслугоўвае ўвагі па гэтаму пытаньню думка аднаго з фітопатолёгаў СССР проф. Н. А. Наумава. Наумаў гаворыць: „наконт зімоўкі міцэлію ў пашкоджаным клубяні прыходзіцца заўважыць, што ў гэтым няма нічога няпэўнага, таму што многія іншыя пэраноспоравыя, якія маюць нават ооспоры, маюць зімуючы у тканках міцэлі. Пранікаючы з клубяня ў расткі, а потым у сьцябло, гэты міцэлі ўрэшце дасягае ліста, дзе і прыступае да споранашэньня" („Болезни овощных и садовых растений").

З паданых вышэй гіпотэз мы лічым, што пасадачны матар'ял зьяўляецца асноўнай і галоўнай крыніцай заражэньня і таму пры выпрацоўцы мерапрыемстваў па барацьбе з фітофторай галоўная ўвага павінна быць накіравана на пасадачны матар'ял як па шляху абеззаражаньня яго, так і па шляху замены няўстойлівых сартоў больш устойлівымі супроць фітофторы.

*Характарыстыка захворваньня*. На лісьцях бульбы, пераважна з краёў, зьяўляюцца цьмяныя акруглыя плямы. Такія-ж самыя плямы зьяўляюцца на ліставых сьцяблох і нават на кветках, прычым усе наземныя часткі расьлін хутка загніваюць і чарнеюць. На клубянёх хвароба зьяўляецца ў выглядзе невялічкіх уціснутых плям на лушпайцы. На гэтых мясцох мякаць прымае па пэрыфэрыі карычневую афарбоўку і зьнішчаецца мокрай гнільлю, далей хвароба распаўсюджваецца па ўсім клубяні. Як правіла, у БССР першае зьяўленьне фітофторы бывае ў ліпені—жніўні месяцы. Час зьяўленьня шмат у чым залежыць ад фізыолёгічнае сьпеласьці. Больш за ўсё фітофтора зьяўляецца ў часе красаваньня або зараз-жа пасьля яго.

Зьяўленьне фітофторы бывае далёка неаднолькавым на розных сартох бульбы, на розных глебах. Так, напрыклад, фітофтора ў ваколіцах Менску, на позьніх сартох, у 1929 г. была зарэгістравана 29 верасьня, у 1930г.—16 ліпеня, у 1931 г.—17 ліпеня. У 1932 г. яна была зарэгістравана на Раньняй Ружовай—6/VII, Вольтмане—21/VII, Сьвіцязі—23/VII, Дзодары—19/VII, Кругеры—20VII. У БССР Распаўсюджаньне фітофторы настолькі пашырана, што нават няма ніводнага раёну дзе яна ня была-б зарэгістравана, але шкоднасьць яе ня ўсюды і ня кожны год аднолькавая. На эпідэмічнае распаўсюджаньне фітофторы ў БССР у 1924-25 г. указваў проф. Медзіш і рад іншых дасьледвальнікаў, але больш дэталёвае вывучэньне яе шкоднасьці і географічнага распаўсюджаньня па БССР. пачалося з 1930 г. Так, нашымі досьледамі ў 1930 г. на Беларускай бульбянай станцыі было ўстаноўлена, што апырскваньне бордоскай вадкасьцю падвышае ўраджайнасьць бульбы да 50% больш, чым з дзялянак неапырсканых.

Першае абсьледваньне ў БССР на карантынных шкоднікаў і хвароб, якое праводзілася намі ў прымежных раёнах БССР у 1931 г., дало багаты матар'ял аб распаўсюджаньні фітофторы.

## Уплыў глебава-кліматычных умоў

Разьвіцьцё фітофторы пэўным чынам залежыць ад глебава-кліматычных умоў. У мясцовасьцях з вільготным кліматам, з цяжкімі глiністымі і сугліністымі глебамі найбольш за ўсё разьвіваецца фітофтора. Гэта асноўнае палажэньне цалкам можа быць аднесена і да БССР. Так, напрыклад, у такіх раёнах, як Тураўскі, Жыткавіцкі, Лельчыцкі, Капыльскі, дзе глебы моцна ападзоленыя і балоцістыя, мы маем высокі процант фітофторы. Але ўплыў глебавых умоў ні ў якім разе нельга разглядаць ізолявана ад кліматычных і, у прыватнасьці, ад ападкаў.

Як ужо адзначалася намі вышэй, першае паяўленьне фітофторы ў БССР на раньніх сартох адбываецца ў першай палове ліпеня, а на позьніх—у другой палове ліпеня і першых чыслах жніўня. Такім чынам, колькасьць ападкаў у ліпені і жніўні пры аднолькавых глебавых і іншых умовах вырашае пытаньне аб распаўсюджаньні або нераспаўсюджаньні фітофторы. Калі, напрыклад, у ліпені месяцы ападкаў выпадае менш, чым шматгадовая сярэдняя, то загадзя можна сказаць, што раньнія сарты ад фітофторы амаль ніякай шкоды ня будуць мець і г. д.

## Адносіны розных сартоў да пашкоджаньня

Сартовая трываласьць у адносінах да фітофторы далёка неаднолькавая. Хаця зусім трывалых сартоў мы ня маем, але ёсьць многа сартоў, якія пашкоджваюцца фітофторай ня ў значнай ступені, а такая (невялікая) пашкоджанасьць па сутнасьці мала ўплывае на памяншэньне ўраджаю.

Пашкоджанасьць розных сартоў

| Назва сорту | % фітофторы | | Назва сорту | % фітофторы | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Бульбоўнік | Клубяні | | Бульбоўнік | Клубяні |
| 1. Вольтман. . . . | 15,5 | 1,8 | 8. Парнасія . . . | 37,1 | 1,8 |
| 2 Сьвіцязь . . . . | 12,9 | 0,5 | 9. Сас . . . . . | 55,5 | — |
| 3. Грацыя . . . . | 2,75 | — | 10. Юбэль . . . . | 56,5 | — |
| 4. Гэрой. . . . . | 9,15 | 1,0 | 11. Сітцавы. . . . | 68,6 | — |
| 5. Нэстар . . . . | 2,05 | 1,5 | 12. Эпікур . . . . | 89,2 | 2,3 |
| 6. Сылезія . . . . | 20,6 | 1,0 | 13. Раньняя ружа . . | 91,6 | 5,4 |
| 7. Дэодара . . . . | 38,4 | — | | | |

З гэтай таблічкі можна заўважыць, што найбольш трывалай у адносінах да фітофторы аказалася Грацыя як па бульбоўніку, так і па клубянёх і тое, што пашкоджаньне фітофторай бульбоўніку яшчэ далёка ня сьведчыць аб абавязковай пашкоджанасьці клубянёў на гэтых экзэмплярах.

У заключэньне трэба сказаць, што па ступені пашкоджанасьці ўсе сарты можна разьбіць на тры групы: група позьнясьпелых, сярэднясьпелых і раньнясьпелых. Прычым найбольшы процант пашкоданьня маюць сарты раньнясьпелыя, другое месца займаюць сярэднясьпелыя і найбольш устойлівымі зьяўляюцца групы позьнясьпелых сартоў.

*Угнаеньне*. Падбор належным чынам угнаеньня пад бульбу адыгрывае вялікую ролю ў разьвіцьці фітофторы. Гэтае палажэньне з усёй яскравасьцю падкрэсьліваецца ніжэйзьмешчанай табліцай.

| Назва раёну і с/с. | Глеба | Сорт | Угнаеньне | % пашкодж. фітофторай |
|---|---|---|---|---|
| 1. Заслаўскі р., Старасельскі с/с . . . | Суглінiстая | Позьні | Супэр+калійная соль | 4 |
| | — | „ | Гной | 10,2 |
| 2. Талочынскі р. . . | — | „ | Гной+мінэральн. ўгнаен. | 5,1 |
| | — | „ | Гной | 6,3 |
| 3. Горацкі р. . . . | — | „ | Гной | 17,0 |
| | — | „ | Гной+мінэральн. ўгнаен. | 11,3 |
| 4. Вузьдзянскі р., Прысынкаўскі с/с. . . | — | „ | Гной+мінэральн. ўгнаен. | 54,4 |
| | — | „ | Гной | 90,0 |

| Назва раёну і с/с. | Глеба | Сорт | Угнаеньне | % пашкодж. фітофтораи |
|---|---|---|---|---|
| 5. Чырвона-Слабодзкі раён, Чырвона-Слабодзкі с/с. . . . | — | Вольтман | Гной | 87,2 |
| | — | " | Гной+мінэральн. ўгнаен. | 48,5 |
| 6. Полацкі р., Заскатскі с/с. . . . . | — | Позьні | Гной | 8,0 |
| | | " | Супэрфосфат | 1,4 |
| 7. Асьвейскі р. і с/с. . | — | " | Сыльвініт | 1,81 |
| | | " | Гной | 11,3 |
| 8. Менскі р. . . . | — | Сілезія | Супэрфосфат | 18,0 |
| | | " | Гной | 34,0 |
| 9. Смалявіцкі р., Жодзінскі с/с. . . . | — | " | Гной+супэрфосфат | 1,7 |
| | | " | Гной | 14,4 |
| 10. Гомельскі р. . . . | — | Вольтман | Гной+лубін | 4,9 |
| | | " | Гной | 14,5 |

Такім чынам ва ўсіх выпадках мы маем пэўнае зьніжэньне проценту фітофторы па мінэральных угнаеньнях і падвышэньне проценту фітофторы па гною. Дзеля таго зусім правільным зьяўляецца ўказаньне проф. Н. А. Наумава аб тым, што хэмізм глебы і ўгнаеньняў, якія ў яе ўносяцца, відавочна, адбіваецца на здольнасьці бульбы заражацца фітофторай.

### Мерапрыемствы па барацьбе з фірофторай

Прыведзеная характарыстыка захворваньня бульбы на фітофтору, характарыстыка ўплыву на яе глебава-кліматычных умоў, угнаеньня, сартовай трываласьці і г. д.—дазваляе нам зрабіць наступныя вывады:

1) Ва ўмовах БССР бульбяны грыбок (фітофтора), распаўсюджаны па ўсіх раёнах і зьяўляецца напасьцю ў справе бульбаразьвядзеньня.

2) Глебава-кліматычныя ўмовы спрыяльны для яго разьвіцьця.

3) Для змаганьня за падвышэньне ўраджайнасьці бульбы, побач з іншымі фактарамі, патрэбна рашучая барацьба з захворваньнем бульбы, без чаго нельга сур'ёзна ставіць пытаньне аб уздыме ўраджаю—гэтай цэнтральнай задачы сёнешняга дня.

Што датычыцца мерапрыемстваў па барацьбе з фітофторай, дык яны павінны быць накіраваны па 3-х галоўнейшых групах:

1) агратэхнічныя мерапрыемствы,
2) сартавы падбор і
3) хэмічны мэтод барацьбы.

Да характарыстыкі кожнай групы мы зараз і прыступаем. *Агратэхнічныя мерапрыемствы.* Агратэхнічныя мерапрыемствы можна падзяліць на тры часткі:

1) падрыхтоўка да пасадкі, уключаючы сюды ўгнаеньне і севазварот, 2) падрыхтоўка да ўборкі і ўборка, 3) захоўваньне бульбы ў зімовы час.

Пасадка бульбы мае вельмі важнае значэньне. Яна павінна рабіцца толькі спэцыяльна адсартаваным матар'ялам бяз ніякіх адзнак захворваньня і іншых пашкоджаньняў; адсартаваны матар'ял павінен быць абавязкова прасушаны перад пасадкай на працягу 2-3 дзён.

Наколькі вялікае значэньне мае пасадка здаровымі клубнямі на падвышэньне ўраджаю—з усёй відавочнасьцю падкрэсьліваюць досьледы, якія былі зроблены Варонескай Бульбяной станцыяй. Гэта станцыя рабіла пасадку хворымі і здаровымі клубнямі і атрымала наступныя вынікі:

| Назва сартоў | Ураджай у процантах | |
|---|---|---|
| | Пасадка здаровымі клубнямі | Пасадка загніўшымі клубнямі. |
| Смыслоўскі . . . | 100 | 52,7 |
| Ружовы з Мілэту . | 100 | 60,4 |
| Мэркер . . . | 100 | 62,9 |
| Серп і молат . . | 100 | 80,0 |
| Колектыўны . . . | 100 | 82,8 |

Што датычыцца ўгнаеньня глебы, дык ня трэба ні ў якім разе бульбу саджаць па сьвежаму гною; лепш за ўсё ўжываць мінэральнае ўгнаеньне, або гной у комбінацыі з мінэральнымі ўгнаеньнямі. Такія пытаньні, як узворваньне пад зяб, раньнія тэрміны сяўбы, таксама ў значнай ступені station ўплываюць на ўраджай.

Ня гледзячы на тое, што фітофтора, галоўным чынам, перадаецца праз насенны матар'ял, усё-ж трэба раіць ужываньне севазвароту, зразумела, ня з пункту погляду барацьбы з фітофторай, а з пункту погляду барацьбы з іншымі захворваньнямі, а таксама агульнага ўздыму ўраджаю бульбы, бо барацьба з захворваньнямі намі разглядаецца, як адна з частак барацьбы за падвышэньне ўраджаю. Уборка бульбы зьяўляецца рашучым і галоўным момантам. Ад правільнай уборкі залежыць далейшае захоўваньне. Таму да ўборкі заўсёды трэба падрыхтоўвацца вельмі сумленна. Пе-першае, павінны быць зараней прасушаны

і прадэзынфэкаваны сховы. Трэба абавязкова за 10—14 дзён да ўборкі зрабіць падкошваньне бульбоўніку.

Гэта мерапрыемства значна зьніжае процант захворваньня. Проф. Н. А. Наумавым указана, што пры выдаленьні бульбоўніку за 3-4 дні да ўборкі атрымлівалася 8% хворых клубянёў, за 9 дзён—22%, і за 0 дзён—36% хворых клубянёў.

Пры нашых досьледах мы атрымлівалі наступныя лічбы:

| За колькі дзён зроблена падкошваньне бульбоўніку. | %% пашкоджаньня фітофторай у часе ўборкі. | %% пашкоджаньня фітофторайу часе зімова й лёжкі | Назва сорту |
|---|---|---|---|
| Контроль . . . | 3 | 4 | Вольтман |
| Падкошваньне за 10 дзён | 1 | 2 | " |
| " " 20 " | 1 | 0 | " |
| " " 30 " | 0 | 0 | " |
| Контроль . . . | 2 | 4 | Юбэль |
| Падкошваньне за 10 дзён | 1 | 2 | " |
| " " 20 " | — | 1 | " |
| " " 30 " | — | 1 | " |

Падкошваньне бульбоўніку перад ўборкай за апошнія 2-3 гады пачало ва ўмовах БССР шырака ўжывацца, бо, апрача зьніжэньня проценту захворваньня, бульбоўнік скарыстоўваецца на сілос, а калі вырашыцца становіча пытаньне аб магчымасьці скарыстаньня бульбоўніку для патрэб папяровай прамысловасьці, дык значэньне гэтага мерапрыемства ў многа раз павялічыцца.

Адборка загніўшых, мэханічна пашкоджаных, маленькіх клубянёў і прасушка пры кладцы бульбы ў сховы зьяўляецца абавязковым мерапрыемствам для таго, каб захаваць бульбу бяз страт. Але ўборкай справа догляду за бульбай не канчаецца. За бульбай, як і за іншымі клубянямі і караньплодамі, трэба абавязкова сачыць на працягу ўсяго часу ў сховах. Асабліва ў БССР мы маем многа страты бульбы ў часе зімовага хаваньня.

*Сартавы падбор.* Вышэй ужо гаварылася аб магчымасьці падбору трывалых сартоў. Мы цяпер ня маем зусім трывалых сартоў супроць фітофторы, але ёсьць многа сартоў, процант пашкоджаньня якіх настолькі невялікі, што гэта пашкоджаньне не адбіваецца або амаль не адбіваецца на ўраджай.

Паводле даных Усесаюзнага Інстытуту Бульбяной гаспадаркі, найбольш трывалымі ў адносінах да фітофторы зьяўляюцца сарты: Юбэль, Цэнтыфолія, Чырвоная Зьвязда, Парнасія і Варшаўка.

Проф. Н. А. Наумаў дае наступную характарыстыку сартовай трываласьці бульбы.

| Сарты трывалыя | Сарты сярэднятрывалыя | Сарты нятрывалыя |
|---|---|---|
| Вольтман | Грацыя | Княская карона |
| Заўсёды добры | Кур'ер | Рэйтан |
| Эпікур | Пальчыкі | Народны |
| Сьвіцязь | Топаз | Проф. Сіманоўскі |
| Гранат | Фрыча белы | Перад фронтам |
| Юбэль (Гэрой) | Элла | Ружовы з Мілету |
| Сылезія | Пауль Кругер | Пятроўска-Разумоўскі |
| | Нерасімы | Фуксінка |
| | | Тэо |
| | | Фрыча ружовы |
| | | Элла |
| | | Раньня-ружовы |

Ва ўмовах БССР найбольш трывалымі сартамі трэба лічыць такія: Грацыя, Вольтман, Сьвіцязь, Народны і Браварка.

Пытаньне падбору трывалых сартоў настолькі важна і сур'ёзна, што калі-б мы на сёньня мелі гэткія сарты, дык маглі-б лічыць, у асноўным, задачу барацьбы з фітофторай вырашанай.

Дзеля таго, навуковая думка павінна паставіць, як адну з першапачатковых і галоўнейшых задач, задачу вывядзеньня трывалых сартоў, ня толькі супроць фітофторы, але і супроць іншых хвароб (чорная ножка, парша і г. д.), бо маецца рад выпадкаў, калі той ці іншы сорт у адносінах да аднэй хваробы трывалы, а да другой нятрывалы. Прыкладам можа служыць Вольтман, які мае невялікі процант пашкоджаньня фітофторай, затое моцна пашкоджваецца чорнай ножкай.

## Хэмічны мэтод барацьбы

Сярод мерапрыемстваў, якія захоўваюць бульбу ад захворваньня на фітофтору, хэмічнаму мэтоду належыць адно з першых месц.

Тут, у барацьбе з фітофторай, галоўным чынам ужываецца апырскваньне бульбоўніку бардоскай вадкасьцю і наогул бардоская вадкасьць зьяўляецца ўнівэрсальным сродкам у барацьбе з многімі грыбнымі захворваньнямі расьліны. Для таго, каб паказаць, наколькі значна ўплывае апырскваньне бардоскай вадкасьцю на падвышэньне ўраджаю бульбы даволі прывесьці некалькі лічбовых даных. Так, напрыклад, Eglits (Латвійскі Інстытут Аховы Расьлін) атрымаў з апырснутых дзялянак у параўнаньні з неапрыснутымі наступны процант падвышэньня ўраджаю:

| | | | |
|---|---|---|---|
| у 1924 г. раньн. і сярэдняраньн. сарты | 44,4—165,5% | усярэдн. | 96,35% |
| у 1925 г. " " " | 27,4—136,1% | " | 71,40% |
| у 1924 г. " " " | 14,7—114,1% | " | 45,80% |
| у 1925 г. " " " | 8,3— 54,2% | " | 32,20% |
| у 1924 г. позьня-сьпелыя сарты | 28,5— 75,8% | " | 49,00% |
| у 1925 г. " " " | 21,5— 32,1% | " | 25,90% |

Па досьледах указанага аўтара, ня толькі павялічваўся процант ураджаю бульбы, але і значна паляпшалася якасьць у тым сэнсе, што зьніжаўся процант маленькіх клубянёў.

| Сарты | Буйныя | | Сярэднія | | Маленькія | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Апырскв. | Не апырскв. | Апырскв. | Не апырскв. | Апырскв. | Не апырскв. |
| Раньнія і сярэдняраньнія сарты далі клубянёў . . . | 19,54 | 7,16 | 68,40 | 71,85 | 12,03 | 20,99 |
| Сярэдня-позьнія . . | 37,74 | 23,17 | 37,33 | 41,12 | 24,93 | 35,75 |
| Позьня-сьпелыя . . | 19,11 | 13,36 | 42,22 | 38,80 | 38,67 | 47,84 |
| У сярэднім | 25,47 | 14,56 | 49,32 | 50,59 | 25,21 | 34,85 |

Па досьледах Бурава ў Маскоўскай вобласьці ў 1925 годзе атрымалася наступная прыбаўка ўраджаю бульбы з апырснутых дзялянак у параўнаньні з неапырснутымі:

| Чым апырсквалася | Прыбаўка ўраджаю здаровай бульбы ў параўнаньні з неапырснутымі дзялянкамі ў %%. | |
|---|---|---|
| | На пяшчанай глебе | На сугліністай глебе |
| Бордоская вадк. 1 раз . . | 39,9 | 22,8 |
| „ „ 2 разы . . | 37,5 | 22,2 |

Зробленыя досьледы ў Бутыліцах у 1928 годзе (Маскоўская вобласьць) даюць наступную прыбаўку ўраджаю (па О. Чарнушовай):

| Назва сартоў | Ураджай у тонах на гэктар | Прыбаўка ўражаю ў тонах на гэктар | Прыбаўка ўраджаю ў процантах |
|---|---|---|---|
| Раньня-ружовы | | | |
| Не апырснута . . . . . | 12,22 | — | — |
| Апырснута 1 раз . . . . | 14,78 | 2,56 | 29,8 |
| Апырснута 2 разы . . . . | 16,12 | 3,90 | 31,9 |
| Заўсёды добры | | | |
| Не апырснута . . . . . | 15,01 | — | — |
| Апырснута 1 раз . . . . | 19,24 | 4,23 | 28,1 |
| Апырснута 2 разы . . . . | 23,66 | 8,65 | 57,1 |

Нашы досьледы ў БССР паказваюць на большую прыбаўку ўраджаю бульбы ў параўнаньні з Маскоўскай вобласьцю на дзялянках, апырскваных бардоскай вадкасьцю. Гэта можна тлумачыць тым, што ў БССР, як мы і раней адзначалі, шкоднасьць фітофторы значна большая, чым, напрыклад, у Маскоўскай вобласьці.

Асабліва значная прыбаўка ўраджаю намі атрымана ў досьледах 1930 году:

**Досьлед 1930 г. (Менск)**

| Сорт | Глеба | Ураджай у %% на неапырскв. дзял. | Ураджай у % з апырскв. дзялянак | Прыбаўка ўраджаю ў %% |
|---|---|---|---|---|
| Сылезія | Суглінiстая . | 100 | 190 | 90 |

У 1931 годзе намі былі пастаўлены досьледы па вышуканьню новых фунгіцыдаў для барацьбы з фітофторай з мэтай замены бордоскай вадкасьці больш танным фунгіцыдам.

**Досьлед 1931 г. (Менск)**

| Сорт | Схэма досьледу | % пашкодж. фітофтор. | Бал. | Увага |
|---|---|---|---|---|
| Сьвіцязь | 1. Контроль . . . . . . . | 90,4 | 2,3 | Падлік ураджаю ня быў зроблены таму, што гаспадарка раптоўна яго ўбрала. |
| " | 2. Апырскв. Палісульф. Са 1 : 50 | 90,2 | 2,3 | |
| " | 3. " " " 1 : 30 | 91,5 | 2,0 | |
| " | 4. Апырскв. бард. вадк. 1 раз . | 64,3 | 1 | |
| " | 5. " " " 2 " . | 23,4 | 0,8 | |
| Сылезія | 1. Контроль . . . . . . . | 84,8 | 1,8 | " |
| " | 2. Апырскв. палісульф. Са 1 : 50 | 84,2 | 1,8 | |
| " | 3. " " Са 1 : 30 | 83,8 | 1,8 | |
| " | 4. " бардоскай вадкасьцю 1 раз . . . . . . . | 43,4 | 0,8 | " |
| " | 5. Апырск. бард. вадк. 2 разы . | 26,7 | 0,6 | |

З гэтага досьледу мы бачым, што ніякага зьніжэньня процанту захворваньня ад апырскваньня палісульфідам Са не атрымліваецца і, наадварот, значнае зьніжэньне процанту захворваньня атрымліваецца ад апырскваньня бордоскай вадкасьцю.

У 1932 годзе досьледы з апырскваньнем былі пастаўлены па шляху зьніжэньня процанту мядзянага купарвасу ў бардоскай вадкасьці.

**Апырскваньне бульбы бардоскай вадкасьцю ў розных концэтрацыях**

**Эпікур**

| Схэма | Ураджай у %% | %% крухмалу | Учот фітофторы па бульбоўніку | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Да апырскваньня | Пасьля першага апырскван. | Пасьля другага апырскван. | %% захвор. клубян. у часе ўборкі |
| 1) Контроль . . | 100 | 11,7 | 201 | 1001,5 | 1003 | 1,33 |
| 2) 1% бордоск. вадкасьці . . . | 141,25 | 14,05 | „ | 601 | 821 | — |
| 3) 0,75% вадкасьці | 137,3 | 13,05 | „ | 601 | 951 | — |
| 4) 0,5% . . | 115,1 | 13,5 | „ | 65,81 | 1001,5 | — |

Увага: Першае апырскваньне праводзілася 3/VIII, другое 13/VIII.

З прыведзеных лічбовых даных вельмі добра можна заўважыць вялікае падвышэньне ўраджаю бульбы ад апырскваньня бардоскай вадкасьцю. Досьледы 1932 году паказваюць на магчымасьць зьніжэньня процанту мядзянага купарвасу ў бардоскай вадкасьці, што ў значнай ступені зробіць больш танным апырскваньне. Але дэфіцытнасьць мядзянага купарвасу прымушае нас цяпер ставіць з усёй рашучасьцю пытаньне аб адшуканьні больш танных сродкаў барацьбы з фітофторай.

Дасьледваньне ў гэтай галіне павінна ісьці як па шляху вывучэньня апырскваньняў, так і, асабліва, па шляху вывучэньня апыльваньня з тым, каб самалёт стаў вядучай машынай у барацьбе з фітофторай.

Апошняе, на што мы хацелі зьвярнуць увагу, — гэта вывучэньне атрутных расьлін з мэтай выкарыстаньня іх для барацьбы са шкоднікамі і хваробамі. Гэта пытаньне зусім новае і вырашыць яго магчыма супольнымі сіламі батанікаў, фітопатолёгаў і хэмікаў.

Закончваючы, трэба падкрэсьліць, што ўсе мерапрыемствы па барацьбе з фітофторай, а таксама і навукова-дасьледчая работа, павінны быць бязупынна зьвязаны з іншымі мерапрыемствамі, якія накіраваны на ўздым ураджаю бульбы, бо толькі комплексам мерапрыемстваў, накіраваных на ўздым ураджаю, можна хутка атрымаць належны эфэкт. Адгэтуль навукова-дасьледчая работа фітопатолёга павінна быць цесна ўвязана з работаю сэлекцыянэра, фізыёлёга, аграхэміка, агратэхніка і машынаведа. Фітопатолёг заўсёды павінен памятаць, што паразытны грыб ён вывучае не наогул, а ў сувязі з тэй ці іншай расьлінай, інакш кажучы, ён вывучае яго з мэтай зьнішчэньня, або памяншэньня яго шкоднага ўплыву на даную расьліну з тым, каб у канечным выніку падвысіць ураджай. Краязнаўчыя організацыі ў саўгасах і калгасах павінны даць вялікую дапамогу ў справе вывучэньня мэтадаў барацьбы і пашыранасьці фітофторы па БССР. Вывучэньне павінна ісьці па шляху: а) тэрмінаў зьяўленьня фітофторы, у за-

лежнасьці ад розных глебавых умоў, ад розных гатункаў і тэрмінаў сяўбы. б) Уплыву агротэхнічных умоў, як та: апрацоўка глебы, адбору гнілых клубянёў пры пасадцы бульбы, акучваньне і г. д. в) Уплыву апырскваньня рознага роду атрутамі на зьнішчэньне фітофторы. г) Уплыву, падкошваньня бульбоўніку перад уборкай на лёжку бульбы ў зімовы час. д) Уплыву вільгаці на разьвіцьцё фітофторы—галоўным чынам трэба зьвярнуць увагу на колькасьць ападкаў у ліпні м-цы.

---

А. Савельеў.

# Капуста ліставая (Brassica oleracea acephola Dc.) як новая кармовая культура ва ўмовах БССР

Узьняць ураджайнасьць соцыялістычных палёў і падвесьці моцную кармовую базу, якая-б забясьпечвала разьвіцьцё жывёлагадоўлі, ёсьць баявая задача на другую пяцігодку, якая пастаўлена перад намі XVII партыйнай конфэрэнцыяй.

Каб забясьпечыць выкананьне гэтае важнейшае пастановы партыі, неабходна аўладаць агротэхнікай.

Наша сучасная аграномічная навука ўладае цэлым арсэналам мерапрыемстваў, якія садзейнічаюць падвышэньню соцыялістычнага ўраджаю.

Неабходна толькі безадкладна ўключыцца ў вырашэньне гэтых адказьнейшых задач.

Для ўздыму ўраджайнасьці і ўтварэньня моцнай кармовай базы сярод цэлага раду агротэхнічных спосабаў, адным з важнейшых мерапрыемстваў будзе падбор новых ўстойлівых і высокапродукцыйных культур.

Праз іх мы зможам аднавіць соцыялістычныя палі нашых савгасаў, колгасаў, палепшыць якасьць кармоў і павялічыць збор кармовых продуктаў з адзінкі плошчы.

Аднэй з такіх культур, на якую трэба зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу і ўключыць яе ў лік новых кармовых расьлін на другую пяцігодку, зьяўляецца ліставая або дрэвавідная кармовая капуста. (Brassica oleracea acephala ДС).

Ліставая кармовая капуста ўладае наступнымі якасьцямі:

1. Па сваёй спажыўнай здольнасьці, яна стаіць вышэй за кукурузу. На 100 частках кармовай капусты маецца спажыўных матэрый, якія добра пераатраўляюцца, наступная колькасьць:

| Расьліны | Сухая матэр. | Азот. мат. | Тлушч | Безазот. мат. | Сума спажыўн. матэр. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. Лісьці і сьцяблы кармовай капусты . . . . . . . | 14,3 | 1,8 | 0,4 | 7,4 | 9,3 |
| 2. Кукуруза зялёная . . . | 17,2 | 0,7 | 0,2 | 8,2 | 8,0 |

Такім чынам сума спажыўных матэрый на 1,3 адзінкі больш. Пры вызначэньні кармовай каштоўнасьці ліставой капусты ў Швэцыі на валох аказалася, што 100 кг органічных матэрый капусты

раўняюцца 68 крухмальным эквівалентам з 7,5 кг бялку, які добраператраўляецца.

2. Ліставая капуста надзвычайна ўраджайна. Пры ўмове добрага ўгнаеньня глебы яна можа даць да 100 тон кармовай масы. Звычайна ўраджаі бываюць у межах 35—50 тон, з колькасьцю сухіх матэрый каля 15%.

3. Кармовая капуста ўладае высокай марозаўстойлівасьцю, невымагальна да догляду і менш падлягае нападу шкоднікаў. Культуру кармовае капусты можна далёка прасоўваць на поўнач.

4. Кармовая капуста з вялікай ахвотай паядаецца малочнымі каровамі ў зялёным відзе, у стойле і на выгане, апрача таго, яна служыць вельмі добраю сыравінаю для прыгатаваньня сілосу. Па фіндляндзкім даным якасьць сілосу з кармовай капусты характарызуецца наступнымі лічбамі: сухія матэрыі—15,2%, сырога протэсыну—1,99%, чыстага протэсыну—1,62%, бялку, які пераварваецца,—0,96%, вугляводаў—1,3%.

5. Кармовая капуста можа культывавацца, як на лёгкіх, добра ўгноеных глебах, так і на зьвязных сугліністых (глiністых) глебах. Добрае месца яна павінна сабе знайсьці і на асушаных тарфяніках.

У гэтым кароткім артыкуле маецца на ўвазе падаць вынікі назіраньняў над кармовай капустай, якія мы атрымалі ў 1932 г. на Горацкай зон. стан. малочнае гаспадаркі.

Насеньне кармовай капусты атрымана намі вясною 1932 году ад Усесаюзнага Ін-ту расьлінаводзтва ў такім сартовым складзе:

1. № 134993 (Trousand Headed Kole) капуста ліставая,
2. № 134725 (Cavolade forragio delle vocehe) капуста ліставая,
3. № 134995 (Brassicca oleracea acephala) капуста мазгавая.

Глеба дасьледчага ўчастку, на якім быў зроблены пасеў кармовай капусты, па мэханічнаму складу прадстаўляе сабой цяжкі лёсаваты суглінак. Папярэдняя культура — кораньплоды па гноі.

16 мая 1932 г. зроблена ворыва, 17 мая перад скарадзьбою былі ўнесены наступныя колькасьці мінэральных ўгнаеньняў з разьліку ў цэнтнэрах на га: сульфат амонію—1,5 цн, супэрфосфату—3 цн, і сыльвініту—1,5 цн.

26 мая зрабілі радковы ручны пасеў з міжрадзьдзямі ў 25 см. Усходы ўсіх нумароў капусты зьявіліся даволі дружна к 7-му чэрвеню. У часе росту зроблена толькі адна праполка і адно рыхленьне міжрадзьдзяў. У часе росту расьліна разьвівалася нормальна. У верасьні месяцы, асобныя расьліны дасягалі 1 мэтра ў вышыню.

Лісьце, амаль усё, не ападала і трымалася да самай ўборкі, якая адбылася 20 кастрычніка.

Ураджайныя даныя па сырой і сухой матэрыі на асобных нумарох капусты падаюцца (у цэнт. на га) у наступнай табліцы:

| №№ Сартоў кармовае капусты. | Ураджай сырой масы з цэн. на га. | Ураджай сухой масы ў цэнт. на га. |
|---|---|---|
| № 134995 Brassica oleracea acephala) | 590.0 | 83.2 |
| № 134993 (Thousand Headed Kole) | 456.0 | 70.2 |
| № 134725 (Cavolode forragio dellewocehe) | 360.0 | 55.4 |

Як відаць з прыведзеных лічбаў, ураджай даволі высокі, але-ж далёка неаднолькавы. Найвышэйшы ўраджай атрыманы ад № 134995, а самы малы даў № 134725. Нумар-жа 134993 заняў сярэдняе месца.

Апрача гэтага пасеву намі праведзены досьлед пасадкі кармовае капусты расадай на дзялянках плошчай у 50 кв. мэтраў. Глебы і ўгнаеньні аднолькавыя з папярэднімі досьледамі. Пасадка расады зроблена даволі позна: 5-га ліпня. Адлегласьць у радзе і між радоў—60 см расьліна ад расьліны. Уборка зроблена адначасна з папярэднім досьледам—20 кастрычніка. Ураджай па сырой і сухой матэрыі ў цн на га падаецца ў наступнай табліцы:

| №№ Сартоў кармовай капусты | Ураджай сырой матэр. з цэнт. на га | Ураджай сухой масы з цэнт. на га |
|---|---|---|
| № 134995 . . . . . | 398.7 | 63.7 |
| № 134993 . . . . . | 190.0 | 30.4 |
| № 134725 . . . . . | 223.5 | 35.8 |

Ня гледзячы на надзвычайна нізкую пасадку, усё-ж ўраджай атрыманы даволі вялікі. Аднак найвышэйшы ўраджай і ў даным выпадку належыць № 134995. Нумар-ж 134993 і 134725 перамяніліся месцамі, што мы бачым пры пасеве 30 цн у грунт.

І так з прыведзеных даных можна зрабіць станоўчы вывад на карысьць апісаных расьлін. Трэба толькі ў самы кароткі час укараніць гэтую культуру ў соцыялістычнай гаспадарцы.

На бліжэйшы час вузкім месцам у разьвіцьці гэтае культуры будзе насенны матар'ял. З гэтае прычыны насеннай справе трэба аддаць максымум увагі. У надыходзячую вясну трэба найбольш поўна зрабіць высадку пакінутага пасадачнага матар'ялу (качарыжкі), каб к наступнаму году мы змаглі задаволіць патрэбу ў насенным матар'яле соцыялістычнае вытворчасьці.

Пры насеннай культуры 1 га высадак можа даць насеньня ад 50—80 кг. Гэта колькасьць зможа забясьпечыць 12—15 га пасеву пры высеве ў грунт, а пры культуры расадай можа забясьпечыць пасадкай нават да 80 га (на 1 га насеньня, пры высеве ў грунт, трэба 5 кг, а пры культуры расады лічаць зусім дастатковым толькі 0,8-0,9 кг, каб засадзіць 1 га).

Горацкая зон. стан. малочнае гаспадаркі плянам на 1933 г. прадугледжвае больш шырокую далейшую работу з кармовай капустай, каб скарыстаць больш поўныя весткі па апісанай культуры, як-мага хутчэй перадаць вынікі соцыялістычнай гаспадарцы. Пад мэтодычным кіраўніцтвам з боку Біолёгічнага ін-ту Беларускай акадэміі навук гэта з посьпехам будзе выканана.

Досьледы і назіраньні над кармовай капустай праведзены В. А. Горскай пад агульным кіраўніцтвам аўтара.

В. Міхайлоўская і М. Кавалевіч

# Расьліннасьць балотнага масыву „Ануфрова-Скрыль“ Пухавіцкага р.

БССР зьяўляецца краінаю вельмі багатаю на прыродныя вадазборы—на яе тэрыторыі раскідана многа вазёр, згрупаваных, галоўным чынам, у паўночнай частцы. Усяго на абшарах БССР налічваецца 2476 вазёр, якія ўвогуле займаюць плошчу каля 90.000 га.

Апрача таго, уся тэрыторыя БССР прарэзана цэлай сеткай вялікіх і малых рэк з агульным працягам іх каля 32.000 клм. Па колькасьці забалочаных плошчаў БССР, паводле даных Наркамзему, займае плошчу каля 266.300 га.

Вазёры і рэкі БССР—гэта прыродная аснова рыбнай гаспадаркі. Апрача таго, на вялізарных плошчах нашых балот можна шырака разгарнуць штучную рыбагадоўлю на спэцыяльна падрыхтаваных рыбагаспадарчых угодзьдзях. Колькасьць штучных вадазбораў для рыбных гаспадарак можна пашырыць за кошт вялікіх балотных масываў, прарэзаных у розных кірунках, рознымі рэчкамі і канавамі.

У сучасны момант, на падставе пастаноў XVII партконфэрэнцыі, апошняга рашэньня ЦК ВКП(б) і Саўнаркому СССР, побач з іншымі проблемамі высунута проблема штучнай рыбагадоўлі,для разгортваньня якой на балотных масывах БССР маюцца шырокія магчымасьці. Такім чынам, перад намі стаіць задача: найбольш поўна і правільна выкарыстоўваць нашы прыродныя рыбагаспадарчыя ўгодзьдзі і, разам з тым, пабудаваць на балотах БССР штучныя рыбныя гаспадаркі з высокай продукцыйнасьцю добраякаснай рыбы.

Прымаючы пад увагу, што пытаньне штучнай рыбагадоўлі ў сучасны момант зьяўляецца вельмі актуальным, а, з другога боку, не на ўсякіх балотах мэтазгодна гаспадарча-экономічная пабудова штучных рыбных гаспадарак, трэба правесьці рад папярэдніх абсьледваньняў з мэтай выяўленьня магчымасьці рыбагаспадарчай эксплёатацыі гэтых балот. Для высьвятленьня гэтых магчымасьцяў Беларуская н.-д. рыбагаспадарчая станцыя праводзіць абследаваньні раду балотных масываў, на якіх проектуецца пабудова штучных рыбагадоўчых вадазбораў.

У лік такіх абследваньняў у абавязковым парадку уваходзяць геоботанічныя абследваньні балотных участкаў з мэтаю выяўленьня характару балота, яго тыпізацыі, складу расьліннага

акрыцьця. У часе такога абсьледваньня апісваецца склад расьліннасьці—балота-дрэўная, хмызьняковая, травяністая расьліннасьць паверх імхоў. Апрача таго, праводзіцца сьвідраваньне тарфянога пласту, у выніку чаго, пры камэральнай апрацоўцы, робіцца ботанічны і хэмічны аналіз торфу. Выяўленьне ботанічнага і хэмічнага складу торфу і яго ўласьцівасьцяў зьяўляецца вельмі каштоўным для вырашэньня магчымасьцяў рыбагадоўлі на гэтым балотным участку. Склад расьліннасьці балота зьяўляецца адным з першапачатковых паказчыкаў прыгоднасьці балот пад рыбагаспадарчую эксплёатацыю. (Даволі сказаць, што так званыя „верхавыя балоты"—імшары з густым і пышным акрыцьцём „белага моху„ (Sphagnum'у)—амаль зусім ня прыгодны для пабудовы на іх штучных рыбных гаспадарак).

Адным з такіх балотных масываў, на якіх проектуецца пабудова прудавой рыбнай гаспадаркі, зьяўляецца Ануфрова-Скрыльскі, на якім мяркуецца пабудаваць рыбгас—гігант з агульнаю плошчаю прудавых угодьздзяў у 16—20.000 га. На працягу 1931—32 году, згодна ўмовы, заключанай Белрыбтрэстам з Беларускай н-д. рыбагаспадарчай станцыяй, былі праведзены геоботанічныя абсьледваньні памянёнага балотнага масыву.

Ануфрова-Скрыльскі балотны масыў ляжыць у заходняй частцы БССР, на адлегласьці 50 кілёмэтраў ад гор. Менску, у паўднёва-ўсходнім кірунку, абапал Заходняе чыгункі Менск—Гомель, на ўчастку дарогі, паміж станцыямі Рудзенск і Пухавічы. Лініяй Заходняе чыгункі ўвесь Ануфрова-Скрыльскі балотны масыў падзяляецца на дзьве няроўныя часткі, меншая з якіх ляжыць на поўнач ад чыгункі і абмежавана наступнымі населенымі пунктамі: Копейна—Бор—Фаштопаль, Скобраўка—Вендзежская Слабада. Паўднёвая частка Ануфрова-Скрыльскага балотнага масыву абмежавана наступнымі паселішчамі: Лядцо—Навасёлкі—Загай—Везен—Кляцішын—Любячка—пас. Кнорына, адтуль на дарозе праз пас. Ліпнікі—Пяшчанку ў в. Гарэлец, потым па р. Пціч да савгасу Цытва і адтуль да ст. Рудзенск.

Агульная плошча балот, ахопленая геоботанічнымі абследваньнямі, складае каля 27.000 га. У адносінах да адміністрацыйнага становішча, Ануфрова-Скрыльскі балотны масыў знаходзіцца на тэрыторыі Пухавіцкага раёну і ахоплівае наступныя сельсаветы: Рудзенскі, Навасёлкаўскі, Карнілаўскі, Цытвянскі, Пудзіцка-Слабадзкі і Гарэлецкі.

Па рэльефу гэта паніжаная, слаба хвалістая раўніна, якая ляжыць у басэйне р. Пціч і Сьвіслач.

Займаючы такую вялікую тэрыторыю, Ануфрова-Скрыльскі балотны масыў мае ў сваім складзе рознахарактарныя ўчасткі балот, пераважным тыпам зьяўляецца нізіннае асакова-пушыцявае балота, у большасьці выпадкаў вольнае ад дрэўнае і хмызьняковае расьліннасьці. З іншых тыпаў балот у значна меншай колькасьці сустракаюцца пераходныя балоты і імшары, якія ў паўднёвай частцы масыву (на поўдзень ад шосэ ў м. Шацак) маюць пераважнае значэньне, займаючы амаль усю тэрыторыю.

## 1. Нізінныя балоты

Нізінныя балоты Ануфрова-Скрыльскага масыву становяць сабою абшырныя плоскія тэрыторыі, якія займаюць амаль усю паўночную частку масыву (да шосэ ў м. Шацак) і перарываюцца нязначнымі ўчасткамі, галоўным чынам, пераходных балот і часткова—імшараў. Вясною і ўвосень уся гэтая нізіна заліваецца вадою. Цікава адзначыць, што ўлетку 1932 г. (у момант абсьледваньня), у выніку зацяжных вясновых дажджоў, вада на балоце стаяла на працягу амаль усяго лета. У гэты час балота становіць сабою нібы суцэльнае няглыбокае возера, на паверхні якога зялёнымі плямамі тырчаць вяршыні купін або хмызьнякоў. У розных кірунках Ануфрова-Скрыльскае балота прарэзана сеткаю дробных, а дзе-ні-дзе і буйных канаў; многія з іх у сучасны момант зарасьлі і страцілі сваё асушальнае значэньне, а іншыя хаця і знаходзяцца ў стадыі зарастаньня водна-балотнай расьліннасьцю, але яшчэ да пэўнае ступені выконваюць свае асушальныя функцыі.

Звычайна ўсе гэтыя нізіны—адкрытыя, пазбаўленыя дрэўнае і хмызьняковае расьліннасьці, гіпнава-асаковыя балоты, на якіх толькі мясцамі сустракаюцца ўчасткі, пакрытыя хмызьнякамі. У некаторых выпадках гэтыя хмызьнякі (галоўным чынам лаза (Salix sp.) утвараюць суцэльныя густыя зарасьнікі, якія раскіданы на балоце невялікімі купінамі. Даволі часта паверх хмызьняковай расьліннасьці ўтварае бяроза (Betula pubescens Ehrh). У большасьці выпадкаў бяроза раскідана па балоце ў выглядзе рэдкіх паасобных кустоў.

Травяністая расьліннасьць прадстаўлена галоўным чынам панаваньнем розных відаў асок, да якіх, мясцамі, даецца некаторая колькасьць падвею (Eriophorum) і іншых балотных расьлін. Апрача травяністай расьліннасьці на большасьці балотных участкаў наглядаецца разьціцьцё густога і пышнага мохавага паверху, складзенага прадстаўнікамі гіпнавых імхоў. Тут мы сустракаем: Acrocladium cuspidatum, Drepanocladus vernicosus, Climacium dendroides, Thuidium sp. і Pleurozium schreberi на больш сухіх участках; на ўчастках больш вільготных сустракаюцца: Drepanocladus fluitans, Drepanocladus aduncus, віды роду Calliergon, Aulacomnium palustre і інш.

**Флёрыстычны склад расьліннасьці балота наступны:**

1) Хмызьнякі

| | |
|---|---|
| Лозы | Salix sp |
| Бяроза звычайная | Betula pubescens Ehrh |
| „ ніцая | „ humilis Schrank |
| Крушына крохкая | Rhamnus frangula L |

2) Паверх травяністай расьліннасьці

| | |
|---|---|
| Асокі | Carex sp |
| Сіт бліскучы | Juncus lamprocarpus Ehrh |
| Падвей вузкалісты | Eriophorum angustifolium Roth |

| | |
|---|---|
| Мятлюжок балотны | Poa palustris L |
| „ лугавы | „ pratensis L |
| Пажарніца лянцэталістая | Calamagrostis lanceolata Roth |
| „ | „ neglecta (Ehrh) P.B. |
| Чарот звычайны | Phragmites communis Trin |
| Мятліца белая | Agrostis alba L |
| „ сабачая | „ canina L |
| Манна звычайная | Glyceria fluitans (L) R. Br. |
| Мурожніца лугавая | Festuca pratensis (L) Huds. |
| Лісахвост лугавы | Alopecurus pratensis L |
| „ каленкаваты | „ geniculatus L |
| Валяр'яна лекавая | Valeriana officinalis L |
| Хвошч намульны | Equisetum limosum L |
| Маруна балотная | Galium palustre L |
| „ багнавая | „ uliginosum L |
| Панікніца ўзьбярэжная | Geum rivale L |
| Казялец востры | Ranunculus acer L |
| „ паўзучы | „ repens L |
| „ вогнікавы | „ flammula L |
| „ вялікі | „ lingua L |
| Лотаць балотны | Caltha palustris L |
| Белакапытнік балотны | Calla palustris L |
| Шчаўе малое | Rumex acetosella L |
| „ праўдзівае | „ acetosa L |
| Сьветнік зязюлькавы | Lychnis flos cuculi L |
| Бабок трылісьцёвы | Menyanthes trifoliata L |
| Сабельнік балотны | Comarum palustre L |
| Зоркаўка | Stellaria palustris Ehrh |
| Ваўчкі ніцыя | Bidens cernuus L |
| Вятроўнік вязалісьцевы | Filipendula ulmaria (L) Maxim |
| Увярэднік балотны | Pedicularis palustris L |
| Чальчак звычайны | Lythrum salicaria L |
| Скрыпень балотны | Epilobium palustris L |
| Мята | Mentha sp |
| Вароніка длінналістая | Veronica longifolia L |
| Незабудка балотная | Myosotis palustris (L) Roth |
| Званец меншы | Alectorolophus minor Wimm et Grab. |
| Брунелька звычайная | Brunella vulgaris L |
| Дуброўка гусіная | Potentilla anserina L |

*У мохавым акрыцьці наступныя імхі:* Acrocladium cuspidatum, Climacium dendroides, Aulacomnium palustre, Drepanocladus vernicosus, Drepanocladus fluitans, Drepanocladus aduncus, Thuidium sp Polytrichum sp, Calliergon cordifolium.

Субстратам для гэтае расьліннасьці зьяўляецца тарфяна-балотная глеба. Максымальная таўшчыня тарфянога пласту, як паказалі шматлікія сьвідраваньні балота, раўняецца 4 mt для балот паўночнае часткі Ануфрова-Скрыльскага масыву і трохі меншая для балот паўднёвае часткі масыву. Падагульняючы,

можна лічыць, што на ўсім балотным масыве сярэдняя глыбіня торфу на нізінным балоце складае $1^1/_2$—2 mt.

Ступень раскладзенасьці торфу на глыбіні 0,5 mt сярэдняя і вышэй сярэдняй, на глыбіні 2—4 mt ступень раскладзенасьці торфу падвышаецца. Па віду торф у большасьці выпадкаў асаковы, або з дамешкаю гіпнавых імхоў ці дрэўных рэштак. Пад мікроскопам наглядаюцца асокі (Carex), гіпнавы мох (Hypnum), дрэўныя рэшткі, часам падвей (Eriophorum). Вельмі часта можна бачыць насеньне—бабку (Menyanthes trifoliata L), значна радзей наглядаецца чарот (Phragmites communis Trin), хвошч (Equisetum limosum L) і сфагнавы мох (Sphagnum).

Паверхня балота мясцамі няроўная, мікрарэльеф абумоўлены куп'яватасьцю. Часьцей за ўсё купіны невялікія і ўтвораны пасьбай скаціны на вільготнай і мяккай глебе. У некаторых выпадках купіны зьяўляюцца рэшткамі асаковага шчыльнага куста, або маюць дрэўнае паходжаньне і ўтварыліся дзякуючы высечцы кустоў. Гэтая куп'яватасьць у некаторай ступені дапамагае неаднолькавай вільготнасьці, таму што паміж асобнымі купінамі часта затрымліваецца і стаіць вада.

У рыбагаспадарчых адносінах нізінныя балоты могуць быць выкарыстаны для пабудовы нагульных і часткова выросных прудоў, што выразна адзначаецца Белрыбтрэстам у сэнсе запроектаваных прудавых угодзьдзяў на пляне Ануфрова-Скрыльскага масыву.

У сучасны момант нізінныя балоты скарыстоўваюцца колгасьнікамі і аднаасобнікамі як сенажаці, якія даюць параўнальна невялікія ўкосы асаковага сена. У значна меншай колькасьці гэтыя балоты эксплёатуюцца як выганы. З гаспадарча-экономічнага боку такое скарыстаньне балотных плошчаў пад выпасы, без папярэдняга правядзеньня раду карэнных мэліорацыйных мерапрыемстваў, бязумоўна трэба лічыць немэтазгодным.

## II. Балоты пераходнага тыпу

Пераходныя балоты ў паўночнай частцы Ануфрова-Скрыльскага масыву маюць нязначнае пашырэньне і знаходзяцца галоўным чынам у паўночна-заходняй палове запроектаванага пруда № 2 (супроць в. Бор). Апрача таго, нязначны ўчастак пушыцавага балота ляжыць супроць в. Барсукі, у кірунку на вёску Скобраўку, на адлегласьці аднаго клм ад в. Барсукі і другі ўчастак пераходнага балота, блізкага па тыпу да імшары, ляжыць у паўночнай частцы, на адлегласьці каля аднаго кілёмэтра ад в. Скобраўка. На поўдзень ад лініі Заходняй чыгункі ўчастак балота пераходнага тыпу ляжыць уздоўж вузкакалейкі, супроць в. Каробавічы.

Галоўнае пашырэньне пераходныя балоты маюць у самай паўднёвай частцы Ануфроўскага масыву (на поўдзень ад шосэ у м. Шацак), дзе яны ў асноўным маюць характар блізкі па тыпу да імшары.

Амаль што ўсе ўчасткі балот пераходнага тыпу маюць паверх дрэўнай або хмызьняковай расьліннасьці большай ці меншай гушчыні. У гэтым паверсе галоўным чынам сустракаюцца: бяроза

пухнатая (Betula pubescens Ehrh і мясцамі Betula humilis Schrank), лаза (Salix sp), сасна (Pinus silvestris L).

Паверхня балота звычайна няроўная, куп'яватая, большаю часткаю купіны невялікія, дробныя, але на некаторых участках (супроць в. Каробавічы) яны значна большыя і дасягаюць вышыні 50 см. Куп'яватасьць звычайна ўтварылася ў выніку высечкі кустоў, чаму ў значнай ступені дапамагае пасьба жывёлы, якая заўсёды шырока практыкуецца вясковым насельніцтвам. Часта на купінах растуць поўхмызьнякі, характэрныя і для мохавага балота (імшары): балотны мірт (Cassandra calyculata L), імшарніца многалісьцёвая (Andromeda polifolia L), радзей багун (Ledum palustre L). З травяністых сустракаюцца: асокі (Carex sp) і падвей похвісты і вузкалісты (Eriophorum vaginatum L і Eriophorum angustifolium Roth); у тыпе пераходнага балота, блізкага да імшары, сустракаюцца яшчэ і журавіны (Oxycoccos palustris Pers), якія сьцеляцца ў сфагнавым насьціле. Купіны вельмі густа пакрыты мохам зязюльчыным ільном (Polytrichum sp), да якога часта дамешваецца і белы мох (Sphagnum). Побач з Sphagnum'ам і Polytrichum'ам у мохавым насьціле ўдзельнічаюць яшчэ і гіпнавыя імхі. Ніжэй прыводзіцца флёрыстычны склад расьліннасьці пераходнага балота.

Дрэўны паверх і хмызьнякі

| | |
|---|---|
| Лозы | Salix (species) |
| Сасна | Pinus silvestris L |
| Бяроза пухнатая | Betula pubesbens Ehrh |
| „ ніцая | „ humilis Schrank |

Травяністая расьліннасьць і поўхмызьнякі

| | |
|---|---|
| Імшарніца многалісьцёвая | Andromeda polifolia L |
| Балотны мірт | Cassandra calyculata L |
| Багун | Ledum palustre L |
| Чарніца | Vaccinium myrtillus L |
| Буякі | „ uliginosum |
| Падвей похвісты | Eriophorum vaginatum L |
| „ вузкалісты | „ angustifolium Roth |
| Асокі | Carex (sp) |
| Ваўчкі ніцыя | Bidens cernuus L |
| Бабок трылісьцёвы | Menyanthes trifoliata L |
| Сабельнік балотны | Comarum palustre L |
| Лотаць балотны | Caltha palustris L |
| Маруна балотная | Galium palustre L |
| Пажарніца лугавая | Calamagrostis lanceolata Roth |
| Чарот звычайны | Phragmites communis Trin |
| Хвошч намульны | Equisetum limosum L |

Мохавае акрыцьцё на купінах складаецца з наступных імхоў: Polytrichum sp. Pleurozium schreberi і лішайнікаў: Cladonia silvatica і Cladonia rangiferina. У некаторых мясцох на купінах—Sphagnum. З гіпновых імхоў у акрыцьці, апрача Pleurozium schreberi, сус-

тракаюцца яшчэ Acrocladium cuspidatum, Drepanocladus i Aulacomnium palustre.

Глеба тарфяная, торф у большасьцi выпадкаў бурага колеру, мае даволi значную таўшчыню, залягае мясцамi да глыбiнi 4 м. Па свайму складу торф асакова-дрэўны, або мясцамi сфагнава-асаковы. Мiкраскопiчны аналiз торфу вызначае прысутнасьць у яго складзе наступных галоўных торфаўтваральнiкаў: асака (Carex), гiпнавы мох (Hypnum), дрэўныя рэштκi i падвей (Eriophorum). У сфагнава-асаковым торфе наглядаецца яшчэ значная колькасьць моху Sphagnum.

У сучасны момант гэтыя ўчасткi выкарыстоўваюцца насельнiцтвам галоўным чынам пад выган. Для рыбагадоўчых угодзьдзяў пераходныя балоты маюць значэньне ў сэнсе iх выкарыстоўваньня для пабудовы на iх нагульных прудоў.

### Мохавыя балоты Ануфрова-Скрыльскага бал. масыву

На поўнач ад лiнii Заходняе чыгункi мохавыя балоты (iмшары) займаюць нязначныя плошчы i ляжаць у паўночна-заходняй частцы Ануфрова-Скрыльскага масыву (супроць в. Капейна). На поўдзень ад Заходняе чыгункi пашырэньне мохавых балот набывае вялiкае значэньне, асаблiва ў самай паўднёвай частцы балотнага масыву, каля в. Гарэлец. Параўнаўча невялiкi ўчастак мохавага балота ляжыць у межах в. Цытва, пасёлку Дуброва, Лукашэўка-Бор, але самыя вялiкiя ўчасткi мохавых балот ляжаць на поўдзень ад шосэ ля м. Шацак, групуючыся там прыблiзна ў тры значных масывы: 1) ад х. Малiнаўка ў кiрунку на х. Самiн; 2) на поўнач ад в. Гарэлец у кiрунку на Высокую Гару, i нарэшце, 3) у паўднёва-ўсходнiм кiрунку ад в. Гарэлец, у межах наступных населеных пунктаў: в. Гарэлец, ур. Восава—Перахвалава i Пяшчанка.

Па свайму характару ўсе мохавыя балоты Ануфрова-Скрыльскага масыву вельмi аднастайны i могуць быць аднесены да тыпу Sphagnetum magno-pinosum. Дрэўная расьлiннасьць на гэтых iмшарах прадстаўлена сасною (Pinus silvestris L) з некаторaю дамешкаю бярозы (Betula pubescens Ehrh), пад якiмi густым дываном разьмясьцiлiся белыя iмхi (Sphagnum) з усiмi компонэнтамi, характэрнымi для мохавага балота. Ступень пашырэньня дрэўнае расьлiннасьцi неаднолькавая, але колькасьць дрэў на 1 га звычайна не перавышае 3.000 экзэмпляраў. У некаторых мясцох сустракаюцца ўчасткi з каравай засохлай сасной, прычым колькасьць засохлых дрэў часта даходзiць да 50%.

Паверхня балота моцна куп'яватая, з купiнамi дрэўнага паходжаньня, каля 20—30 см вышынi; глебавае акрыцьцё прадстаўлена сфагнавым белым мохам (Sphagnum). Па ўскраiне балота, на купiнах сустракаецца мох зязюльчын лён (Polytrichum sp) i дзе-нi-дзе Pleurozium schreberi. На фоне сфагнавых iмхоў разьмясьцiўся паверх поўхмызьнякоў, сярод якiх знаходзiм багун (Ledum palustre L), балотны мiрт (Cassandra calyculata L), iмшарнiца многалiсьцёвая (Andromeda polifolia L), буякi (Vaccinium uliginosum L) i iншыя.

**Флёрыстычны склад балота наступны:**

Дрэўны паверх

| | |
|---|---|
| Сасна | Pinus silvestris L |
| Бяроза | Betula pubescens Ehrh |

Травяністая расьліннасьць і поўхмызьнякі

| | |
|---|---|
| Багун | Ledum palustre L |
| Буякі | Vaccinium uliginosum L |
| Чарніца (рэдка) | „ myrtillus L |
| Балотны мірт | Cassandra calyculata L |
| Імшарніца многалісьцёвая | Andromeda polifolia L |
| Брусьніца (рэдка) | Vaccinium vitis idaea L |
| Верас (рэдка) | Calluna vulgaris Salisb |
| Падвей похвісты | Eriophorum vaginatum L |
| Асокі | Carex sp |
| Журавіна | Oxycoccos palustris Pers |
| Расіца | Drosera rotundifolia L |

Торф сьветла-бурага колеру, глыбіня пласту 2—4 м і больш' падсьцілаецца ў большасьці выпадкаў аглеенай супесьсю шэрага колеру. Раскладзенасьць торфу ў верхнім горызонце—дрэнная, від торфу звычайна сфагнавы, або падвеева-сфагнавы, радзей трапляецца асакова-сфагнавы. Мікроскопічны аналіз складу торфу на мохавым балоце паказаў наступнае: асноўнымі торфаўтваральнікамі зьяўляюцца: белыя імхі (Sphagnum), да якіх у значнай колькасьці дамешваецца падвей (Eriophorum), дрэўныя рэшткі, асокі (Carex) і радзей зялёны мох (Hypnum).

Сельскагаспадарчая каштоўнасьць мохавых балот вельмі нізкая, і гэтыя балоты амаль зусім не скарыстоўваюцца насельніцтвам, калі ня лічыць збору на іх ягад—журавіны і буякоў, якія па імшарынах сустракаюцца ў вялікай колькасьці. Такім чынам, наладжваньне мясцовымі колгасамі збораў журавін мае важнае практычнае значаньне ў сэнсе атрыманьня каштоўнай сыравіны для нашай харчовай прамысловасьці.

З рыбагаспадарчага боку мохавыя балоты таксама ня маюць асаблівай цікавасьці.

## IV. Сухадолы Ануфрова-Скрыльскага масыву

Амаль па ўсёй тэрыторыі Ануфроўскага балотнага масыву раскіданы сухадолы. У паўночнай і, асабліва, ў паўночна-ўсходняй частцы масыву—нізіны, занятыя сапраўднымі балотамі, вельмі часта перарываюцца больш-менш узвышанымі сухадольнымі ўчасткамі. На гэтых участках (асабліва на поўдзень ад Заходняе чыгункі), якія часам узьнімаюцца над роўнем балота на нязначную вышыню, распалажаны вёскі і паселішчы. Мясцамі яны заняты палявымі ўгодзьдзямі і выкарыстоўваюцца пад сельска-гаспадарчыя культуры, асабліва ў тых выпадках, калі яны займаюць даволі значную плошчу. Узвышаныя ўскраіны балота, або ўзвышэньні сярод балот, заняты сухадольнымі лугамі, або выкарыстоўваюцца пад выпас. Большая частка гэтых сухадолаў пазбаўлена дрэўнае расьліннасьці, рэштка пакрыта хмызьнякамі, якія мясцамі вельмі

густыя. У гэтых зарасьніках мы знаходзім: крушыну крохкую (Rhamnus frangula L), рабіну (Sorbus aucuparia L), лазу (Salix sp), дуб (Quercus pedunculata Ehrh), ляшчыну (Corylus avellana L), каліну (Viburnum opulus L), асіну (Populus tremula L) і г. д.

**Флёрыстычны склад травяністай расьліннасьці наступны:**

| | |
|---|---|
| Мятлюжок лугавы | Poa pratensis L |
| Мятліца белая | Agrostis alba L |
| „ сабачая | „ canina L |
| Мурожніца чырвоная | Festuca rubra L |
| Мяжоўка-цімафейка | Phleum pratense L |
| Дрыжнік сярэдні | Briza media L |
| Грэбнік звычайны | Cynosurus cristatus L |
| Томка пахучая | Anthoxanthum odoratum L |
| Смарганец мяккі | Holcus mollis L |
| Сівец звычайны | Nardus stricta L |
| Асака звычайная | Carex Goodenovii Gay |
| „ заячая | „ leporina L |
| Сітніца палявая | Luzula campestris D. C. |
| Дзяцеліна белая | Trifolium repens L |
| „ чырвоная | „ pratense L |
| | „ agrarium L |
| Рутвіца звычайная | Lotus corniculatus L |
| Віка птушыная | Vicia cracca L |
| Крываўнік звычайны | Achilea millefolium L |
| Званец меншы | Alectorolophus minor Wimm et Grab |
| Дуброўка гусіная | Potentilla anserina L |
| Казялец востры | Ranunculus acer L |
| „ вогнікавы | „ flammula L |
| Брунэлька звычайная | Brunella vulgaris L |
| Валошка лугавая | Centaurea jacea L |
| Маруна ўчэпістая | Galium aparine L |
| „ звычайная | „ mollugo L |
| Хвошч палявы | Equisetum arvense L |
| Шчаўе малое | Rumex acetosella L |
| Сьветнік зязюлькавы | Lychnis flos cuculi L |
| Цяцюшнік лекавы | Euphrasia officinalis L |
| Чабор звычайны | Thymus serpyllum L |
| Валяр‘яна лекавая | Valeriana officinalis L |
| Нівянік | Leucanthemum vulgare Lam |
| Іскаркі звычайныя | Dianthus deltoides L |
| Трыпутнік лянцэтаваты | Plantago lanceolata L |
| Гусялапка звычайная | Alchimila vulgaris L |
| Званкі лугавыя | Campanula patula L |
| Сьвятаяньнік дзіркаваты | Hypericum perforatum L |
| Вятроўнік вязалісьцёвы | Filipendula ulmaria (L) Maxim |
| Маруна праўдзівая | Galium verum L |
| Паўночнік звычайны | Knautia arvensis (L) Coult. |

| | |
|---|---|
| Ляскатуха | Silene inflata L |
| Дмухавец звычайны | Taraxacum officinale L |
| Ястрабок | Hieracium sp |

Улетку 1932 г. геоботанічнымі абсьледваньнямі была таксама ахоплена частка поймы р. Пціч, якая непасрэдна прылягае да паўднёва-заходняга боку Ануфрова-Скрыльскага масыву, на ўчастку паміж в.в. Вараніцкая, Слабада і савгасам „Цытва" і, разам з тым, невялікая плошча поймы р. Сьвіслачы, якая ляжыць супроць в. Караваева на правым беразе ракі.[1])

Уся, ахопленая абсьледваньнямі, плошча ў поймах памянёных рэк забалочана і ўяўляе сабою гіпнава-асаковае балота, якое амаль зусім пазбаўлена дрэўнай і хмызьняковай расьліннасьці (калі ня ўлічваць нязначных па плошчы ўчасткаў, пакрытых рэдкімі кустамі альхі і, зрэдку, лазы). Паверхня гэтага поймавага ўчастку дробна-куп'яватая з колькасьцю купін на 1 га да 5.000 шт. Купіны невялікія, галоўным чынам асаковыя, часткова яны ўтварыліся і ад пасьбы жывёлы. Поймавая паласа як па р. Пціч, таксама і па р. Сьвіслачы скарыстоўваецца насельніцтвам пад сенажаць. Пасьля ўкосу і збору сена, звычайна па сенажаці пушчаецца жывёла, што дрэнна адбіваецца на якасьці сенажаці, бо на ёй, дзякуючы даволі значнай вільготнасьці глебы, лёгка ўтвараюцца купіны. Якасьць травастою няважная дзякуючы панаваньню асок.

**Флёрыстычны склад на ўчастку па р. Пціч наступны:**

| | |
|---|---|
| Асака | Carex sp. |
| „ | „ vesicaria L |
| Мятліца белая | Agrostis alba L |
| Манна звычайная | Glyceria fluitans (L) R. Br |
| Казялец востры | Ranunculus acer L. |
| „ паўзучы | „ repens L |
| Вятроўнік вязалісьцёвы | Filipendula ulmaria (L) Maxim |
| Бабок трылісьцёвы | Menyanthes trifoliata L |
| Ваўчкі ніцыя | Bidens cernuus L |
| Сабельнік балотны | Comarum palustre L |
| Чальчак звычайны | Lythrum salicaria L |
| Сьветнік зязюлькавы | Lychnis flos cuculi L |
| Незабудка балотная | Myosotis palustris (L) Roth |
| Драсён вужоўнікавы | Polygonum bistorta L. |
| Маруна балотная | Galium palustre L |
| Лотаць балотны | Caltha palustris L |
| Хвошч намульны | Equisetum limosum L |
| Шчаўе праўдзівае | Rumex acetosa L |

[1]) Участак гэты быў абсьледваны таму, што згодна экскізнага проекту, складзенага гідратэхнічнай часткай Белрыбтрэсту, меркавалася з гэтага пункту р. Сьвіслач падача вады ў запроектаваныя нагульныя і выросныя пруды.

**У пойме р. Сьвіслачы на абсьледваным участку зарэгістраваны наступныя віды:**

| | |
|---|---|
| Асака | |
| Падвей вузкалісты | Eriophorum angustifolium Roth |
| Пажарніца лугавая | Calamagrostis lanceolata Roth |
| Мятлюжок балотны | Poa palustris L |
| Мятліца белая | Agrostis alba L |
| Незабудка балотная | Myosotis palustris (L) Roth |
| Сабельнік балотны | Comarum palustre L |
| Маруна балотная | Galium palustre L |
| Хвошч намульны | Equisetum limosum L |
| Казялец востры | Ranunculus acer L |
| „ вогнікавы | „ flammula L |
| Лотаць балотны | Caltha palustris L |
| Бабок трылісьцёвы | Manyanthes trifoliata L |
| Чальчак звычайны | Lythrum salicaria L |
| Вятроўнік вязалісьцёвы | Filipendula ulmaria (L) Maxim |
| Драсён вужоўнікавы | Polygonum bistorta L |

Мохавае акрыцьцё прадстаўлена гіпнавымі імхамі, сярод якіх маем: Acrocladium cuspidatum, Climacium dendroides, а на больш вільготных участках відамі: Calliergon і Drepanocladus.

Торф цёмна-бурага колеру, таўшчыня пласту 1-2 м, падсьцілаецца шызавата-шэрым глеем. Раскладзенасьць торфу звычайна сярэдняя. Від торфу ў большасьці выпадкаў—асаковы, або дрэўна-асаковы. Мікроскопічным аналізам вызначаны ў торфе наступныя торфаўтваральнікі: многа асок (Carex), гіпнавых імхоў (Hypnum), дрэўныя рэшткі. Значна радзей сустракаецца шэйхцэрыя (Scheuchterzia palustris), чарот (Phragmites communis) і хвошч (Equisetum limosum).

У. Уладзіміраў.

# Атрутныя расьліны

*(На Барысаўшчыне)*

На нашых палёх, гародах, сенажацях, на лясных палянах, пакіданых землях і да гэтага часу застаецца яшчэ многа розных пустазельных расьлін. Расьліны гэтыя настолькі прыстасаваліся да навакольных умоў, што патрэбны жорсткія мерапрыемствы для барацьбы з імі. Глыбокі корань, няпрыемны пах, шматлікае насеньне для распаўсюджваньня, няпрыкметны выгляд, кароткі тэрмін пасьпяваньня, біолёгічная прыстасаванасьць да сужыцьця з культурнымі расьлінамі—вось тыя даныя, якімі багаты пустазельныя расьліны. Формы дарэволюцыйнага землякарыстаньня і нізкая тэхніка земляапрацоўкі, пустазельле і шырокія межы паміж палосак, насеньне без ачысткі—усё гэта спрыяла засьмечаньню палёў.

Колектывізацыя сельскай гаспадаркі, організацыя буйных саўгасаў і высокая тэхніка апрацоўкі зямлі забясьпечваюць барацьбу з пустазельлем, барацьбу за падвышэньне ўраджайнасьці нашых палёў.

Аднак, трэба зазначыць, што пустазельныя расьліны ня толькі засьмечваюць нашы палі і зьніжаюць ураджай, але многія з іх зьяўляюцца і атрутнымі. Адны з іх трапляюць у корм жывёлы раньняю вясною, другія—у збожжавае насеньне і шкодзяць чалавеку. Некаторыя дрэнна ўплываюць на якасьць малака, зьмяняючы яго колер і пах. Многія пустазельныя расьліны ўжываюцца ў народнай мэдыцыне і зьяўляюцца прычынай атручваньня людзей. Некаторыя расьліны шкодныя толькі ў зялёным стане і зусім няшкодныя, калі іх высушыць.

У наш час мы павінны падыйсьці да расьліны з пункту погляду поўнае яе ўтылізацыі. Мы ведаем, што ўсе культурныя расьліны былі ў свой час дзікімі. Чалавек паступова асвоіў многа расьлін. У соцыялістычнай гаспадарцы стаіць пытаньне вывучэньня ўсіх сыравінных багацьцяў краіны з мэтаю іх асваеньня. У нас існуе цэлы рад навуковых устаноў для вывучэньня і асваеньня дзікарастучых расьлін. Гэта справа будзе больш пасьяховай, калі за яе возьмецца ўся грамадзкасьць. Пабудова буйных соцыялістычных гаспадарак спрые гэтаму, як нельга лепш. Кожны колгасьнік, кожны працаўнік у галіне сельскае гаспадаркі ў першую чаргу павінен заняцца гэтай справай. Падаю сьпіс і апісаньне

некаторых расьлін, якія сустракаюцца на тэрыторыі Барысаўскага раёну і вядомы, як атрутныя.

Сям. Ranunculaceae.

1. Thalictrum flavum L.—Пылюшнік жоўты—Васолотнік жолтый. Расьліна 30—100 см вышыні. Лісьце дваяка і траяка перкаватае; лісточкі яе яйкаватыя або прадаўгавата-клінаватыя, цэльныя або трохпалосныя. Мяцёлка шчыткаватая, густая; тычачкі жоўтыя, нітачкі іх роўнамерна-тонкія. Расьце ўсюды на вільготных сенажацях асобнымі расьлінамі, цьвіце ўлетку. Асабліва многа ў ваколіцах Зэмбіна (на сенажацях).

Атрутным зьяўляецца сьцябло і корань. Вялікая доза сьцяблокораню пылюшніку, прынятая ўнутро—сьмяротная.

2. Anemone nemorosa L.—Курасьлеп—Ветреница.

Сьцябло вышынёю 10—20 см дае адну клетку з белым, зьверху ружаватым, радзей чырвоным, 6-лісьцёвым суквецьцем. Пад кветкаю акрыўка, якая складаецца з 3 пальчастарасьсечаных лістоў, падобных да прыкаранёвых лісьцяў. Сьцябло-корань доўгі, паўзучы, цыліндрычны. Зерняткі з кароткім слупком. Расьліна шматгадовая, расьце раньняю вясною на вільготных мясцох у лясох, каля Барысава на Плісе, Расьле.

Курасьлеп атрутны, але ў сушаным відзе няшкодны. У атручанай жывёлы зьяўляюцца крывавая мача, крывавы панос, запаленьне страўніка і кішок.

3. Delphinium consolida L.—Рагулькі звычайныя—Рогатые васильки. Вышыня 30—45 см. Лісьце шматразьдзельнае з ліняватымі часткамі. Кветкі сінія, ружовыя або белыя, няправільныя. Падвяночак пяцілістaвы, верхні падвяночкавы лісток працягнуты ў доўгі шпорац. Вяночак складаецца ўсяго з 2 пялёстак, якія паміж сабою зрастаюцца і ўтвараюць шпорац, уваходзячы ў шпорац падвяночку. Плод—торбачка. Звычайная расьліна, расьце сярод азімых і ярыны. Цьвіце ўсё лета. Многа каля Лагойску, сустракаецца каля Лошніцы. Каля Барысава рэдка.

Атрутным зьяўляецца, галоўным чынам, насеньне, якое, трапляючы ў хлеб, вельмі шкодзіць.

4. Aquilogia vulgaris L.—Фіялка—Водосбор.

Вышыня 40—50 см. Нізавое лісьце дваяка-патройнае з акруглымі лапасьцёвымі лісточкамі, а верхнія трохразьдзельныя. Кветкі буйныя, абвіслыя, большаю часткаю сінявата-фіялетавыя, іншы раз ружовыя або чарнавата-фіялетавыя. Падвяночак пяцілістaвы, афарбаваны. Вяночак з пяці пялёстак, кожны з іх працягнуты ў шпорац, загнуты на канцы кручком, унутры якога выдзяляецца мёд. Цьвіце ўлетку. У нас разводзіцца ў большасьці ў палісадніках. Усе часткі расьліны атрутныя, асабліва насеньне.

5. Aconitum napellus L.—Мардоўнік звычайны—Борец синий.

Вышыня 45—120 см. Корань складаецца з дзьвюх рэпаватых бульбін. Лісьце пальчастае, 5—7-расьсечанае з надрэзнымі часткамі. Кветкі няправільныя, сінія, сабраны доўгаю гронкаю. Падвяночкавых лісткоў 5, з якіх верхні мае выгляд шлему і прыкрывае дзьве верхнія, ніткаватыя пялёсткі, загорнутыя ў мёднікі; верхняя частка гэтых пялёстак мае форму сагнутага каўпачка, на дне якога выдзяляецца мёд. Пыльнікі пасьпяваюць раней слупкоў,

а таму апылкаваньне адбываецца дзякуючы ўдзелу чмялёў. Цьвіце ў другой палавіне лета. У нас разводзіцца ў палісадніках як у горадзе Барысаве, так амаль і па ўсіх вёсках.

Расьліна надзвычайна атрутная. Асабліва атрутныя бульбіны, а потым насеньне і лісьце.

6. Actaea spicata L.—Варанец каласісты—Воронец ягодный.

Вышыня 30—60 см. Сьцябло галіністае, з надта буйным дваяка або траяка патройным прыкаранёвым лісьцем. Сьцябловае лісьце меншай велічыні і ў нязначнай колькасьці. Дробныя белыя кветкі разьмеркаваны кароткімі верхавіннымі гронкамі. Падвяночак з чатырох хутка ападаючых падвяночкавых лісткоў, вяночак з 4—6 пялёстак, ягады прадаўгаватыя, чорныя ці чырвоныя. Цьвіце ў маі. Сустракаецца ў цяністых лясох сярод хмызьнякоў, па берагох рэчак. Мною знойдзена некалькі экзэмпляраў каля мястэчка Зэмбіна на сенажаці каля кустоў вольхі.

Усе часткі расьліны атрутныя. Жывёла атручваецца, калі расьліна трапляе з травою ў корм. Выпадкі атручваньня бываюць, калі людзі ўжываюць карэньні, як слабіцельнае.

Сям. Papaveraceae

1. Papaver rhoeas L.—Мак чырвоны—Мак самосейка.

Расьліна вышынёю 30—60 см. Сьцябло і глыбока-перкавата падзельнае лісьце ўсаджана жорсткімі валаскамі. Кветкі чырвоныя. Адваротна яйкаватая пушачка адкрываецца атворынкамі каля прамянiстага рыльца і падзелена ў сярэдзіне перагародкамі, якія не даходзяць да асяродкаў плада. Насеньне сядзіць на ўсёй паверхні перагародак.

Чырвоны мак—пустазельная расьліна, якая расьце на палёх сярод пасеву, на папарах. Выпалатая расьліна разам з іншым пустазельлем трапляе ў корм жывёле і часткова атручвае яе. Жывёла страчвае чуласьць і робіцца санлівай. У сьвіней выклікаецца санлівасьць і рыганьне.

2. Chelidonium majus L.—Падтыньнік—Чыстоцел большой.

Сьцябло галіністае, усаджанае рэдкімі адтапыранымі валаскамі; вышыня сьцябла 30—90 см. Лісьце глыбока-перкавата-расьсечанае, кветкі залаціста-жоўтыя, сабраны парасонікамі. Плод—лускаватая аднагняздовая пушачка. Цьвіце з мая і да восені. Сустракаецца ўсюды ў цяністых мясцох, асабліва каля плоту па ўсяму гораду Барысаву. Судзінкі напоўнены аранжавым сокам, едкім, які выцякае пры параненьні расьліны.

Расьліна атрутная. Жывёла зялёнага падтыньніку ня есьць. Сухая расьліна трапляе ў сена і выклікае атручваньне. У атручанай жывёлы назіраецца моцнае парушэньне страваваньня.

Сям. Cruciferae.

1. Erysinum cheirauthoides—Жаўтушка дробнакветная—Желтушник левкойный.

Вышыня расьліны 30—60 см. Сьцябло галіністае. Лісьце прадаўгавата-лянцэтаватае, крыху шаршавае, пакрытае рэдкімі трохпадзельнымі валаскамі. Кветкі жоўтыя; кветаножкі ў два ці ў тры разы даўжэй за падвяночкавыя лісткі. Пустазельная расьліна, якая вельмі часта трапляецца на палёх і засьмечаных месцах. Цьвіце з мая да восені.

З прычыны таго, што расьліна расьце сярод іншых, выпадкі атручаньня бываюць частыя. Заўважаецца пры атручваньні жывёлы ўздуцьце жывата, якое можа скончыцца сьмерцю.

Сям. Caryophyllaceae.

1. Saponaria officinalis L.—Мыльнік лекавы—Мыльнянка лекарственная.

Сьцябло-корань паўзучы; сьцябло простастаячае, вышынёю 30—50 см. Лісьце прадаўгавата-эліптычнае з трыма жылкамі. Пахучыя ружаватыя або белыя кветкі сабраны пучкамі і на верхавінах галінак і раскрываюцца ўвечары. Адзін пялёстак пры аснове з 2 зубкаватымі дадаткамі ўтварае каронку; слупкоў 2.

Сустракаецца каля дарог, па берагам рэчак, па ўскраінах лесу, па сенажацям, межам. Цьвіце з чэрвеня і да глыбокай восені. Падземныя часткі расьліны маюць надта атрутную матэрыю—сапонін.

Асабліва атручваюцца сьвіньні, якія вырываюць і паядаюць карэньні.

2. Adonis vernalis [1])—Прыгожнік веснавы—Горнцвет весенний.

Шматгадовая расьліна вышынёю 15—25 см з кароткім сьцябло-кораньнем, ад якога адыходзяць доўгія карані. Кветкі буйныя з 5-падвяночкавымі лісткамі і шматлікімі сьветлажоўтымі пялёсткамі. Семя зярністае. Расьце пераважна па вапненых узгорках і ўскраінах лесу. Цьвіце вясною. У нас сустракаецца рэдка.

Уся расьліна атрутная і асабліва дзейнічае на сэрца.

3. Agrostemma gythago L.—Куколь звычайны,—Куколь.

Пустазельная расьліна вышынёю 60—100 см; расьце сярод збожжавых расьлін. Сьцябло простае або разгаліненае, пакрыта мяккімі шэраватымі валаскамі. Кветкі бяз паху; падвяночак з пяці лісточкаў з доўгімі ліставіднымі зубкамі, выходзячымі за край вяночка. Пялёсткі чырвоныя. Насеньне буйное, чорнае, шарахаватае, горкае і атрутнае.

Жывёла, якая зьела значную колькасьць куколю, адчувае боль у жываце, паскараецца дыханьне, заўважаецца скрыгітаньне зубамі. Куколь атрутны і для людзей.

Сям Guttiferae.

1. Hypericum perforatum L.—Сьвятаяньнік дзіркаваты—Зверобой.

Сьцябло простастаячае, вышынёю 30—60 см., лісьце прадаўгаватае, яйкавіднае з прасьвечваючымі кропкавымі залозкамі. Шматлікавыя залаціста-жоўтыя кветкі сабраны на верхавіне сьцябла шчыткаватаю мяцёлкаю. Падвяночкавыя лісткі вострыя, па краёх цэльныя, гладкія. Кветкі наведваюцца шасьціножкамі, якія здабываюць пылок.

Звычайная расьліна, расьце на сенажацях, паміж хмызьнякоў, на межах, гародах. У Барысаўскім раёне—усюды. Цьвіце ўлетку. На жывёлу сьвятаяньнік дзейнічае атрутна, хоць сьмяротных выпадкаў амаль не заўважаецца.

---

[1]) *Заўвага:* Adonis vernalis зьяўляецца стэпавай расьлінай і знаходжаньне яе ў Барысаўшчыне зьяўляецца вельмі цікавым. Вельмі пажадана, каб аўтар паведаміў месца, дзе знойдзена ім гэтая расьліна, у якой колькасьці і даслаў у Акадэмію навук экзэмпляр гэрбарый. Апрача таго, у сьпісе нехапае некаторых відаў, даволі шырака распаўсюджаных і вельмі атрутных, як, напр., чамярыца (veratrum lobelianum) і нек. інш., ад атручваньня якіх вельмі церпіць жывёла.

Сям. Celastraceae.

I. Evonymus europaea L.—Брызьліна эўропейская—Бересклет европейский.

Хмызьнякі, вышынёю да 2 да 3 мэтраў; галінкі гладкія, 4-кантовыя; лісьці процілежныя, прадаўгавата-эліптычныя, дробнапілкаватыя. Кветкі дробныя, зеленаватыя; пыльнікі адкрываюцца за некалькі дзён да поўнага разьвіцьця рыльца. Сьпелая пушачка ружовага колеру; насеньне белае, пакрыта асобнай абалонкай аранжавага колеру. Цьвіце з канца красавіка і да чэрвеня. Сустракаецца ў лясох каля Барысава ў Расьле.

Плады, маладое лісьце і кара брызьліны атрутныя. Насельніцтва ўжывае брызьліну, як слабіцельнае. Часам дзеці ядуць ягады брызьліны і атручваюцца.

Сям. Umbelliferae.

1. Cicuta virosa L.—Цыкута атрутная—Вех ядовитый.

Сьцябло гладкае, галіністае, вышынёю 1—1,3 м. Лісьце дваяка або траяка-перкаватае расьсечанае, з вузка-ланцэтаватымі, востра-пілкаватымі часткамі. Тоўсты, мясісты, пусты ў сярэдзіне сьцяблокорань падзелены пераборкамі на некалькі каморак. Дробныя белыя кветкі разьмешчаны складанымі парасонікамі ў 10—15 галоўных праменьняў; агульных акрывак няма, але паасобныя акрывачкі шматлістая. Пушачка акруглаватая; кожны плодзік з 5 пласткаватымі рэбралі. Расьце ўсюды на балотах, на берагох рэк і канаваў, у ваколіцах Барысава, уздоўж р. Бярозы. Цьвіце ў другой палове лета. З усіх парасоньнікавых цыкута самая атрутная. Усе часткі расьліны атрутны, але асабліва атрутны сок карнявішча. З цыкуты з даўных часоў прыгатаўлялі самыя моцныя атруты.

2. Aethusa cynapium L.—Сабачая пятрушка.

Атрутнае пустазельле надзвычайна падобна на гародную пятрушку. Лісьце яе пры расьціраньні распаўсюджвае няпрыемны пах.

Сьцябло простастаячае, вышынёю 30—100 см з бліскучым дваяка або траяка-перкаватым лісьцем. Белыя кветкі сабраны ў складаныя парасоньнікі на доўгіх ножках у 8—12 праменьняў без акрывак. Акрыўкі складаюцца з двух-трох доўгіх лінеяватых адгібаных уніз прыкветкаў. Плод прадаўгавата-яйкаваты. Плодзікі з 5 тоўстымі вострымі рэбрамі. Сустракаюцца на засьмечаных мясцох, на гародах, у садох, паміж хмызьнякоў. Цьвіце з чэрвеня і да кастрычніка. Расьліна атрутная. Жывёла атручаная стогне, наступае параліч задніх ног.

3. Aenanthe Phellaudrium Lam—Конскі ўкроп.

Балотная расьліна, сьцябло вышынёю 50—150 см, вельмі галіністае. Паветранае лісьце дваяка або траяка-перкаватае з дробнымі яйкавіднымі перкавата надрэзанымі часткамі. Падводнае лісьце дробна разрэзанае на доўгія ніткаватыя часткі. Складаныя парасоньнікі, на кароткіх ножках у 7—12 праменьняў без акрывак, але з акрывачкамі. Кветкі белыя. Плод прадаўгаваты; плодзікі з 5 шыроканіткаватымі, слаба прыкметнымі рэбрамі. Сустракаецца ўсюды на балотах і сенажацях.

Жывёла зялёных расьлін не чапае, дзякуючы няпрыемнаму паху. Высушаны конскі ўкроп захоўвае атрутнасьць і, пападаючы ў сена, можа атруціць жывёлу.

4. Conium maculatum L.—Амежнік плямісты—Болиголов крапчатый. Сьцябло 1—1,5 м вышыні, бараздкаватае, зусім голае, зьнізу з цёмна-чырвонымі плямамі. Лісьце зьверху цёмна-зялёнае, зьнізу сьветла-зялёнае, у агульным акрасьленьні 3-х кутнае, траяка-перкаватае, з прадаўгаватымі перкавата-надрэзанымі або падзеленымі часткамі; хвасткі дудкаватыя. Суквецьце—складаны парасоньнік аб 7—10 праменьнях, крыху выгнутыя; акрыўкі 2—5 ліставыя; акрыўкі аднабочныя з 3-4 ланцэтаватых завостраных прыкветкаў. Кветкі белыя. Плод яйкавідна-кулявідны, крыху сьціснуты з бакоў; плодзікі з 5-цю хвалявата-зарубчастымі рэбрамі. Расьце ўсюды на засьмечаных вучастках, цьвіце з мая і да восені. Амежнік надта падобны да кветкі морквы. Атрутная ўся расьліна, асабліва лісьце, кветкі і недасьпелае насеньне. Ужываецца ў народнай мэдыцыне, дзе і назіраюцца выпадкі атручваньня. Жывёла атручваецца, асабліва ўвесну, калі расьліна не адрозьніваецца ад травы і калі мала корму. У атручаных траціцца ўласьцівасьць руху, жывёла падае. Атручаны чалавек ня можа гаварыць і праз 3-4 гадзіны памірае.

Сям. Ericaceae.

Ledum palustre L.—Багун балотны—Богульник болотный.

Вечна-зялёны простастаячы хмызьняк, з адурманьваючым пахам, дасягае 60—130 см. Лісьце скураватае, лініяватае, з загнутымі краямі, зьнізу пакрытае рыжавата-бурым лямцам, кветкі белыя, радзей чырванаватыя, у канцавых шчыткох. Вяночак з 5-ці свабодных пялёстак, тычачак 10, пыльнікі без дадаткаў. Плод пушачка. Расьце на тарфяных балотах па ўсіх лясох на нізкіх мясцох навакол Барысава. Цьвіце ў маі і чэрвені.

Лісьце багуна вельмі горкае і жывёла ня есьць яго. Козы ды авечкі, паядаючы багун, атручваюцца. Багуном атручваюцца і людзі, ужываючы багун як лякарства.

Сям. Solanaceae.

1. Solanum dulcamara L.—Лісьнік салодкагоркі—Паслен сладкогорький.

Сьцябло дзервяністае, ляжачае, павівастае, дасягае да 3 мэтраў даўжыні. Лісьце хвастковае, прадаўгавата-яйкавіднае, завостранае, пры аснове звычайна сэрцаватае, часта 2-3 разьдзельнае, пры гэтым канцавая частка буйней бакавых. Кветкі ў парасьнікаватых гронках, з фіялетавым зоркаватым вяночкам і буйнымі залаціста-жоўтымі пыльнікамі, зложанымі конусам. Ягады яйкавідныя, ярка чырвоныя, 2-х гнёздавыя. Сустракаецца на вільготных цяністых мясцох, па берагам рэк і паміж хмызьнякоў. Цьвіце ўлетку. У ваколіцах Барысава—у Расьле, на Плісе, Усьле.

Лісьнік—расьліна атрутная. Атрута знаходзіцца ў лісьцях, сьцябле і часткова ў ягадах. Пры атручваньні заўважаецца паралюш крыжа.

2. Hyoscyamus niger L.—Блёкат чорны—Белена.

Простастаячая расьліна 30—60 см вышыні, пакрытая клейкімі залозістымі валаскамі. Лісьце буйнае, доўгавата-яйкавіднае, глы-

бока-надрэзанае, нізавое, хвастковае, верхняе паўсьцябло—ахопліваючае. Кветкі амаль сядзячыя ў завіткох, вяночак лейкаваты, брудна-жоўтага колеру, з жылкамі. Плод—пушачка, пакрытая вечачкам. Расьце ўсюды на засьмечаных мясцох, пустырох. Цьвіце ўлетку.

Блёкат—надта атрутная расьліна з няпрыемным пахам. Пры атручваньні ў жывёлы заўважаецца пашырэньне зрэнкаў, сударагі. Блёкат ня страчвае атрутнасьці і ў высушаным стане.

3. Datura stramonium L.—Дурнап'ян сьмярдзючы—Дурман.

Расьліна з вілкавата-галіністым сьцяблом, вышынёю 30—100 см. Лісьце буйнае, хвастковае, яйкавіднае, глыбока-выемкавата-зубкаватае. Кветкі буйныя, пахучыя, сядзяць у большасьці паасобку ў разьвілінах сьцябла. Вяночак белы, лейкаваты, з 5 вострымі лапасьцямі. Плод—пушачка, амаль куляватая, усаджаная камочкамі. Цьвіце ўлетку. Кветкі распукаюцца ўвечары. Сустракаецца на засьмечаных мясцовасьцях.

Дурнап'ян надта атрутны. Атрутны ўсе часткі расьліны. Атрутнасьць захоўваецца і ў засушанай расьліне. Дзейнічае нават на хатніх птушак і сабак.

Сям. Scrophulariaceae.

1. Gratiola officinalis L.—Ауран лекавы.

Сьцябло-корань паўзучы; сьцябло простастаячае, вышынёю 15—30 см. Лісьце процілежнае, сядзячае, ланцэтаватае, дробнапілкаватае. Кветкі сядзяць на доўгіх кветканожках па аднаму ў кутох лісьцяў. Вяночак з жаўтаватай трубачкай і плоскім, амаль двугубым, белым або ружовым адгібам; тычачак 4. Сустракаецца на сырых сенажацях, балотах і ярох рэк. Цьвіце ўлетку. Усе часткі расьліны атрутныя. Расьліна пападае ў сена або зялёны корм і зьяўляецца шкоднай. Расьце ў Барысаве на беразе р. Бярозы супроць Барысава.

2. Digitalii purpurea Z.—Наперстаўка—Наперстянка пурпурная.

Атрутная расьліна з лямцава-валасістым сьцяблом, вышынёю 30—120 см. Лісьце чарговае, доўга-хвастковае, яйкавата-ланцэтаватае, зарубчастае, зьнізу лямцавае. Досыць буйныя кветкі сабраны доўгаю аднабочнаю гранкаю. Вяночак трубчаста-званкаваты, чырвоны, усыпаны цёмна-чырвонымі плямамі. Тычачак 4. Цьвіце ўлетку. У нас разводзіцца ў палісадніках. У Барысаве мыназіралі на Іркуцкай вуліцы.

Наперстаўка—вельмі атрутная расьліна. Атрута заўважаецца ў высушанай расьліне. Пасьля атручваньня наперстаўкай наступае паралюш, а затым сьмерць.

Сям. Thymeleaceae.

Daphne mezereum L.—Воўчая ягада—Волчье лыко.

Простастаячы хмызьняк, вышынёю 30—100 см; кожная галінка дае на верхавіне пучок прадаўгаватага-ланцэтаватага лісьця. Кветкі ружовыя, пахучыя, сядзяць па 2-3 пучкамі па бакох галінак. Ягады чырвоныя, велічынёю з гарошыну. Сустракаецца ўсюды ў лясох каля Барысава ў Расьле. Цьвіце рана ўвесну да зьяўленьня лісьця.

Расьліна страшэнна атрутная, нават і высушаная. Асабліва атрутны кара і ягады. Прыложаная да цела кара выклікае валдыры. У атручаных заўважаецца страта сілы і прытомнасьці, рэзь у жываце.

Сям. Euphorbiaceae.

Euphorbia Helioscopia Scop. — Малачай месячны — Молочай. солнцегляд. Сьцябло вышынёю 15—30 см., простае або з невялікімі ўзьбежнымі галінкамі. Лісьце чарговае, адваротна-яйкавіднае, звужанае ў кароткі хвасток, сьпераду пілкаватае. Агульнае суквецьце парасоньнікаватае ў 5 галоўных праменьняў, якія вілкавата-разгалінваюцца 1 або 2 разы; пры кожным разгаліненьні знаходзіцца па 2 авальных прыкветкі, а пры аснове агульнага суквецьця прыкветкі разьмешчаны кружком, утвараючы акрыўку. Кветкі аднадомныя, тычачкаватыя, складаюцца з аднэй тычачкі з прыкветачкамі, а слупковыя—з аднаго слупка на доўгай ножцы. Некалькі тычачкавых кветак і адна слупковая сабраны разам і абкружаны зросталіставаю акрыўкаю, утвараючы такім чынам маленькае суквецьце, напамінаючае двухрадовую кветку. Пушачка 3-хгнёздавая, гладкая; паверхня насеньня ўсеяна ямкамі. Малачай сустракаецца ўсюды на папаравых палёх, сярод ярыны, цьвіце ўлетку. З часу зацьвіценьня малачай—расьліна атрутная, атрутнасьць ня страчваецца і ў высушанай расьліне. Атручваюцца і людзі, ужываючы малачай, як слабіцельнае.

Сям. Acalyphaceae.

Mercurialis perennis L.—Сіневароць трывалы—Пролеска многолетная. Расьліна з прамастаячым простым цыліндрычным сьцяблом, вышынёю 15—20 см. Лісьце хвасткаватае, эліптычнае або ланцэтаватае, у верхавіне сьцябла зьбліжанае. Кветкі двоядомныя ў пазухавых каласкох. Тычачкавыя каласкі амаль аднолькавай даўжыні з лісьцем, слупковыя—значна карацей лісьця і складаюцца з 1—3 кветак. Аквецьце трохразьдзельнае, тычачак 9. Пушачка 2-хгняздовая. Сустракаецца паміж хмызьнякоў, у лесе. Каля Барысава на Плісе. Цьвіце ўвесну.

Сіневароць трывалы вельмі атрутны.

Зялёную расьліну жывёла ня есьць, але з сена захоплівае і атручваецца.

Сям. Asparagaceae.

Paris guadrifolia L.—Мудранка чатырохлістая—Вороний глаз.

Сьцябло простае, вышынёю 15—45 см з 4 эліптычнымі лістамі, разьмешчанымі гуртком і з верхавінаю зеленавата-жоўтаю кветкаю. Прыкветнік складаецца з 4 знадворных ланцэтаватых і 4 унутраных вузкіх лініяватых лісточкаў. Тычачак 8, завязь чатырохгняздовая з 4 слупкамі. Ягада сінявата-чорная. Расьце па лясох, паміж хмызьнякоў, цьвіце ў маі. У Барысаве ў Расьле.

Мудранка атрутная, асабліва атрутныя ягады. Расьліна зьядаецца з травяным падножным кормам і зьяўляецца прычынай атручваньня жывёлы. Атручваюцца часам і дзеці, зьядаючы ягады.

Сям. Gramineae.

Lolium temulentum L.—Жыцік дурманавы—Плевел.

Сьцябло простастаячае, вышынёю 30—100 см. Лісьце лініяватае. Каласкі шматкветкавыя, сплюснутыя, сабраны рэдкімі каласкамі, сядзяць на выступах стрыжня па аднаму, зьвернуты да яго рабром. Усе каласкі, выключаючы верхавінны, маюць па аднэй створцы па даўжыні роўнай з каласкамі і плеўку з доўгім асьцюком. Расьце паміж збожжа і цьвіце ўлетку. Насеньне атрутнае. Разам з насеньнем збожжа, пападаючы ў корм жывёлы, атручвае яе. Асабліва дзейнічае на маладых жывёлін.

Сям. Equisetaceae.

Equisetum arvense L.—Хвошч палявы—Хвощ полевой.

Сьцяблы дваякага роду: адны пладаносныя, зьяўляюцца ў раньнюю вясну, другія бясплодныя, вырастаюць улетку. Першыя 15—20 см. вышыні, негалінiстыя, чырванаватыя з шырокімі плеўкаватымі похвамі; пасьля пасьпяваньня зародніку хутка паміраюць і зьмяняюцца няплоднымі. Няплодныя 30—60 см вышынёю, жорсткія, галіністыя; галінкі звычайна простыя, 4-кантовыя, з 4-зубкаватымі пахвамі.

Расьце на палёх, пустырох, каля дарог; звычайная расьліна. Атрутнасьць заўважаецца як у сырых, так і высушаных экзэмплярах. Магчыма сьмяротнасьць жывёлы пры ўжываньні значнай колькасьці.

---

*І. Мэрымскі і І. Айзэнштадт*

# Апалавыя рэсурсы БССР

Вывучэньне рэсурсаў апалу БССР мае ў сучасны момант вельмі актуальнае значэньне, з тае прычыны, што прадбачыцца ў бліжэйшыя гады амаль поўны пераход народнае гаспадаркі БССР на мясцовы апал. Вывучэньне запасаў апалу, яго тэрытарыяльнага разьмяшчэньня і якасьці зьяўляецца неабходнай прадпасылкай для рацыянальнае пабудовы апалавага балянсу краіны, і дае магчымасьць ўнікнуць сустрэчных перавозак апалу і максымальнага абмежаваньня завозу ў БССР апалу з іншых абласьцей Саюзу.

Неабходна адзначыць, што да гэтага часу апалавая база БССР, і ў прыватнасьці рад апалавых рэсурсаў, якія да гэтага часу ня ўжываліся, недастаткова вывучаны і што ў далейшым неабходна форсаваць іх вывучэньне—выяўленьне запасаў і тэхнолёгічнае выпрабаваньне.

## Мясцовыя віды апалу ў БССР

Да мясцовых відаў апалу на Беларусі адносяцца торф, дровы, сапропэлі, буры вугаль, торфа-лігніты, салома, апады хваёвых дрэў, адкіды прамысловасьці на лесапільных і дрэваапрацоўчых заводах, фанерных прадпрыемствах (шпон, гарбылі, качалкі, рэйкі, апілкі), на скураных і дубільных заводах—аддубіна і на лёна-заводах—кастрыца.

Усе пералічаныя віды апалу могуць быць падзелены на 3 наступныя групы:

а) Якія ня маюць на сёнешні дзень прамысловага значэньня ў БССР; да гэтай групы адносяцца торфа-лігніты (акамянелыя віды торфу), буры вугаль і гаручыя сланцы.

Торфа-лігніты (акамянелыя віды торфу) распылены па тэрыторыі БССР і запасы іх невялікія. Найбольш значным месцам знаходжаньня іх зьяўляецца раён вёскі Лясковічы, каля гор. Пятрыкова (Палесьсе).

Буры вугаль на тэрыторыі БССР знойдзены ў Калінкавіцкім сельсавеце, каля гор. Мазыру, і пласт бурага вугля магутнасьцю 2 м залягае на значнай глыбіні (10,7 м) каля вёскі Прудок.

Характэрнай асаблівасьцю Мазырскага вугалю зьяўляюцца паклады яго ў выглядзе гнёздаў і невялікіх пакладаў.

б) Якія маюць апалавае значэньне, але якія скарыстоўваюцца або могуць быць скарыстаны ў якасьці сыравіны ў прамысло-

васьці. Да іх адносяцца салома, кастрыца, аддубіна і адкіды лесапільных і дрэваапрацоўчых заводаў.

Да гэтага часу салома ў сувязі з недастачай концэнтраваных кармоў, ішла як харч для жывёлы і скарыстоўвалася таксама, як падсьцілачны матар'ял і толькі невялікая частка яе скарыстоўвалася ў сельскай гаспадарцы БССР, як апал. У другую пяцігодку салома пойдзе на выпрацоўку саломенай цэлюлёзы, для папяровай прамысловасьці і часткова на выраб новых будаўнічых матар'ялаў. Льняная кастрыца таксама будзе скарыстана ў папяровай прамысловасьці і для вырабу новага будаўнічага матар'ялу—кастроліту. Аддубіна знойдзе ўжываньне як сыравіна, для выпрацоўкі скуранога картону і фурфуролу. Нарэшце адкіды лесапільных і дрэваапрацоўчых заводаў—шпоны, качалкі, гарбылі, апілкі і інш., якія скарыстоўваюцца зараз, як апал, будуць скарыстаны ў якасьці сыравіны для папяровай і хэмічнай прамысловасьці, а апілкі пры вырабе будаўнічых матар'ялаў (эфэктыўная цэгла, буйна-балачныя каменьні і інш.).

в) Якія маюць прамысловае значэньне ў якасьці апалу: торф дровы, апады хваёвых дрэў і сапропэлі.

Асаблівае месца сярод гэтых апалаў займаюць сапропэлі, якія могуць ужывацца як апал толькі пасьля перапрацоўкі, у якасьці вадкага гаручага і паўкоксу, які спальваецца пад катламі.

Запасы астатніх 3-х відаў апалу могуць быць непасрэдна ўжыты для спальваньня ў натуральным выглядзе.

Запасы іх вылічаюцца:

Торфу. . . . . 409 млн. тон умоўнага апалу (700 калёрый)
Дроў . . . . . 8,8 " " " "
Ападаў хваёвых дрэў 0,9 млн. " " "

Такім чынам найважнейшым відам мясцовага апалу БССР зьяўляецца торф, які мае паўсюднае распаўсюджваньне.

Да больш падрабязнага разгляду тарфяных рэсурсаў мы пераходзім.

## Тарфяныя рэсурсы

Увага: Зьвесткі аб тарфяным фондзе БССР атрыманы ад дасьледчай партыі Белторфу, ад мэліорацыйных таварыстваў (па лініі Мэліотрэсту НКЗ БССР) і апрацаваны аддзелам экономікі Навукова-дасьледчага ін-ту прамысловасьці БССР.

Вышэйпаказаны матар'ял ня можа прэтэндаваць на паўнату па тэй прычыне, што да гэтага часу тарфяныя балоты БССР дасьледваны вельмі недастаткова. Дэталёва дасьледавана ўсяго тарфянікаў БССР каля 30% сапраўднай плошчы.

Рэшта тарфянікаў да гэтага часу не дасьледвана, а толькі абгледжана.

§ 1. Уся плошча тарфянікаў БССР налічвае 642.150 га, што складае 5,1% усёй тэрыторыі БССР. Сярод паказаных тарфянікаў тыя плошчы, якія перавышаюць 100 га, складаюць 548.618 га, з агульным запасам торфу-сырцу 10.838 млн. кубамэтраў. Калі-ж

улічыць, што пласт торфу, які складае прыкладна 16% усяго запасу, у моц высокай зольнасьці ня можа мець ужываньня на апал, а таксама ўлічыць іншыя страты, менавіта: а) частку торфу, якая не скарыстоўваецца на акраінах балот, прыкладна—5%; б) страты на броўкі—1%, страты на пністасьць—2%; г) верхні пласт мохавых балот, што мала распаўся, які на апал не скарыстоўваецца і ідзе на выраб тарфяной падсьцілкі і ізоляцыйных пліт і які складае каля 10% усяго тарфянога фонду БССР, дык за вылічэньнем у агульнай складанасьці 34%, агульны запас торфу-сырцу будзе складаць 7.158 млн. м ³, або ў пераводзе на паветрана сухі торф—30% вільготнасьці—1022 млн. тон, што ў пераводзе на ўмоўны (7000 кал.) апал складзе, бяручы пераводны коэфіцыент торфу ва ўмоўны апал—0,4—409 млн., тон умоўнага апалу.

§ 2. Па велічыні плошчы тарфянікаў БССР з глыбінёй пласту ў 0,7 м, падзяляюцца наступным чынам:

Табліц № 1.

| Групы | Плошча балот | Лік балот | Агульная плошча ў га | Агульная плошча ў %% | Запасы сырав. ў млн. м3 | Запасы сырав. ў %% | Сярэд. разьм. балот ў га |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I | Звыш 5000 га . . . | 13 | 104.903 | 19,3 | 2.239 | 21,6 | 8.070 |
| II | Ад 1000 га да 5000 га . . . | 125 | 147.678 | 45,2 | 4.806 | 44,3 | 1.980 |
| III | Ад 500 да 1000 га. | 127 | 88.137 | 16,2 | 1.712 | 15,8 | 694 |
| IV | Ад 300 да 500 га. | 127 | 47.004 | 8,2 | 920 | 8,5 | 370 |
| V | Ад 100 да 300 га. | 368 | 60.931 | 11,1 | 1.061 | 9,8 | 166 |
| | | 760 | 548.628 | 100% | 10.338 | 100% | 7.218 |

Даныя гэтай табліцы могуць быць паказаны наступнымі дыяграмамі:

Дыяграма № 1.

Разьмеркаваньне тарфянікаў БССР па іх плошчы.



Дыяграма № 2.

**Разьмеркаваньне запасаў торфу па групам тарфянікаў.**




Для БССР вялікае значэньне мае той факт, што большая частка плошчы тарфянікаў прыпадае на буйныя масывы.

Тарфянікі плошчаю звыш 1000 га займаюць 60% усёй плошчы тарфянікаў.

Гэтая акалічнасьць дае магчымасьць, з аднаго боку, праектаваць буйныя мэханізаваныя тарфяныя гаспадаркі, а з другога боку, на падставе гэтых буйных тарфяніковых гаспадарак, праектаваць буйныя электрастанцыі, што ў сваю чаргу забясьпечвае магчымасьць пераводу ўсяе народнае гаспадаркі БССР на цэнтралізаванае забясьпечаньне электраэнэргіяй.

§ 3. Тарфяныя балоты, як вядома, падзяляюцца на наступныя 3 групы: верхавыя (мохавыя), пераходныя і нізінныя (лугавыя). Той ці іншы тып балота робіць уплыў на выбар способу здабываньня торфу і на яго якасьць.

Вельмі часта нізінныя балоты скарыстоўваюцца для патрэб сельскае гаспадаркі, тады, як верхавыя балоты звычайна для патрэб прамысловасьці. Гэта робіцца таму, што торф нізінных балот па сваёй якасьці, як апал, большай часткай уступае торфу верхавых балот.

Што датычыцца спосабаў здабычы, дык на нізінных балотах большай часткай можа ўжывацца фрэзэрны спосаб здабываньня, тады як на верхавых балотах гэты спосаб з-за пністасьці і таўшчыні верхняга пласту, у якім торф мала расклаўся, у большасьці ня можа ўжывацца.

Тарфянікі БССР па паказаным 3-м тыпе разьмяркоўваюцца наступным чынам:

| Тып тарфянікаў | Агульная іх плошча | | Запасы торфу-сырцу | |
|---|---|---|---|---|
| | У тыс га | У %% да ітогу | У млн. $м_3$. | У %% да ітогу |
| Мохавыя . . . | 197 | 36 | 4.130,7 | 38,1 |
| Пераходныя . . . | 183 | 33,5 | 3.801,2 | 35,1 |
| Нізінныя . . . | 168 | 30,5 | 2.906,5 | 26,8 |
| Усяго . . | 548 | 100% | 10.838,4 | 100% |

Што датычыцца тэрыторыяльнага разьмяшчэньня тарфянікаў усіх 3-х груп, дык у паўночнай частцы БССР, у раёне рэчкі Дзьвіны, пераважаюць верхавыя балоты, у цэнтральнай частцы БССР—верхавыя і пераходныя, а ў паўднёвай частцы—нізінныя.

§ 4. Тарфянікі шырока распаўсюджаны па тэрыторыі БССР, за выключэньнем крайняй усходняй часткі яе, дзе яны сустракаюцца рэдка. Ня толькі тарфянікі ў цэлым значна распаўсюджаны, але тое-ж самае можна сказаць у адносінах буйных тарфянікаў.

Для прыкладу падамо рад буйных тарфянікаў у розных раёнах БССР.

У паўночнай частцы БССР знаходзяцца наступныя буйныя тарфяныя балоты:

1. „Вобальскі мох", плошчаю каля 5,5 тыс. га (мохавае)—знаходзіцца каля станцыі Вобаль.

2. „Патокі" — у Расонскім раёне, плошчаю каля 9 тыс. га (мохавае).

У Цэнтральнай частцы БССР: 1. „Кразуны"—Сьмілавіцкага раёну, плошчай каля 3 тыс. га (мохавае). 2. „Гадылева"— Быхаўскага раёну—3,3 тыс. га (мохавае). 3. „Уствіч Буг"—Талачынскага раёну—5.100 тыс. га (пераходнае).

У паўднёвай частцы БССР: 1. „Кабылянка"—Гомельскага раёну, 5.300 га (нізіннае). 2. „Лошынскае балота"—Грэскага раёну, плошча 7,1 тыс. га (нізіннае). 3. „Астраўскі мох"—Старобінскага раёну, плошча 5000 га (нізіннае) і інш.

Роўнамернае тэрыторыяльнае разьмеркаваньне буйных масываў дае магчымасьць пакрыць БССР сеткаю буйных электрычных станцый раённага значэньня.

§ 5. Цікава яшчэ прасачыць адлегласьць тарфянікаў Беларусі ад чыгуначных шляхоў, бо калі для раённых станцый гэты фактар ня мае вялікага значэньня, дык для скарыстаньня торфу ў гарадох і для асобных прамысловых прадпрыемстваў, якія спажываюць торф, разьмяшчэньне тарфянікаў адносна чыгуначных станцый вельмі важна.

Беларускія тарфянікі разьмешчаны ад чыгуначных станцый на адлегласьцях максымальна 40 км. („Астроўскі мох", Старо-

бінскага раёну), мінімальна менш 1 км. („Дукоры“, Сьмілавіцкага раёну)—плошча 1,3 тыс. га.

Калі абмежавацца больш буйнымі тарфянікамі БССР, плошчаю звыш 1000 га, дык размеркаваньне іх у залежнасьці ад іх адлегласьці ад чыгуначных станцый мае такі выгляд:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Групы 1 | тарфянікаў на адлегласьці | менш | 1 км.— | каля 3,3 тыс. га |
| „ 2 | „ „ | „ | 1,5 „ | 51,7 „ |
| „ 3 | „ „ | „ | 5,12 „ | 61,3 „ |
| „ 4 | „ „ | „ | 12,25 „ | 48,5 „ |
| „ 5 | „ „ | звыш | 25 „ | 134,4 „ |
| | | | | 300,2 „ |

Гэта значыць, што большасьць буйных тарфянікаў аддалена ад чыгуначных станцый на значную адлегласьць. Найбольш аддаленымі зьяўляюцца нізінныя балоты, менш—верхавыя балоты.

Аддаленасьць тарфянікаў плошчаю звыш 1000 га ад чыгуначных станцый можна ілюстраваць наступнай табліцай:

| Адлегласьць ад чыг. стан. | Плошча тарфянікаў | | |
|---|---|---|---|
| | Мохавых | Пераходных | Нізінных |
| 0—1 км. | 3,3 | — | — |
| 1—5 „ | 27,7 тыс. га | 15,7 тыс. га | 8,3 тыс. га |
| 5—12 „ | 28,9 „ | 23,2 „ | 9,2 „ |
| 12—25 „ | 22,0 „ | 18,0 „ | 8,5 „ |
| зв. 25 „ | 31,9 „ | 57,8 „ | 45,7 „ |
| | 113,8 „ | 114,7 „ | 71,7 „ |

§ 6. Якасьць торфу, як апалу, вызначаецца яго цеплатворнаю здольнасьцю. Апошняя залежыць ад ступені раскладаньня торфу, а таксама ад здольнасьці яго, якая ў сваю чаргу залежыць ад характару балота. Ступень раскладаньня торфу ня толькі характарызуе торф, як апал, але таксама ўплывае на ўжываньне тых ці іншых спосабаў здабываньня торфу. Асаблівасьцю мохавых балот БССР зьяўляецца нявысокая ступень раскладаньня торфу.

Амаль усе дасьледваныя мохавыя балоты БССР маюць верхні пласт торфу, які мала расклаўся, у сярэднім на глыбіні аднаго мэтра. Пласт гэты на апал ня ўжываецца. Ступень-жа раскладаньня торфу на пераходных і нізінных балотах вельмі рознастайная, але тым ня менш можна лічыць, што ступень раскладаньня торфу гэтых балот больш высокая, чым торфу мохавых балот. Нізінныя балоты, створаныя асакамі, хвашчамі, чаротамі, з прычыны вялікіх дамешак мінэральных матэрый, маюць торф з больш высокаю ступеньню здольнасьці. Наадварот, верхавыя тарфянікі, якія створаны сфагнавым мохам, маюць невялікую колькасьць мінэральных дамешак і таму іх торф менш зольны.

Вялікая частка аналізаў на зольнасьць торфу дэталёва абсьледваных балот паказвае, што зольнасьць вагаецца ад 2,7 да 15% (на абсолютна сухую матэрыю), у прыватнасьці для мохавага торфу ў сярэднім—3,75%, пераходнага—97%, нізіннага—10,8%. Таму цеплатворная здольнасьць торфу верхавых балот некалькі вышэй, чым пераходных і нізінных.

§ 7. Асноўныя фактары, якія ўплываюць на характар эксплёатацыі балот, вызначаюцца: 1) характарам пакладу (ступень яго пністасьці, плошча, глыбіня, водны рэжым); 2) якасьцю торфу; 3) маштабам вытворчасьці. Наяўнасьць моцнага пласту торфу, які слаба расклаўся на верхавых балотах, іх пністасьць (на мохавых тарфяніках БССР большай часткай залягаюць два горызонты пнёў),—усё гэта не дае магчымасьці ўжываньня на іх багарнага і фрэзэрнага спосабаў здабываньня торфу. З другога боку ў моц таго, што большасьць мохавых балот значна аддалены ад вадаёмаў і для стварэньня штучных вадасховішчаў патрэбны вялікія выдаткі, таму большаю часткаю спосаб вялікага гідраторфу таксама ня можа ўжывацца; значыць, на верхавых балотах большай часткай магчыма будзе ўжываньне машына-элеватарнага спосабу. Што тычыцца нізінных балот, дык на іх можа ўжывацца фрэзэрны і багарны спосабы здабываньня. У сувязі з гэтым на нізінных балотах кошт апалавага торфу будзе больш танным, чым на верхавых.

## Дрэўныя рэсурсы

§ 1. Паводле даных дасьледваньня 1931 году, якое праведзена Лесбелам, агульная плошча лясоў БССР вызначаецца ў колькасьці 3764 тыс. га, ці каля 27% усяе тэрыторыі БССР. З гэтае колькасьці пакрытая лесам плошча складае 71%, не пакрытая лесам плошча (высечкі, гары, прагаліны, дарогі і інш.)—17,5%, сельскагаспадарчыя ўгодзьдзі—2,75 і няўдобная плошча (балоты і пяскі)—8,75%. Разьмеркаваньне лясоў на тэрыторыі БССР вельмі няроўнамернае. Месцамі яны разьмешчаны вялікімі масывамі (Барысаўскі масыў—144 тыс. га, Тураўскі—59 тыс. га), месцамі разьмешчаны дробнымі ўчасткамі. Найбольш багаты лесам наступныя раёны БССР:

| Раёны | Агульная плошча лясоў у 1000 га | Адносіны плошчы лесу да ўсяе плошчы раёну ў проц. |
|---|---|---|
| Барысаўскі | 107,9 | 59 |
| Лельчыцкі | 89,0 | 41,6 |
| Каралінскі | 74,6 | 50,8 |
| Рэчыцкі | 65,8 | 31,0 |
| Жыткавіцкі | 61,0 | 42,2 |
| Пятрыкоўскі | 72,7 | 38,4 |
| Полацкі | 63,0 | 38,9 |
| Бягомльскі | 57,4 | 39 |
| Сьвіслацкі | 45,8 | 52 |

Наогул, найбольш багатыя лесам паўднёва-заходняя частка БССР (Мазыршчына) і цэнтральная частка (Барысаўшчына). Лясная плошча БССР у раённым разрэзе разьмеркавана вельмі нароўнамерна. Процант лясістасьці асобных раёнаў вагаецца ад 8 (Камарынскі раён) да 59 (Барысаўскі раён).

§ 2. Асноўнымі ляснымі пародамі БССР зьяўляюцца: хвоя елка, дуб, ясень, бяроза, асіна. Пануючымі пародамі беларускіх лясоў зьяўляюцца хвоя і елка. З агульнай пакрытай лесам плошчы на долю хваёвых лясоў прыпадае каля $^2/_3$ усяе плошчы. Хвоя распаўсюджана па ўсёй Беларусі. Елка распаўсюджана галоўным чынам на поўначы БССР (Віцебшчына, Полаччына). Дуб і ясень распаўсюджаны на поўдні БССР, у Гомельскім, Бабруйскім, Мазырскім раёнах. Ліпа, клён, вольха, зьяўляюцца спадарожнікамі дубу.

Склад лесанасаджэньняў у БССР дае магчымасьць устанавіць тыпы запасаў лесагаспадаркі: 1) хваёвая, якая яднае хвою і елку; р) хваёвая па балоту; 3) дубова-ясеневая; 4) альховая і 5) іншых лісьцевых парод.

Разглядаючы кожную з гэтых гаспадарак у паасобку, можна сказаць, што: 1) у хваёвай гаспадарцы хвоя складае 43% усяе масы дрэў, елка—28, бяроза—10,8, асіна—7,9, дуб—3,8 і астатнія—1,7%; 2) у хваёвых на балоце гаспадарках на долю хвоі прыпадае $^3/_4$ усяго дрэўнага запасу, 11% бярозы, а астатняе прыпадае на елку і іншыя пароды; 3) у дубова-ясеневай гаспадарцы каля 50% запасу прыпадае на дуб, 4—на ясень, 9—на вольху, 8,3—на асіну, 7,09% на бярозу; 4) у альховай гаспадарцы 60% запасу складае чорная вольха, 11—елка, 7,2—бяроза, 5,8—дуб і інш.; 5) у гаспадарках іншых лясных парод 23% запасу складае бяроза, 21,5—асіна, 15,2—вольха, 15,9—елка і інш.

§ 3. Згодна даных камісіі Лаўрова па дасьледваньні беларускіх лясоў, запасы сьпелых насаджэньняў на 1/1-32 г. і памер штогоднай каштарыснай лесасекі характарызуецца наступнымі лічбамі:

| Віды лясных гаспадарак | Запасы ў 1000 куб. м. | Высечкі да 1932 г. | Запасы сьпелых насаджэньняў на 1/1-32 г. | У % | Каштарысная гадавая лесасека: Плошча ў га | Каштарысная гадавая лесасека: Запас на 1 га ў кбм | Запас на лесасек у 1000 куб. м. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Хваёвыя па сухадолу | 84448 | 30046 | 54.402 | 63,9 | 17206 | 162 | 8287 | 54,3% |
| Хваёвыя па балоту | 3600 | 1164 | 2.436 | 2,8 | 18247 | 141 | 257 | 5,0 |
| Дубовыя гаспадаркі | 6402 | 4379 | 2.023 | 2,5 | 11817 | 196 | 232 | 4,5 |
| Альховыя | 14042 | 4996 | 9.045 | 10,6 | 25063 | 234 | 586 | 11,4 |
| Іншыя гаспадаркі | 26024 | 8879 | 17.150 | 20,2 | 7982 | 160 | 1277 | 24,8 |
| Разам | 134521 | 49464 | 85.057 | 100% | 30704 | 167 | 5139 | 100% |

З прычыны адсутнасьці даных за больш позьнія гады, для ўстанаўленьня агульнага запасу драўніны ў лясох БССР, а таксама для ўстанаўленьня штогодняй колькасьці драўніны, якая можа адпускацца, можна скарыстаць даныя гадавой лесасекі 1929-30 г.

Запас драўніны па сьпелых насаджэньнях у лясных гаспадарках БССР.

| Віды гаспадарак | Запас сьпелых насаджэньняў на 1/1-32 г. у куб. м. | Коэфіцыент выхаду дроў па даных лесасек 1929-30 гг. | Агульны запас дроў у 1000 кб. м. | Гадавая лесасека 1932 г. | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Запас драўніны ў 1.000 кб. м. | Запас дроў |
| Хваёвыя па сухадолу . | 540402 | 47% | 25568 | 2787 | 1310 |
| Хваёвыя па балотах . | 2436 | 54,86% | 1336 | 257 | 141 |
| Дубова-ясеневыя . . | 2023 | 78,87% | 1595 | 232 | 183 |
| Альховыя . . . . | 9045 | 67,91% | 6142 | 586 | 398 |
| Іншыя лісьцевыя . . | 17150 | 75% | 12862 | 1277 | 958 |
| Разам . . . | 85057 | 55,8% | 47503 | 5139 | 2990 |

Для ўстанаўленьня колькасьці адпускаемай штогодна драўніны, неабходна яшчэ да паказанага ў паданай табліцы запасу гадавога дрэўнага фонду дадаць масу, якая атрымліваецца пры прамежным карыстаньні лесам (уборка мертвага лесу, прасечка сьцежак і г. д.); гэтае гадавое дадатковае скарыстаньне па даных лесасек 1932 г. складае 3.177.000 куб. м. драўніны; выходзячы з коэфіцыенту выхаду драўніны—55% ад агульнае колькасьці драўніны, атрымаем дадатковы запас дроў у колькасьці 1.747.000 куб. м. Гэтую штогоднюю дадатковую колькасьць мы прымаем таксама на наступныя гады; такім чынам штогодна атрымліваецца драўніны (пры нормальнай лесасецы) 2.990.000 плюс 1.747.000 раўняецца 4.637.000 куб. м. максымальна, ці ў пераводзе на ўмоўны (7.000 калёрый) апалу,—871 тыс. тон.

## Апады хваёвых насаджэньняў

Адным з новых відаў апалу, які павінен быць усвоены ў наступным пяцігодзьдзі, зьяўляюцца апады хваёвых лясоў. Для таго, каб гэтыя апады скарыстоўваць для апалу, неабходна іх брэкетыраваць. Сыравінаю для брэкетаў служыць верхні пласт хваёвага ападу, які яшчэ не расклаўся і які зьмяшчае ў сабе апаўшую хвою і дамешанае да яе лісьце, шышкі, сярэдні і буйны хворост і інш. Збор ападаў павінен рабіцца ў мэтах больш эфэктыўнага іх скарыстаньня на плошчы сьпелых насаджэньняў і на незабалочаных вучастках. У мэтах забясьпечаньня найбольшай продукцыйнасьці працы па збору ападаў, апошні зьбіраецца на даным вучастку адзін раз на працягу трох год.

У БССР хваёвыя насаджэньні займаюць 68,3% ад агульнай лясной плошчы, што складае 1.587.000 га. З іх 1.494.000 га займаюць хваёвыя гаспадаркі па сухадолу і 93.000 га заняты хваёвымі гаспадаркамі на балотах; разьмеркаваньне насаджэньняў ва ўзросных суадносінах па хваёвай гаспадарцы ў лясох БССР наступнае.

| | |
|---|---|
| ад 1—40 год . . . | 41% |
| „ 41—60 „ . . . | 20 „ |
| „ 60—80 „ . . . | 17 „ |
| „ 81 і вышэй . . . | 22 „ |

Плошча, прыгодная для зьбіраньня ападаў сьпелых насаджэньняў, лічачы насаджэньне з 30-гадовага ўзросту, складзе 65% агульнай плошчы насаджэньняў або 971.000 га.

Улічваючы, што з плошчы 1 га сьпелых насаджэньняў хваёвых гаспадарак можа быць сабрана на працягу аднаго сэзону 8 тон ападаў і выходзячы з таго, што на працягу другога пяцігодзьдзя будзе праведзены збор ападаў на тэрыторыі хваёвых гаспадарак толькі адзін раз, дык выходзіць, што можа быць сабрана ападаў 971.000×8=7.768.000 тон, ці прымаючы коэфіцыент пераводу ападаў ва ўмоўны апал роўным 0,125,—971.000 тон ўмоўнага апалу (у сярэднім штогодна 194.000 тон умоўнага апалу).

## Сапропэлі

Сапропэлі становяць сабою рэшткі жывёльных організмаў (рыб, ракападобных); гэтыя органічныя матэрыі сустракаюцца на дне азёр і ў балотах пад пластамі торфу. У балотах яны маюць студзяністы выгляд і завуцца сапроколямі.

Раёны распаўсюджваньня сапропэляў — пераважна поўнач БССР. Яны выяўлены ў наступных раёнах: Асьвейскім, Дрысенскім, Лепельскім, Чашніцкім, Сіроцінскім, Гарадоцкім і інш. На базе гэтых сапропэляў у сучасны момант намячаецца пабудова заводу ў Віцебску, разьлічанага на пераапрацоўку 200.000 тон сыравіны ў год.

З прычыны таго, што па сваіх фізыка-хімічных уласьцівасьцям кожны від сапропэляў мае спэцыфічныя асаблівасьці, таму вельмі цяжка ўстанавіць агульныя нарматывы выхаду вадкіх продуктаў і паўкоксу, якія атрымліваюцца пры іх пераапрацоўцы. Таксама не дасьледавана да сучаснага моманту пытаньне аб цеплатворнай здольнасьці атрымліваемых з гэтых сапропэляў продуктаў. Вось чаму ўлічваць іх у сучасны момант у якасьці апалавых рэсурсаў ня прыходзіцца, але ў бліжэйшы час інтэнсыўнае вывучэньне іх, якое праводзіцца ў БССР, дазволіць уключыць і іх у апалавы фонд БССР. .

## Прамысловыя адыходы і адкіды

Усе ніжэй паказаныя адыходы можна разглядаць як апалавыя рэсурсы толькі ў бліжэйшыя гады, бо тэндэнцыя ў кірунку іх скарыстаньня зводзіцца да таго, што паступова гэтыя адходы

будуць укараняцца ў якасьці сыравіны для перапрацоўкі ў розных галінах прамысловасьці—папяровай, будаўнічай, хімічнай і інш.

а) Адыходы скураных заводаў (аддубіна).

Пераход скуранай прамысловасьці СССР на сокавае дубленьне мясцовымі дубіцелямі выклікаў шпаркі рост экстрактавае вытворчасьці, на якой перапрацоўваецца вялізарная колькасьць драўніны. Толькі 10% гэтай драўніны скарыстоўваецца для дубіцеляў, астатняя-ж частка (у выглядзе аддубіны) выкідаецца на звалку і зьяўляецца ня толькі стратай для вытворчасьці, але і балястам, які запруджвае тэрыторыю заводу. У БССР аддубіна атрымліваецца на чатырох заводах: Магілеўскім, Віцебскім, Гомельскім і Рэчыцкім. Па орыентыровачных намётках на другую пяцігодку гэтыя 4 заводы дадуць штогодна каля 87 тыс. тон аддубіны, бяручы пераводны коэфіцыент яе ва ўмоўны апал—раўняецца 0,12—атрымаем каля 10.000 тон умоўнага апалу.

Маючы вялікую ўдзельную вагу ў агульнай суме апалавых рэсурсаў БССР, тым ня менш аддубіна мае вялікае значэньне як апал для скураных прадпрыемстваў БССР, якія шляхам яе скарыстаньня створаць уласную апалавую базу.

### Адыходы лесапільных, дрэваапрацоўчых і запалкавых прадпрыемстваў

Дрэваапрацоўчая прамысловасьць атрымлівае адыходы ў выглядзе апілак, стружак, абрэзкаў, качалак, шпонаў, гарбылёў, рэек; гэтыя адыходы складаюць каля 30% перапрацоўваемай сыравіны. Усяго адыходаў пры дрэваапрацоўцы атрымліваецца штогодна каля 86.000 тон ва ўмоўным апале. Гэтыя адыходы зьяўляюцца базай, якая забясьпечвае апалам лесаапрацоўчыя прадпрыемствы ў БССР.

На другое пяцігодзьдзе ў сувязі з стабільнасьцю програмы расьпілоўкі лесу, рост гэтых адыходаў пойдзе за кошт павялічэньня паглыбленай перапрацоўкі драўніны, а таксама за кошт росту запалкавай і фанернай вытворчасьці.

### Кастрыца

Адным з відаў прамысловых адыходаў зьяўляецца ў БССР кастрыца лёну, рэсурсы якой згрупаваны пераважна на поўначы—у лёнаводчых раёнах.

Улічваючы, што на другую пяцігодку на лёназаводах БССР будзе перапрацоўвацца каля 400.000 тон лёнасаломы штогодна, прымаючы выхад кастрыцы ў 50% ад вагі лёнасаломы і бяручы коэфіцыент пераходу кастрыцы ва ўмоўны апал раўным 0,1, атрымаем штогодна колькасьць кастрыцы ў выглядзе ўмоўнага апалу каля 20.000 тон; гэтая колькасьць кастрыцы можа забясьпечыць апалам прамысловасьць па першапачатковай апрацоўцы лёну.

### Салома

Што тычыцца саломы збожжавых расьлін, дык яна не займала месца ў апалавым фондзе БССР, бо яна ўжывалася ў сельскай

гаспадарцы ў якасьці харчу і апрача таго ў якасьці падсьцілу для жывёлы.

У бліжэйшыя гады салома будзе ўжывацца ў папяровай і іншых галінах прамысловасьці.

## Вывады

1. Аналізуючы апалавыя рэсурсы БССР, прыходзім да вываду, што асноўным апалам па ўсёй БССР зьяўляецца торф, што дрэўныя рэсурсы з прычыны сваёй невялікай удзельнай вагі ў апалавым фондзе могуць зьяўляцца толькі другарадным відам апалу; пры гэтым тэндэнцыя разьвіцьця лясное гаспадаркі будзе накіравана ў бок павялічэньня выхаду высокаякаснай драўніны за кошт дрэўнай. Гэта аднак-жа не выключае таго, што ў некаторых раёнах Мазыршчыны дровы застаюцца асноўным відам апалу па тэй прычыне, што балоты гэтых раёнаў у моц нязначнай глыбіні пакладаў торфу ня будуць эксплёатавацца для здабываньня апалавага торфу.

2. Разьмеркаваньне тарфяных рэсурсаў Беларусі па асобных тарфяніках такое, што забясьпечвае магчымасьць арганізацыі торфаздабываньня ў буйным маштабе. Разам з гэтым дробнае торфаздабываньне (колгаснымі арцелямі) таксама можа быць амаль паўсюдна разьвіта, чаму спрыяе наяўнасьць дробных тарфянікаў.

3. На поўдні БССР пераважаюць нізінныя балоты, на поўначы верхавыя і пераходныя; у сувязі з гэтым на поўдні БССР будзе пераважаць фрэзэрны спосаб здабываньня торфу, а таксама багарны, а на поўначы—пераважна больш дарагі машынна-элеватарны спосаб.

У моц таго, што пры эксплёатацыі балот на поўначы неабходна ствараць комбінаваныя тарфяныя гаспадаркі, якія скарыстоўвалі-б верхні пласт торфу, які яшчэ мала расклаўся, што ў сваю чаргу зробіць уплыў на патаненьне кошту тарфянога апалу.

4. Спэцыяльным прыгодным відам апалу для гарадзкога насельніцтва могуць зьяўляцца дрэўныя брэкеты з хваёвых ападаў, з прычыны лёгкасьці іх перавозкі і хаваньня. Ня выключана таксама магчымасьць скарыстаньня іх узамен данецкага вугалю для паравозаў.

5. Усе астатнія віды мясцовага апалу (адыходы прамысловасьці маюць апалавае значэньне для адпаведнай галіны прамысловасьці) у далейшым будуць аднак-жа выціснуты як апал і скарыстаны як сыравіна для прамысловасьці.

6. Неабходна форсаваць вывучэньне сапропэляў у БССР і мэтодаў іх скарыстаньня ў моц таго, што гэтыя рэсурсы могуць зьяўляцца ў БССР відам вадкага апалу.

П. Чайкоўскі

# Карысныя выкапні ў Шарсьцінскім і Прысьцянскім сельсаветах Веткаўскага раёну

Паклады чырвонай цагельнай гліны знаходзяцца ва ўрочышчы „Пятроўня“ (у 1 кілёмэтры ад в. Прысно). Гадоў 10 назад там аснаваны цагельны завод, які ў сучасны момант належыць Прысьнянскаму колгасу і вырабляе ў год звыш 800.000 добраякаснай чырвонай цэглы.

Гліна розных колераў (чорнага, чырвонага, сіняга, блакітнага і белага) сустракаецца ў пластох нагорнага правага берагу р. Сожа, дзе ляжыць в. Шарсьцін. На ўзгорках, насыпах паміж равамі пабудаваны хаты, гумны, раскінуты сады, значную плошчу займаюць могілкі; падглебавыя пласты гэтых узгоркаў большай часткай—гліністыя; праўда, гэтая гліна ня добрай якасьці—пескаватая (у ёй вялікі процант пяску). Для паляпшэньня яе якасьці да гэтай гліны дамешваюць глею, паклады якога знаходзяцца ніжэй паказаных узгоркаў,—бліжэй да берагу р. Сожа, на нізіне. У нядаўныя часы ў Шарсьціне нядрэнна працаваў цагельны завод, які належаў раней ўласьніку маёнтку Шарсьцін, а потым арцелі рабочых-спэцыялістаў па гэтай справе; гэтая цагельня існавала на тым месцы, дзе ў сучасны момант гарод гр. Траякова, гародніка-садоўніка Шарсьцінскага савгасу-конзаводу. У сучасны момант цагельні ў Шарсьціне няма, хаця ў ёй адчуваецца тут вялікая патрэба. Гады тры таму назад працаваў цагельны завод сялян в. Юркавічы (2 клм ад Шарсьціна). Завод гэты быў пабудаваны на палёх паказаных сялян, побач з Шарсьціным (каля капліцы, што на крыніцы, за мастом). Паводле слоў тых грамадзян, якія формавалі цэглу, гліна на гэтым месцы была блакітная і вельмі добрай якасьці; яе там яшчэ багата (цяпер там рад глыбокіх ям, якія пазарасталі пустазельлем).

Паклады белай гліны і крэйды знаходзяцца ў 2-х мясцох на тэрыторыі Шарсьцінскага сельсавету: 1. паміж в. Шарсьцін і вёскай Юркавічы, на самым беразе (правым) р. Сожа, бліжэй да Юркавіч; 2. на правым беразе рову „Праскурын“ („Праскурнік“) у 1 клм ад в. Шарсьцін, супраць Старажытнага паселішча „Гарадок“. Сяляне бяруць белую гліну для патрэб сваіх гаспадарак, а сялянкі на пабелку комінаў; вучні школ носяць у свае школы крэйду і ад Юркавіч і з Праскурына. Бываюць выпадкі, што за

Юркавіцкай крэйдай прыязджаюць здалёк, напрыклад—з Лоева, і Шарсьцінскі с/савет прадае за грошы і гліну і крэйду.

Паклады жалезнай руды знаходзяцца ў значнай колькасьці на правым беразе р. Сожа супроць с. Прысна ва ўрочышчы „Кашалапы“ („Дубіна“), тут руда ляжыць—„скалой“, суцэльным пластом і вялікімі плітамі. Сяляне с. Прысна бяруць руду кавалкамі на падмуркі для хат і на паграбы. Крушні руды сустракаюцца на тым-жа правым беразе р. Сожа і супроць в. Шарсьцін ва урочышчы „Забоч“; жыхары в. Шарсьцін карыстаюцца гэтай рудой замест каменю.

Вапнякі сустракаюцца на палёх паміж в. Шарсьцін і в. Юркавічы, прыблізна там, дзе знаходзяцца і паклады белай гліны і крэйды, на правым беразе Сожа. Былы зямляўласьнік маёнтку Шарсьцін меў сваю вапнярню, дзе апрацоўвалася вапна ў малой колькасьці амаль што выключна для патрэб уласнай яго (Пенкіна) гаспадаркі.

Тарфяных балот, дзе ў сучасны момант распрацоўваецца торф, у раёне Данілавіцкага сельсавету багата (15). Торф добрай якасьці і распрацоўваецца на апал; мясцовасьць тут стэпавая, лесу мала, дравянога апалу няма; торф зьяўляецца адзіным апалам.

Каля с. Радугі тарфяное балота займае плошчу каля 8 кв. га; торф у якасьці апалу распрацоўваецца з даўных часоў (да імпэрыялістычнай вайны) і распрацоўка торфу каля Радугі дае багаты апал, за летні час здабываецца ручным спосабам каля 50 стажкоў тарфянае цэглы. Распрацоўка торфу тут залежыць ад заводакіраўніцтва савгасу с. Навасёлкі, у якім знаходзіцца і працуе бровар; апалам для бровару служыць торф. Апрача таго, торф, прыгатаваны і высушаны арцелямі рабочых Навасёлкаўскага бровару, прадаецца жыхаром навакольных вёсак—Радугі, Лядаў, Навасёлак і інш. па 30—35 руб. за воз.

П. Кузьмянкоў

# Вадзяны арэх (Trapa natans)

*(Паведамленьне краязнаўчай ячэйкі пры Рэчыцкім пэдтэхнікуме)*

Адной з цікавых расьлін нашага раёну зьяўляецца вадзяны арэх, аднак краязнаўчая ячэйка зацікавілася ім толькі з жніўня 1932 г., калі ў г. Рэчыцы можна было назіраць продаж вадзяных арэхаў на рынку. Да гэтага-ж часу вадзяны арэх нам быў невядомы. Вывучэньне вадзянога арэха распачалося з запаўненьня адпаведных анкет членамі ячэйкі. Пры дапамозе анкет мы меркавалі высьветліць распаўсюджанасьць гэтай расьліны і спосабы яе скарыстаньня. К 1-му студзеня атрымалі 15 запоўненых анкет. Паводле анкетных вестак, вадзяны арэх сустракаецца па рэках Дняпру, Сожу, Бярэзіне. Расьце ён па затоках гэтых рэк з стаячай або амаль стаячай вадой і мунаватым дном, у мясцох глыбінёй ад 3/4 да 2 мэтраў. Часьцей за ўсё вадзяны арэх займае старыя рэчышчы, чаму ўрочышчы, дзе ён распаўсюджаны, часта і носяць назву „старык". Зарасьлі вадзянога арэха ў розных мясцох неаднолькава густыя, аднак расьліна гэта адзінкамі сустракаецца рэдка. Звычайна яна ўтварае густыя зарасьлі, „такія густыя зарасьлі, што па лісьцях гэтай расьліны могуць бегаць птушкі" і „праехаць праз такія зарасьлі ў лодцы ці чаўне немагчыма". Звычайнымі спадарожнікамі гэтай расьліны зьяўляюцца белыя і жоўтыя вадзяніцы (кувшинки), што сьведчыць аб магчымасьці вырастаньня вадзянога арэха там, дзе растуць вадзяніцы, а такіх месц як па нашаму раёну, так і наогул па БССР даволі многа. Увосень арэхі дасьпяваюць і ападаюць на мулаватае дно. Дасьпяваньне і ападаньне адбываецца не адначасна, што значна ўскладняе збор арэхаў. Сьпелыя арэхі маюць у сабе багата крухмалу, ужываюцца насельніцтвам як у сырым відзе, так і параныя. Параныя значна смачнейшыя за сырыя. Паказаны ў анкетах выпадкі, калі параныя і лупленыя арэхі, патоўчаныя ў ступе, даюцца ў хлебнае цеста (Чачэрскі раён). Некаторыя вёскі, якія знаходзяцца блізка ад месца распаўсюджаньня вадзянога арэха, скарыстоўваюць яго ў вельмі вялікай колькасьці. У аднэй з анкет гаворыцца: у часе дасьпяваньня вадзянога арэха па вуліцы нашай вёскі нельга прайсьці босаму з-за калючага яго шалупіньня.

Такім чынам вадзяны арэх ня толькі цікавая (з батанічнага боку) расьліна, але адна з карысьнейшых для чалавека. Асабліва гэта робіцца відавочным, калі прыняць пад увагу яго ўраджай-

Выяўленыя месцы пашырэньня вадзянога арэху і яго запасы паводле анкетных даных

| №№ анкет | Раён | С/савет | Вёска | Назва мясцовасьці (урочышча) | Плошча ў га | Зарослаьсць мясцовасьці вадзянага арэха | кг. на 1 м² | Кілёграмаў з усяе плошчы | Як і для чаго скарыстоўваецца вадзяны арэх | Прозьвішча падаўшага весткі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Рэчыцкі | Засьпенскі | Granaўка | „Старык" (старое рэчышча Дняпра). | 30 | Вельмі густа. | 3 | 900000 | Ужываюць вараныя і сушаныя. | |
| 2. | | | Заспа | Былое рэчышча Дняпра. | 10 | Вельмі густа. | 3 | 300000 | | т. Пырх В. А. |
| 3. | | | Горашкова | „Бараўское" возера. | 3 | Суцэльная. | 5 | 150000 | Ужываюць вараныя | т. Грыцок. |
| 4. | | Сьвецкі | Чарнейкі | „Равека" 3 клм. ад в. Чарнейка ў затоках р. Бярэзіны. | 2 | Рэдка. | 0,0 | 1200 | | т. Ліцьвіненка. |
| 5. | | | | „Цыбулька" каля прыстані Гагалі па р. Бярэзіне. | 2 | Круглавінамі. | 0,5 | 10000 | | „ |

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6. | Лоеўскі | Лоеўскі | | „Затока“ стар. рэчышча Дняпра. | 2,5 | „ | 1 | 25000 | Скарыстоўваецца мала. | т. Логаш. |
| 7. | | | Лоеў | „Вітацкае возера“. | 0,5 | Паласой паўз берагоў да глыбіні 1,5 мэт. | 1 | 5000 | Вараныя ўжываюцца, але мала. | т. Казека. |
| 8. | | Шарпілаўскі | Шарпілаўка | „Старык“ каля Гурнецкай прыстані на р. Сож. | 3 | Суцэльная | 2 | 60000 | Ужываюць вараныя, рэдка сушаныя. | т. Мядзьведзевы. |
| 9. | Жлобінскі | Кабанаўскі | Паўсткі | „Данілаў старык“ затока р. Бярэзіны. | 10 | Вельмі густая, суцэльная. | 2 | 200000 | Ужываюць вараныя ў вялікай колькасьці (у верасьні). | т. Данільчыка. |
| 10. | | | | „Глушэц“. | 2 | Суцэльная. | 2 | 40000 | | |
| 11. | | | | „Прыхоб‘е“. | 4 | „ | 2 | 30000 | | |
| 12. | | Нова-Маркаўскі | Прыбудак | „Галоўка“ возера на колгасным лугу. | 0,5 | „ | 1 | 5000 | Ужываюць параныя і сырыя. | т. Навуменка. |
| 13. | Гомельскі | Белы-бераг | | Возера „Сьвятое“. | 150 | Круглавінамі. | 4 | 6000000 | Вараныя ўжываюць у вялікай колькасьці. | т. Душкевіч. |
| 14. | | | | Возера побач з „Сьвятым“. | 150 | „ | 3 | 4500000 | | |
| 15. | Чачэрскі | Навілаўскі | Петраполье | Возера „Крысы“. | 16 | Месцамі вельмі густа. | 0,5 | | Кормяць сьвіней. | т. Караваеў. |
| | | | | | 385,5 | | | 12355200 | | |

насьць. У сярэднім, паводле анкетных вестак, яна раўняецца прыблізна 2 кг на 1 кв м. Запаўняўшыя анкеты на пытаньне аб ураджайнасьці вадзянога арэха гавораць:—„Я сам зьбіраў вядро вадзянога арэха на 1 кв. мэтры“.—„Мне прыходзілася езьдзіць за вадзяным арэхам у чаўне. Калі трапіш у неабабранае яшчэ месца, дык поўны човен набярэш, абабраўшы арэхі вакол чаўна, дакуль дастае рука“. Гэтыя ўласьцівасьці расьліны гавораць аб патрэбе яе вывучэньня з мэтай распаўсюджаньня ў іншыя вадазборы, дзе яё няма.

З мэтай больш дэталёвага азнаямленьня з вадзяным арэхам, ячэйка накіравала аднаго з сваіх членаў на месца распаўсюджаньня гэтай расьліны, з заданьнем прывезьці вадзяныя арэхі. На жаль арэхі к таму моманту ўжо асыпаліся і нам прышлося абмежавацца той іх колькасьцю, якую выцягнуў невад у часе лоўлі рыбы. Больш паловы арэхаў былі пустымі (арэхі мінулых гадоў). Над поўнымі-ж арэхамі гэтага году былі зроблены наступныя досьледы. Мы адзначылі сярэднюю вагу паветрана сухога арэха, якая аказалася роўнай 2,14 гр пры аналізе першай пробы і 1,95 гр пры аналізе другой пробы. Найбуйнейшы арэх важыў 3 гр, а найдрабнейшы—0,7 гр. Велічыню арэха вызначалі шляхам вымярэньня адлегласьці паміж: 1) канцамі верхняй пары калючак, 2) канцамі ніжняй пары калючак і 3) ад вяршыні арэха да яго аснаваньня. Сярэднія лічбы аказаліся наступнымі: 3 см, 2,8 см, 2,25 см. Найбуйнейшы арэх меў—3,7 см і 3 см, найдрабнейшы—2,5 см, 2,3 см, і 1,6 см. На шалупіньне па першаму аналізу прыпадае—25% і на ядро 75%, а па другому аналізу—50% прыпадае на шалупіньне і 50% на ядро.

Для назіраньня за прарастаньнем некалькі арэхаў зьмешчана ў акварыуме. Такім чынам, у справе дасьледваньня вадзянога арэха намі зроблена яшчэ вельмі мала. К гэтаму часу мы высьветлілі толькі, як гэта відаць са зводкі анкет—некаторыя месцазнаходжаньні вадзянога арэха, 385,5 гэктараў плошчы пад ім, сярэднюю ўраджайнасьць вадзянога арэха, роўную 32 тонам з гэктара і агульны штогодны ўраджай з паказанае плошчы—12355 тон. Лічбы вельмі буйныя. Каб гарантаваць сябе ад памылак, мы зьменшымі ўраджайнасьць, паказаную ў анкетах, у дзесяць раз, але і ў гэтым выпадку гэктар зарасьляў вадзянога арэха можа даць ураджай каля 3 тон.

# ОФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Дагавор ЦБК з Белгеоразьведкай.

Белгеоразьведка ў асобе начальніка А. Ф. Лучышына з аднаго боку і Цэнтральнае бюро краязнаўства пры Акадэміі Навук БССР, якое ў далейшым называецца ЦБК, у асобе В. А. Самцэвіча заключылі гэты дагавор, у мэтах уцягненьня шырокіх працоўных мас і мясцовых навуковых сіл краяведаў у правядзеньне пропаганды і вытворчай геолёга-разьведчай работы. Абязацельствы па дагавору ажыцьцяўляюцца праз раённыя краязнаўчыя бюро, ячэйкі і краязнаўчыя музэі.

1. Па заданьню Белгеоразьведкі ЦБК уключае ў плян сваіх работ наступныя мерапрыемствы:

1) Організацыю краязнаўчых дасьледчых груп для адшуканьня і разьведак карысных выкапняў у раёнах БССР, якія маюць значэньне для выкананьня прамфінпляну Белгеоразьведкі.

2) У двух раёнах, Асіпавіцкім і Магілёўскім, праводзіцца ўзорная масавая геолёга-разьведачная работа пад сыстэматычным наглядам і кіраўніцтвам ЦБК, прычым Белгеоразьведка пры выкананьні вытворчых заданьняў мае права ўносіць зьмены ў сьпіс паддосьледных раёнаў, не перавышаючы агульнай колькасьці вызначаных гэтым пунктам раёнаў.

3). У паддосьледных раёнах на працягу студзеня—красавіка і не пазьней чым перад пачаткам работ павінны быць праведзены кароткатэрміновыя краязнаўчыя курсы-сэмінары па геолёга-разьведкам; слухачы курсаў павінны быць выкарыстаны як організатары масавага-дасьледчага паходу ў 1933 г. Курсы абслугоўваюць таксама і ўдзельнікаў дасьледчага геопаходу па лініі ТПТЭ і комсамолу.

4) У паддосьледных раёнах і па ўсёй тэрыторыі БССР мясцовыя краязнаўчыя організацыі прымаюць актыўны ўдзел у сыстэматычным зьбіраньні ўсіх вестак аб карысных выкапнях сваіх раёнаў, перадаюэы гэтыя весткі і саб раныя ўзоры ў ЦБК для Белгеоразьведкі.

5) Згодна ўказаньням ЦБК усе раённыя бюро краязнаўства ўвязваюць усю сваю работу па вывучэньню карысных выкапняў з работай мясцовых геолёгічных баз і партый, разгортваючы пропаганду навакол прамфінпляну Белгеоразьведкі і вытворчых заданьняў для данага раёну (базы партыі), а таксама вядучы пропаганду значэньня геолёга-разьведачных работ сярод насельніцтва раёну, мобілізуючы яго ўвагу і садзейнічаючы работам геолёгічных організацый. Па дагаворанасьці з мясцовымі геолёгічнымі базамі і партыямі групы краяведаў і асобныя краяведы ўдзельнічаюць у геолёгічных работах, займаючы адпаведныя рабочыя месцы па дагаворных умовах.

6) Організацыя консультацыі краязнаўчых бюро і ячэек, асобных удзельнікаў масавага паходу і шырокіх працоўных мас па пытаньнях вывучэньня карысных выкапняў.

7) Навуковая распрацоўка пытаньняў, зьвязаных з мэтодыкай масавай краязнаўчай геолёга-разьведачнай работы.

8) Пры ўдзеле Белгеоразьведкі ў 4-х краязнаўчых музэях организуецца досьледна-паказальная масавая работа, геолёгічныя аддзелы і перасовачныя выстаўкі ў раёне (на прадпрыемствах, у савгасах, колгасах і інш.).

9) У мэтах мэтодычнага кіраўніцтва работамі па масавай пропагандзе геолёгічных росшукаў ЦБК і Белгеоразьведка выпускаюць адпаведныя програмы, інструкцыі, лістоўкі, лёзунгі і інш., а таксама шырака ставяць асьвятленьне пытаньняў тэорыі і практыкі пошукаў карысных выкапняў у часопісу „Савецкая Краіна", цэнтральных і раённых газэтах.

II

З свайго боку Белгеоразьведка абавязуецца:

1) Усімі сродкамі заахвочваць праз геолёгічныя базы і разьведачныя партыі ініцыятыву мясцовых краязнаўчых ячэек

садзейнічаць паасобным краяведам у трыманьні работы ў партыях.

2) Заахвочваць ударнікаў, праявіўшых ініцыятыву ў геолёгічнай рабоце, шляхам высоўваньня іх на вучобу ў геолёгічныя ВНУ і прэм'яваньнем.

3) Белгеаразьведка сумесна з ЦБК робіць прэм'яваньне асобных краяведаў і краязнаўчых організацый як за добрую організацыю і правядзеньне пропаганды, так і за непасрэдную вытворчую работу, асабліва за выяўленьне новых месц і новых відаў карысных выкапняў. Для чаго Белгеаразьведка абязуецца ўтварыць па ўзгадненьню з ЦБК спэцыяльны фонд прэм'яваньня.

4) Белгеаразьведка прымае актыўны ўдзел у правядзеньні курсаў-сэмінараў, вызначаных у першым разьдзеле п. 3 па распрацоўцы спэцыяльных пытаньняў тэорыі і практыкі разьведачнай работы.

5) Белгеаразьведка для правядзеньня работ, вызначаных гэтым дагаворам адпускае ЦБК 2.500 р. З гэтай сумы асыгнуецца:

а) На організацыю досьледна-паказальнай работы раёнаў (разьдз. 1 п. 2) 1.200 руб

б) На організацыю сыстэматычнага збору вестак аб карысных выкапнях (разьдз. 1 п. 4) 500 руб.

в) На консультацыйную работу (I разьдзел п. 6) 200 руб.

г) На навуковую прапрацоўку мэтодыкі масавай краязнаўчай геолёгічнай работы (I разьдз. п. 7) 100 руб.

д) На організацыю геолёгічных аддзелаў у краязнаўчых музэях і геолёгічных выставак (разьдз. I. п. 8) 500 руб.

Вызначаная сума выплачваецца пры падпісаньні дагавору і не пазьней 1-га сакавіка 1933 г.—1200 р. і рэшта сумы выплачваецца к 1-му сьнежня 1933 г.

6) Выдаткі па выданьню інструкцый, програмах, лістовак і інш. аплачваецца Белгеаразьведкай і ЦБК пароўну ў разьмеры 50% кожным з бакоў.

7) Белгеаразьведка адпускае для краязнаўчых ячэек 20 комплектаў геолёгічнага інструмэнтарыю, для чаго організуецца спэцыяльны пракатны бясплатны фонд.

Гэты дагавор заключаецца тэрмінам з 1-га студзеня 1933 г. да 1-га лютага 1934 г.

На аснове гэтага дагавору і ў яго разьвіцьці геолёгічным базам рэкомэндуецца заключыць дагавор з раённымі бюро краязнаўства па ўзгадненьню з Тэхпропам Белгеаразьведкі.

У выпадку недастаткова разгорнутай работы ЦБК на 1-е жніўня Белгеаразьведка пакідае за сабой права поўна або часткова закрыць асыгнаваньні і атрымаць ад ЦБК скарыстаныя не па простаму назначэньню (згодна гэтаму догавару) сродкі.

Гэты догавар заключаецца ў 3-х экзэмплярах, з якіх кожны з бакоў атрымлівае па аднаму экзэмпляру.

Начальнік Белгеаразьведкі
Лучышын

Прадстаўнік ЦБ Краязнаўства
Самцэвіч

## Маршруты для краязнаўчых організацый і партый ТПТЭ па выяўленьні карысных выкапняў БССР на 1933 г.

**1-ы маршрут.** Па Бярэзіне, ад Барысава ўверх да Бягомлю. Жалезная руда, розныя гліны, вапнякі.

**2-і маршрут** Па р. Сьвіслачы: Менск—ўніз па р. Сьвіслачы да м. Дукор. Адтуль адна група на Сьмілавічы—Чэрвень—Міжжарэчча, па дарозе дэталёва абсьледуе басэйн р. Волна, другая група накіроўваецца ўніз па р. Сьвіслачы і сустракаецца з першай групай у в. Міжжарэчча. Адтуль уся група накіроўваецца да ст. Талька. Ад ст. Талька партыя падзяляецца на 3 групы: адна група ад ст. Талька да м. Сьвіслач—уніз па р. Сьвіслачы, другая група праз м. Лапічы накіроўваецца да ст. Градзянка, 3-я група бярэ кірунак ад ст. Талька да ст. Ясень.

Жалезная руда, гліны, вапнякі, крэйда.

**3-і маршрут.** Адна група—Менск—Смалявічы—Барысаў; абсьледуе па дарозе р. Плісу, ад Барысава ўніз па Бярэзіне да м. Чарнаўка, адтуль адзін атрад накіроўваецца па басэйну р. Нача да м. Крупкі, другі атрад па р. Бабёр да м. Бабёр. 2-я група Менск—Астрашыцкі-Гарадок—в. Рудня—в. Косіна па р. Гайне і р. Цне (2 атрады) да м. Зэмбіна, адтуль 1-ы атрад да Барысава, 2-і атрад да ст. Жодзіна.

Жалезная руда, гліны.

**4-ы маршрут**—1-я група па р. Беседзь ад Гомеля—Хоцімск да в. Цірань—в. Кружылаўка. 2-я група—в. Покаць, праз в. Нісімкавічы—Болсунк (басэйн р. Покаць)—Відрынка—Міхінічы—Мамошына—Забычаньне—Красавічы — Высокае—Клімавічы.

Фосфарыты, трэпэлі, апокі, жалезная руда, гліны, пяскі.

**5-ы маршрут.**—Абсьледваньне басэйна р. Пціч. В. Стара-сяло (пад Менскам)—па р. Пціч да м. Дараганава. Адгуль праз вёску Падарэсьсе да м. Любань (па р. Арэсе)—саўгас „Х-годзьдзя Кастрычнікаўскай рэвалюцыі").

Жалезная руда, гліны, долёміты, пяскі.

**6-ы маршрут**—Абсьледваньне басэйна р. Пціч. Ст. Дараганава—ст. Пціч (Мазыршчына).

Жалезныя руды, долёміты, гл ны.

**7-ы маршрут.**—1-я група Полацак—м. Расоны—в. Дзявіцы. 2-я група—Полацак на р. Вула—м. Вула—в. Казанаўка (каля м. Чашнікі).

Жалезныя руды, гліны, вапняк і мінэральныя крыніцы.

**8-ы маршрут.**—Віцебск—м. Сураж—Вяліж.

Жалезная руда, вапнякі, гліны.

**9-ы маршрут**—Ворша—Сянно—Чашнікі—Лепель. Сапропэлі, вапнякі, лугавыя маргелі і крэйда, мінэральныя крыніцы, балотная жалезная руда, лентачныя плястычныя тлустыя гліны.

**10-ы маршрут**—Горкі—Дрыбін р. Проня—Прапойск і ўверх па р. Сож да в. Вехрь.

Высокаякасныя гліны, крэйда, маргелі, чыстыя кварц. пяскі, фосфарыты, каляровыя руды і землі жалезныя руды, марганцова-жалезістыя пяскі.

**11-ы маршрут**—Добруш па р. Іпуць в Дзем'янкі—Вышкаў—Перавоз.

**12-ы маршрут**—Раён воз. „Чырвонае Палесьсе" (б. Воз. Князь).

*Белгеоразьведка, ЦБК, ТПТ.*

## Да ўсіх краязнаўчых арганізацый, РАНА, працаўнікоў асьветы.

Пастановамі ЦК УсеКП(б) ад 25 жніўня 1932 г. і сьнежаньскага пленуму ЦК КП(б)Б перад усімі краязнаўчымі арганізацыямі пастаўлена пытаньне аб навукова-мэтодычнай дапамозе школе і настаўніку. Краязнаўства павінна стаць адным з важнейшых сродкаў політэхнізацыі школы. ЦБК прыступіла да распрацоўкі мэтодычных лістоў, інструкцый па выкарыстаньню краязнаўчага матар'ялу ў школе, распрацавала програму па выкладаньню краязнаўства ў пэдтэхнікумах і інш., адначасова даўшы ўказаньні ўсім РБК аб непасрэдным уключэньні іх у работу па рэалізацыі пастаноў ЦК УсеКП(б), ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб разгортваньні школьнай краязнаўчай работы.

На старонках часопісу „Савецкая Краіна" будуць сыстэматычна друкавацца артыкулы па пытаньнях мэтодыкі школьнага краязнаўства, артыкулы кіраўнічага характару, програмы і інструкцыі, будзе высьвятляцца практыка школ, зьмяшчацца інформацыя аб разгортваньні школьнай краязнаўчай работы; „Савецкая Краіна" будзе даваць консультацыі, адказы на запытаньні з месц. Настаўнікі павінны прыняць самы актыўны ўдзел у распрацоўцы пытаньняў школьнага краязнаўства шляхам дасылкі ў „Савецкую Краіну" артыкулаў, інформацый аб рэалізацыі ў раёне і паасобных школах пастаноў партыі і ўраду ў галіне школьнага краязнаўства, запытаньняў. Кожны настаўнік, кожны асьветнік павінен чытаць, выпісваць і пашыраць „Савецкую Краіну". Кожнай бібліотэкай пэдгабінэту і школы павінен быць выпісан наш часопіс.

**ЦБК**

# ХРОНІКА

## Работа ЦБК у 1932 годзе

У справаздачным годзе галоўнейшымі задачамі ў справе разгортваньня і пашырэньня краязнаўчага руху, а таксама ў справе падпарадкаваньня работы краязнаўчых організацый абслугоўваньню непасрэдных задач соцыялістычнага будаўніцтва зьяўлялася ўзмацненьне і пашырэньне краязнаўчай сеткі, а таксама мобілізацыя яе на выкананьне пастаноў XVII партконфэрэнцыі ЎсеКП(б), XIV зьезду КП(б)Б і непасрэдных дырэктыў партыі і ўраду па разгортваньню краязнаўчага руху. На выкананьне паказаных задач была зьвернута самая сур'ёзная ўвага з боку ЦБК на працягу ўсяго справаздачнага году. У адпаведнасьці з гэтым ЦБК распрацавала палажэньне аб раённым бюро краязнаўства і краязнаўчай ячэйцы, якія зацьверджаны Прэзыдыумам БАН, надрукаваны асобнай брошуркай, зьмешчаны ў „Зборніку програм і інструкцый па краязнаўству“ і дасланы на месцы.

Выданыя палажэньні ўнесьлі пэўную выразнасьць організацыйнага парадку ў работу краязнаўчых організацый.

У мэтах забесьпячэньня належнага кіраўніцтва і дапамогі ў разгортваньні краязнаўчага руху на мясцох з боку адпаведных раённых організацый і ўстаноў, а таксама ўвязкі краязнаўчай работы з плянамі соцыялістычнага будаўніцтва ў раёнах ЦБК дагаварылася з культпропам ЦК КП(б)Б, НКА БССР, культсэктарам ЦСПСБ і Сэктарам культуры і навукі Дзяржпляну БССР аб выданьні спэцыяльных распараджэньняў сваім ніжэйшым організацыям і ўстановам адносна іх удзелу ў краязнаўчай рабоце.

Надзвычайна вялікае значэньне мае ў справе узмацненьня і разгортваньня краязнаўчага руху спэцыяльная пастанова СНК БССР, выданая 1 чэрвеня 1932 г. „Пра мерапрыемствы па разгортваньню краязнаўчага руху“. У гэтай пастанове з усёй яскравасьцю вызначаны кірунак, задачы, структура і адказнасьць як цэнтральных, так і раённых устаноў і організацый за належнае разгортваньне краязнаўчага руху.

Конкрэтная работа ЦБК у галіне організацыйнай на працягу справаздачнага году была накіравана на ўзмацненьне жывой сувязі з раёнамі ў мэтах непасрэднай дапамогі існуючым мясцовым краязнаўчым організацыям у разгортваньні плянавай работы, а таксама на правядзеньне популярызацыі задач савецкага краязнаўства на мясцох і стварэньне новых краязнаўчых організацый там, дзе іх ня было. Работнікі ЦБК выяжджалі ў 27 раёнаў, дзе праводзілі спэцыяльныя нарады краязнаўчага актыву, дапамагалі складаць пляны работы, рабілі даклады на сходах актыву партыйных, савецкіх, комсамольскіх, профсаюзных, грамадзкіх організацый і на настаўніцкіх конфэрэнцыях. З боку ЦБК сваечасова даваліся належныя ўказаньні раённым бюро краязнаўства ў сэнсе дачы ім конкрэтных заданьняў па ўдзелу іх у палітычна-гаспадарчых кампаніях, якія праводзіліся на мясцох. Частка раённых краязнаўчых організацый прыцягвалася да ўдзелу ў работах ўсебеларускіх нарад і конфэрэнцый. Так, на музэйнай нарадзе пры НКА БССР ў лютым мінулага году прымалі ўдзел прадстаўнікі ад 5 раённых бюро краязнаўства, на ўсебеларускай конфэрэнцыі па навукова-дасьледчай рабоце ў БССР ў II пяцігодцы (май 1932 г.) прымала ўдзел 9 прадстаўнікоў ад раённых бюро краязнаўства, з якімі ў час конфэрэнцыі пры ЦБК была праведзена спэцыяльная нарада адносна ўзмацненьня краязнаўчай работы на мясцох.

Усе пералічаныя мерапрыемствы ў значнай меры садзейнічалі ўзмацненьню і пашырэньню краязнаўчага руху на мясцох. Так, калі да пачатку 1932 г. краязнаўчыя організацыі існавалі ў 25 раёнах БССР і складаліся пераважна з раённага краязнаўчага актыву, аб'яднанага ў раённым бюро краязнаўства, пры наяў-

насьці вельмі нязначнай колькасьці краязнаўчых ячэек у пераважнай большасьці раёнаў—дык к канцу справаздачнага году мы маем ужо краязнаўчыя організацыі ў 43 раёнах, дзе аформлены ня толькі раённыя бюро краязнаўства, але ў радзе раёнаў створаны краязнаўчыя ячэйкі. Па папярэдніх далёка ня поўных даных па БССР зараз мы маем, апрача 43 раённых бюро краязнаўства, 103 краязнаўчыя ячэйкі, з якіх на прадпрыемствах—15, у колгасах і савгасах—32, пры школах—46, у ВНУ і тэхнікумах—10. Усяго аб'яднана ў краязнаўчых організацыях 2.552 чал. (па матар'ялах 19 раёнаў).

Праўда, тут трэба агаварыцца, што поўнага падліку краязнаўчых організацый, ліку членаў ў іх як з боку колькаснага, так асабліва якаснага, ЦБК яшчэ ня мае, паколькі ня скончаны поўны падлік. Работа ў гэтым кірунку працягваецца.

Частка краязнаўчых організацый ужо ў справаздачным годзе ня толькі організацыйна аформілася, але і правяла некаторую дасьледчую работу. Так, краязнаўчая ячэйка пры Рэчыцкім Пэдтэхнікуме правяла досьледы па вырашчваньні соі, сарго, клешчавіцы і іншых новых сельска-гаспадарчых культур, прымала актыўны ўдзел ў веснавой пасеўнай кампаніі. Краязнаўчая ячэйка пры Асіпавіцкай ФЗС—I правяла досьледы мясцовых прыродных фарб, у Веткаўскіх раёне праведзена некаторая работа па вывучэньню карысных выкапняў, у Віцебскім раёне краязнаўчай організацыяй падрыхтаваны зборнік „Віцебшчына на соцыялістычнай будоўлі", у Магілеўскім раёне заканчваецца апісаньне шоўкавае фабрыкі. У радзе другіх раёнаў краязнаўчыя організацыі таксама разгортваюць навуковадасьледчую работу, увязваючы яе з непасрэднымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва, як, напрыклад, ў Рагачэве краявед-настаўнік т. Руткоўскі прарабіў надзвычайна вялікую работу па вырашчваньню вінаграду ў кліматычных умовах БССР і зараз краязнаўчай ячэйкай пры Рагачэўскім пэдтэхнікуме пад кіраўніцтвам тав. Руткоўскага праведзены падрыхтоўчыя работы да пасадкі вінаграднага саду ў колгасе „Зьвязда". Тураўскім раённым бюро краязнаўства складзена апісаньне раёну, праведзены досьледы культур цукровых буракоў, шаўкоўніцтва, заканчваецца вывучэньне саўгасу „Зорка Захаду", напісана ў часопіс „Савецкая Краіна" 4 артыкулы, краязнаўцы прымалі актыўны ўдзел у Палескай экспэдыцыі і пад канец году значна ажывілася работа па лініі разгортваньня краязнаўчай сеткі ў раёне і наладжваньня работы краязнаўчага музэю.

Аднак, трэба адзначыць на надзвычайна цяжкія ўмовы работы краязнаўчых організацый на мясцох. Перш за ўсе адсутнасьць сродкаў, належнай увагі да гэтай работы з боку раённых устаноў і організацый, якія, не зважаючы на катэгорычныя дырэктывы аб садзейнасьці краязнаўчаму руху, мала цікавяцца гэтай справай і не аказваюць конкрэтнай дапамогі краязнаўчаму актыву ў яго рабоце. Узяць к прыкладу адносіны да краязнаўчай справы у Уваравіцкім раёне, дзе прызыдыум РВК нават вынес спэцыяльную досыць конкрэтную пастанову ў адносінах разгортваньня краязнаўчага руху, вылучыў бюро і апошняе досыць энэргічна ўзялося за работу: організавала 13 ячэек, правяло популярызацыйную работу, організавала бібліотэку, але далей гэтага пайсьці ня здолела, бо пастанова прэзыдыуму РВК засталася на паперы ў адносінах дапамогі бюро ў яго рабоце.

Адказныя кіраўнікі краязнаўчага бюро загружаюцца іншымі грамадзкімі абавязкамі, і ніхто не клапоціцца аб іх разгрузцы для таго, каб яны маглі аддацца краязнаўчай справе. У г. Мозыры ёсьць досыць вялікі краязнаўчы музэй, але мозырскія ўстановы і організацыі ня хочуць ўзяцца за наладжваньне яго работы і экспонаты музэю перакідаюцца з аднаго памяшканьня ў другое, псуюцца, расьцягваюцца. ЦБК рабіла спробу зьвярнуць увагу Мозырскай РСІ, але і там дапамогі не знайшло. У Рэчыцкім раёне краязнаўчая ячэйка пры Пэдагогічным тэхнікуме зварачалася за дапамогаю ў рабоце да Рэчыцкага РВК—апошні адказаў маўчаньнем, і гэта ў той час, калі гэтая ячэйка прарабіла і робіць досыць каштоўную работу. Зразумела, што такія адносіны з боку раённых устаноў і організацый да краязнаўчае справы тармозяць яе разгортваньне і толькі там, дзе ўжо ёсьць сапраўдныя энтузіясты-краяведы, краязнаўчы рух, не зважаючы на усе няспрыяючыя ўмовы, пашыраецца.

Яшчэ ў пачатку 1932 г. Прэзыдыум АН, па лініі Масавага сэктару, зьвярнуўся да ўсіх райвыканкомаў БССР з спэцыяльнай адносінай па пытаньню дапамогі краязнаўчым організацыям у разгортваньні работы, і тады-ж усім раёнам па лініі ЦБК былі дасланы конкрэтныя тэмы па вывучэньню актуальных пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва, але амаль усе РВК адказалі на гэтае маўчаньнем. Прыведзенае з усёй відавочнасьцю сьведчыць аб недаацэнцы краязнаўства, як формы ўдзелу шырокіх працоўных мас ў навукова-дасьледчай рабоце, і ігнараваньні дырэктыў партыі і ўраду ў адносінах краязнаўчага руху

і разам з тым стварае досыць няспрыяючыя ўмовы для работы краязнаўчых арганізацый, затрымлівае пашырэньне масавага краязнаўчага руху.

Разам з гэтым трэба яшчэ адзначыць і тое, што з боку адказных кіраўнікоў раённых бюро краязнаўства, у пераважнай большасьці, наглядаецца адсутнасьць належнай ініцыятывы, адказнасьці і опэрацыйнасьці ў рабоце. Пляны работ, намячаемыя раённымі бюро краязнаўства, ня выконваюцца. Соцыялістычныя мэтоды работы—соцспаборніцтва і ўдарніцтва—яшчэ ня занялі належнага месца ў рабоце раённых бюро краязнаўства. Намячаемыя мерапрыемствы ў гэтых адносінах вельмі часта застаюцца нявыкананымі. Надзвычайна дрэнна абстаіць справа з наладжваньнем учоту работы і праверкай яе выкананьня. Рэвізыйныя камісіі на працягу году зусім не працавалі. З боку раённых бюро краязнаўства адсутнічае жывое кіраўніцтва і інструктаж краязнаўчых ячэек. Зусім не практыкуецца скліканьне нарад, конфэрэнцый для абмеркаваньня бягучых пытаньняў краязнаўчай работы, што, бязўмоўна, таксама затрымлівае пашырэньне масавага краязнаўчага руху і разгортваньне навукова-дасьледчай работы на мясцох.

Навукова-мэтодычная работа ЦБК заключалася ў распрацоўцы і складаньні програм і інструкцый па актуальных пытаньнях дасьледчай работы ў розных галінах соцыялістычнага будаўніцтва. На працягу году работнікамі ЦБК і іншых навукова-дасьледчых устаноў складзены 21 програма і інструкцыя, якія выданы двума пасобнымі зборнікамі і часткова надрукаваны ў часопісе „Савецкая Краіна“. Апрача таго, на старонках часопісу „Савецкая Краіна“ зьмешчаны рад артыкулаў програмна-мэтодычнага характару і нізавым краязнаўчым арганізацыям аказвалася консультацыйна-мэтодычная дапамога ў плянаваньні навукова-дасьледчай работы праз распрацоўку і дасылку адпаведных указаньняў і вуснага інструктажу ў часе выездаў работнікаў ЦБК на месцы.

Практыка работы мясцовых арганізацый шырока скарыстоўвалася ЦБК праз популярызацыю яе ў друку як на старонках часопісу „Савецкая Краіна“, так і ў цэнтральных газэтах „Савецкая Беларусь“, „Зьвязда“, „Чырвоная Зьмена“ і інш., а таксама дэмонстравалася часткова на розных выстаўках.

Выдавецкая работа ЦБК у справаздачным годзе выявілася: у выданьні 12 нумароў часопісу „Савецкая Краіна“, 2-х зборнікаў програм і інструкцый па краязнаўству, палажэньня аб раённым бюро краязнаўства і краязнаўчай ячэйцы і 3 брошур. Работнікамі ЦБК напісана 17 артыкулаў для часопісу „Савецкая Краіна“, складзена 5 програм і інструкцый, напісаны 2 брошуры і апрача таго, у цэнтральныя газэты і іншыя часопісы напісана да 30 артыкулаў масавага характару.

У справе наладжваньня музэйнае работы ЦБК на працягу году абсьледвала Бабруйскі, Тураўскі краязнаўчыя музэі, а таксама праведзена падрыхтоўчая работа да арганізацыі новых краянаўчых музэяў у Рагачэве, Рэчыцы, Дзяржынску і аднаўленьня работ у гэтым кірунку ў Барысаве, Чэрвені, Мсьціслаўлі і інш.

Аднак, трэба адзначыць, што работа ў гэтай галіне яшчэ не наладжана і ў надыходзячым годзе на гэты бок трэба зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу.

Работа ў галіне школьнага краязнаўства выявілася ў выданьні спэцыяльнага нумару часопісу „Савецкая Краіна“ (№ 7-8), прысьвечанага пытаньням работы школ, у складаньні програмы мэтодыкі краязнаўства ў пэдтэхнікумах, работнікамі ЦБК складзена „Програма краязнаўчай падрыхтоўкі настаўніка масавай школы“ і апрача таго, распрацаваны сумесна з НКА БССР рад мерапрыемстваў па рэалізацыі пастаноў ЦК УсеКП(б) аб вучэбных програмах і рэжыме ў пачатковай і сярэдняй школе.

Але разам з гэтым разгортваньне школьнага краязнаўства зьяўляецца слабым месцам у рабоце як ЦБК, так і ніжэйшых краязнаўчых арганізацый, а таксама і органаў народнае асьветы. У краязнаўчую работу яшчэ вельмі слаба ўцягнута настаўніцтва, студэнцтва і вучні. Аддзелы народнае асьветы на мясцох вельмі мала зьвяртаюць увагі пытаньням школьнага краязнаўства. У наступным годзе работа ў гэтым кірунку павінна быць значна ўзмоцнена.

У пляне работы ЦБК на 1933 г. прадугледжана выпраўленьне недахопаў, меўшых месца ў мінулым годзе, і мобілізацыя ўсёй існуючай краязнаўчай сеткі на сыстэматычную плянавую навукова-дасьледчую работу, падпарадкаваную пасьпяховаму выкананьню вялікіх задач гаспадарчага і культурнага будаўніцтва другой пяцігодкі.

Баявой і ўдарнай задачай усіх краязнаўчых арганізацый 1933 г. зьяўляецца мобілізацыя ўсіх краязнаўчых сіл для вывучэньня энэргетычных і сыравінных рэсурсаў свайго раёну, умоў падвышэньня ўраджайнасьці. У гэтую работу павінны быць уцягнуты шырокія працоўныя масы, рабочыя, колгасьнікі, комсамольцы, настаўніцтва, студэнцтва, вучні, піонэры.

Побач з вырашэньнем гэтай ударнай задачы краязнаўчыя організацыі павінны ў 1933 г. організаваць і правесьці комплекснае краязнаўчае вывучэньне свайго раёну, асаблівасьцяў клясавай барацьбы на даным этапе, разьвіцьця гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, вялікая ўвага цавінна быць удзелена разгортваньню школьнага краязнаўства.

Т. Кулакоў

## Аб уключэньні мэтодыкі краязнаўства ў вучэбныя пляны пэдтэхнікумаў.

Дзяржаўны вучоны савет НКА БССР у новым вучэбным пляне пэдтэхнікумаў зацьвердзіў спэцыяльны курс мэтодыкі краязнаўства.

Курс разьлічаны на 25 гадзін. Распрацавана спэцыяльная програма, якая разаслана ва ўсе пэдтэхнікумы.

На васьмімесячных курсах па падрыхтоўцы настаўнікаў 1-га концэнтру ФЗС і ШКМ і для 4-гадовых школ, якія адкрыліся з 1-га студзеня 1933 году ў Менску, будзе выкладацца курс мэтодыкі школьнага краязнаўства.

Выкладаньне мэтодыкі школьнага краязнаўства ў пэдагогічных ВНУ, тэхнікумах і пэдкурсах дасьць належную краязнаўчую падрыхтоўку настаўнікам, якія змогуць выкарыстаць краязнаўчы матар'ял у мэтах паглыбленьня ведаў вучняў і комуністычнага выхаваньня падрастаючага пакаленьня.

## Вывучым апалавыя рэсурсы

У вёсцы Старыя Дарогі, Стара-Даросkага раёну, пры капаньні калодзежу (1929 г.) на глыбіні 4 мэтраў пад пластамі гліны выяўлены пласт *торфа-вугалю*; таўшчыня пласта—0,5 м. Пры спробе спальваньня аказалася, што выкапаны торф-вугаль згарае вельмі добра і астаўляе зусім мала попелу.

Дасьледчыя і гаспадарчыя ўстановы павінны зьвярнуць увагу на вывучэньне заляганьня гэтага торфу-вугалю і магчымасьці яго гаспадарчага выкарыстаньня

П. Бранавіцкі.

# Краёвая бібліографія

*(Працяг *).*

### 7. Фінансы

194. Аб рэалізацыі пазыкі „4-га заключнага году пяцігодкі" (Пастанова ЦК КП(б)Б)—*Шляхі Калект.* 932, № 12, с. 2—3.

195. Да ўсіх калгасьнікаў, беднякоў і серадлякоў-аднаасобнікаў БССР. (Адозва калгасу „Гігант" аб рэалізацыі пазыкі). —*Шляхі Калект.* 932, № 13—14, с. 5.

196. Иткин (секр. ЦК БССР) Выступление на II всесоюзном радиосовещании по поводу важнейших моментов займового похода [Аб БССР].—„*Спутник Мопровца*" 932, специальный выпуск, с. 4—5.

197. Пастанова праўленьня Калгасцэнтру БССР і Наркамфіна БССР аб прэміяваньні калгасу „Гігант" Крупскага раёну за ўзорную работу па рэазізацыі пазыкі „4-га заверш. году 5-годкі".—*Шляхі Калект.* 932, № 12—13, вокл.

198. Хацкевіч А. БССР в борьбе за финплан.—„*Финансов. и социалист. хозяйство*" 932, № 7, с. 16—18.

199. Червяков. Закрепить за БССР красное знамя. Речь председателя ЦИК СССР и ЦИК БССР т. Червякова на белорусском слете ударников финансового фронта 18 апр. 1932 г.—„*Финансов. и социалист. хозяйство*" 932, № 14, с. 4—6.

### 8. Транспорт. Сувязь. Шляхі

200. Востров А. И. инж. Перспективы клинкерных дорог в БССР. (В порядке предложения)—*Дорога и автомобиль,* 932, № 10, с. 10.

201. Вятрэйка Д. Лесаводныя грунтовыя дарогі.—*Тэхніка масам,* 932, № 5—6. с. 21—24.

202. Лубан Л. На высоте задач. Станция Жлобин.—М. и Л. Огиз, Гострансиздат, 932, с. 48.

203. Рензин Н. А. За что должны драться автодоровцы-дорожники.—М. Л. 932, с. 48. [аб БССР на с. 12, 32—34.]

### 9. Вынаходніцтва. Рацыяналізацыя. Тэхнічная пропаганда.

204. Асмалоўскі І. С. Рацыяналізуем працу рацыяналізатараў.—*Тэхніка масам,* 932, № 5—6, с. 53—54.

205. Асмалоўскі, Шмэрліс К. За пашырэньне рацыяналізатарскае самадзейнасьці. 1) Рацыяналізацыя на галянтарэйнай ф-цы „Беларуска". 2) Рацыяналізацыя на гуце „Комінтэрн".—*Тэхніка ў масы,* 932, № 3—4, с. 52-53.

206. Атрыманьне прэцыпітату з беларускай сыравіны.—*Тэхніка масам,* 932, № 5—6, с. 55.

207. Б. На ўзроўні соцыялістычнай тэхнікі. [фабрыка „Акцябр"]—*Тэхніка масам,* 932, № 7, с. 21—22.

208. Барвячы. За значок „авалодаў тэхнікай вытворчасьці"—*Тэхніка ў масы,* 932, № 3—4, с. 30—32.

209. Галаўнёў і Нікіфараў Ф. І. Соцыялістычная рацыяналізацыя, вынаходзтва і рабочыя прапановы—неадкладная задача ў працы гаспадарча-разьліковых брыгад—*Тэхніка ў масы,* 932, № 3—4, с. 49—51.

210. Гурэвіч Х. І. Асноўныя палажэньні па мэтодолёгіі плянаваньня рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў,—*Тэхніка масам,* 932, № 5—6, с. 49—52.

211. Даўбэр. Масавае вынаходніцтва на вышэйшую ступень [БССР]—*Тэхніка масам,* 932, № 7, с. 32—33.

212. Іомтэў Б. Інж. Рацыяналізацыя ў лёгкай прамысловасьці БССР. —*Тэхніка масам,* 932, № 7, с. 26.

213. Каган Я. М. Тэхпрапагандзе —бальшавіцкія тэмпы. [БССР]—*Тэхніка ў масы,* 932, № 3—4, с. 17—20.

214. Прохараў А. А. Узьняць тэхніку вырабу маргарыну. [БССР]—*Тэхніка масам,* 932, № 7, с. 27.

---

*) Гл. „Савецкая Краіна" № 12.

215. Райгарадзецкі, інж. Аб штучным сушэньні цэглы.— *Тэхніка масам*, 932, № 5—6, с. 9—13.
216. Самахвалаў. Уздымем тэхніка-энэргетычную ўзброенасьць. [БССР] —*Тэхніка масам*, 932, № 7, с. 6—9.
217. Сульскі Н. Інж. За рацыянальнае скарыстаньне абсталяваньня.— *Тэхніка масам*, 932, № 5—6, с. 42—48.
218. Сьцяпны А. Ралыё на службу аўладаньня тэхнікай.—*Тэхніка масам*, 932, № 5—6, с. 29—30.
219. Сяргееў А. Уключыць кіно ў барацьбу за тэхніку.—*Тэхніка масам*, 932, № 5—6, с. 31.
220. Т. Б. Узброіліся навейшаю тэхнікаю. (Друкарня Сталіна).—*Тэхніка масам*, 932, № 7, с. 22—23.
221. Травинов П. И. Швейная промышленность САСШ. — „*Швейная промышленность*", 932, № 7 с. 28—32. [Проект новой Витебской ф-ки, разработанный фирмой Зингер].

## 10. Работа. Профсоюзы. Соц. мэтоды работы. Кадры

222. Байкаш Н. Подготовка советских кадров в БССР.—*Сов. Строит. М.* 932, № 10, с. 113—119.
223. Бурны Аніс. Аб усесаюзным конкурсе прадпрыемстваў Наркомлесу. За лепшае правядзеньне 6-ці ўмоў тав. Сталіна.—*Тэхніка масам*, 932, № 5—6, с. 63—64.
224. Галаўнёў А. І. Гаспадарчаразьліковыя брыгады ў барацьбе за прамфінплян.—*Тэхніка ў масы*, 932, № 3—4, с. 44—48.
225. Зеликсон Б. Что было в Витебском цирке. (Соцспаборніцтва каменшчыкаў)—*Журналіст*, 932, № 31—32, с. 13.
226. Обращение рабочих Бобруйского бумкомбината о реализации указаний тов. Сталина. — „Лес Урало-Кузбасу". 932, № 11—12, с. 6—8.
227. Пастановы III пленуму Гарпрофсавету (верасень 1932 г.)—Гомель, 932, с. 24.
228. Привет ударникам и ударницам свиносовхозов Белоруссии славным борцам за социалистическое свиноводство. [Всебелорусский слет ударников свинарей. Список премированных ударников).— „*Свиноводство*", 932, № 21—22, с. 28—29.
229. Профсаюзы на новым гістарычным этапе разьвіцьця. (Да вынікаў VII Усебел. і IX Усесаюзн. зьезду профсаюзаў).— М-к. БДВ, 932, с. 92, 35. (Культ. проп. ЦК КП(б)Б. Сэр. мэтод. дапаможнікаў для партасьветы).
230. Рэзолюцыі 2-га пленуму ЦП Саюзу працасьветы БССР.—М-к, 932, с. 30. (ЦП Проф. Саюз. работн. Асьветы БССР).

## 11. Грамадзкія організацыі

231. К конкурсу на лучшую Озет организацию в Белоруссии.— „*Трибуна*", 932, № 13, с. 11-12.
232. Как БССР осуществляет шефство над Биробиджаном и перестраивает озетработу.— „*Трибуна*", 932, № 4, с. 4—6.
233. ЦИК БССР о работе Белкомзета. (Материал взят из „Октября").— „*Трибуна*" 932, № 13, с. 10—11.
234. IV Озетлотерея в Белоруссии— „*Трибуна*", 932, № 23, с. 9—10.
235. III Совещание белорусских оргазаций ОЗЕТ [10—11/II 1932 в Минске].— „*Трибуна*", 932, № 7, с. 17.

## 12. Быт

236. Кулькін, інж. Дасягненьне на фронце жыльлёвага будаўніцтва. [Бел. Жыл. саюз]—*Тэхніка масам*, 932, № 5—6, с. 28.
237. Сідзіна. Становішча бытавых установ у Гарадокшчыне.—*Раб. і Калг. Бел.* 932, № 19, с. 7.
238. Турэцкі І. Даць рабочым добраякасны абед. (Усебеларуская канфэрэнцыя кухароў).—*Раб. і Калг. Бел.*, 932, № 27, с. 11.
239. Шырэй разгарнуць пабудову бытавых установ.—*Раб. і Калг. Бел.*, 932, № 28, с. 10.
240. Шусэр і Грумбіна. Больш увагі бытавым запатрабаваньням работніц.—*Раб. і Калг. Бел.*, 932, № 26, с. 14.

## 13. Мэдыцына. Ахова здароўя

241. Драгун Б. Г. Зоб в Белоруссии. Из хирург. клиники БГУ (дир.— проф. С. М. Рубашев).— „*Клиническая медицина*", 932, № 11—12, с. 335—338.
242. Поляк А. Л. Вторая белорусская конференция по борьбе с туберкулезом (10—15 янв. 1932 г.)— „*Борьба с туберкулезом*", 932, № 7, с. 656—658.
243. Розанаў Л. П., проф. Дрожджы, як вельмі карысны сродак харчаваньня.— *Сав. Краіна*, 932, № 9, с. 93—94.

## 14. Культурнае будаўніцтва. (Навуковыя і навучальныя ўстановы, асьвета).

244. Аб навучальных програмах і рэжыме ў пачатковай і сярэдняй школе. Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 25/VIII—32 г.— *Сав. Краіна*, 932, № 7—8, с. 4—10.

245. Аб рэалізацыі пастаноў ЦК УсеКП(б). ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе. Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б.—*Сав. Краіна*, 932, № 7—8, с. 11—18.

246. Войтко. Твар вясковае школы (з вопыту працы школ Хацюхоўскага с/с. Крупскага раёну).—*Камуністычнае Выхаваньне*, 932, № 4—5, с. 79—89.

247. Вольфсон С. Я. Культурная рэволюцыя ў дзеяньні. Нацыянальна-культурнае будаўніцтва БССР да XV-годзьдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі.—М—к, БДВ, 932, с. 46, 30 к.

248. Да гадавіны пастаноў ЦК Усе КП(б) і ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе.—*Сав. Краіна*, 932, № 7—8, с. 22—28.

249. Дардак і Ерафееў. Клясавая барацьба ў школе БССР—*Сав. Краіна*, 932, № 7—8, с. 61—93.

250. Каляда П. Д. і Раецкі. Становішча політэхнічных ведаў у ФЗС і ШКМ БССР.—*Сав. Краіна*, 932, № 7-8, т. 94—117.

251. Капылянскі Ўл. Практыка політэхнізацыі Ленінскай ШКМ Слуцкага раёну.—*Сав. Краіна*, 932, № 7—8, с. 118—123.

253. Кнігасьпіс—дапаможнік па беларускай юнацкай дзіцячай літаратуры.—М—к, БДВ, 932, с. 86, 55 к.

253. Кузьняцоў М. Аб становішчы і якасьці выкладаньня дысцыплін у ВНУ і тэхнікумах.—„*Камуністычнае Выхаваньне*", 932, № 4—5, с. 102—105.

254. Кулакоў Т. Работа школ і лікпунктаў на Тураўшчыне ў 1931-32 навучальным годзе.—*Сав. Краіна*, 932, № 7—8, с. 124—126. Хроніка.

255. Лазарэнка М. Аб працы Стара-Барысаўскага сьвінагадоўчага і Марына-Горскага садова-гароднага тэхнікумаў.—*Камуністычн. Выхаваньне*, 932, № 4—5, 106—110.

256. Матар'ялы ўсебеларускай дашкольнай конфэрэнцыі.—М-к, 932, с. 24, 10 к. (Н. К. Асьветы БССР.)

257. Па-бальшавіцку ажыцьцявіць пастанову ЦК УсеКП(б) ад 25 жніўня 1932 г. „Аб навучальных програмах і рэжымеў пачатковай і сярэдняй школе".—*Сав. Краіна*, 932, № 7—8, с. 19—21.

258 По совхозучам и с./х. техникумам Белоруссии. (Из материалов бригады НКЗема СССР и Ин-та „Сельхозкадр")—„*За кадры социалист. земледелия*". 932, № 4, с. 52—56.

259. Панкевіч П., проф. Соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў школах БССР. —*Сав. Краіна*, 932, № 7—8, с. 29—60.

260. Пастановы I сэсіі Дзярж. вуч. савету БССР.—М-к, с. 46.

261. Прынц Э. Нацыянал-культурнае будаўніцтва польскага насельніцтва БССР.—*Бальш. Бел.* 932, № 13, с. 37—50.

262. Сабалеўскі А. і Раецкі М. Работа Менскай 20-й ФЗС—*Камуніст. Выхаваньне*, 932, № 4—5, с. 90—92.

263. Сташонак З. Школы Цэрахоўшчыны сёньня. (Да вынікаў навучальнага году.)—*Камуніст. Выхаваньне*, 932, № 4—5, с. 93—101.

264. Червяков А. Письмо председателя ЦИК'а СССР и БССР т. Червякова о поддержке инициативы „Молодого Ленинца"—„*Трибуна*" 932, № 13, с. 12. [Об организации культвагона для школьников Биробиджана].

265. Эрэнка Р. і Гіршгорн. Першы завод-тэхнікум БССР (вопыт на заводзе „Комунар"—*Тэхніка ў масы*, 932, № 3—4, с. 33—34.

**Навуковыя ўстановы. Беларуская Акадэмія Навук**

266. Анодзін Р. І. Аб рабоце НДІ харчовай прамысловасьці—*Тэхніка масам*, 932, № 5—6, с. 59—60.

267. Т. К. Удзел настаўніцтва ў работах Палескай экспэдыцыі,—*Сав. Краіна*, 932, № 7—8, с. 128. Хроніка.

268. В. П. Дэкаднік АН у Койданаўскім раёне.—*Сав. Краіна*, 932, № 6, с. 100—101. Хроніка.

269. В. П. У інстытутах і сэктарох АН—*Сав. Краіна*, 932, № 6, с. 101—102. Хроніка.

270. Гершэнбаўм І. Яўрэйскую навуковую работу на вышэйшую ступень. (Яўсэктар АН). — *Сав. Краіна*, 932, № 6, с. 35—46.

271. Малінін Н. Беларуская Дзяржаўная Бібліотэка ў змаганьні за тэхніку.—*Тэхніка ў масы*, 932, № 3—4, с. 29—30.

272. П. С. Работа Масавага сэктару АН за студзень—чэрвень 1932 г.—*Сав. Краіна*, 932, № 6, с. 95—96. Хроніка.

273. Палеес А. Д. Год дзейнасьці НДІ прамысловасьці.—*Тэхніка масам*, 932, № 5—6, с. 60—62.

474. Поляк А. Экспэдыцыйная работа Інстытуту біолёгічных навук АН у 1932 г.—*Сав. Краіна*, 932, № 9, с. 107—109. Хроніка.

275. Т. К. Работа брыгады Палескай экспэдыцыі па вывучэньню нацыянальна-культурнага будаўніцтва.—*Сав. краіна*, 932, № 7—8, с. 126—128. Хроніка.

276. Умовы прыёму асьпірантаў на 1932-33 г. у навукова-дасьледчы колгасны інстытут.—*Бальш. Бел.* 932, № 10, с. 83—85.

### 15. Друк. Выдавецкая справа

277. Белорусец Мих. Обзор работы местной сети „Правды" и аппарата Союзпечати по „Рабкресткору"—*Распространитель печати*, 932, № 5, с. 16—18. Асобны разьдзел аб БССР.

278. Ватацы Н. За афармленьне кнігі. Кніжная вокладка ДВБ.—*Кніга масам*, 932, № 2—3, с. 34—38.

279. М. А. Не ведет работы с рабселькорами. (Лельчыцы БССР).—„*Журналист*", 932, № 27, 22 с. Аб газ „Калгасьнік на варце", Лельчыцы.

280. Манцев В. О премировании Гомельской газеты „Палеская Праўда". Постановление коллегии НКФ СССР от 20/III-32 г. за № 35.—*Финансы и соц. хоз-во*, 932, № 8—9, с. 35.

281. Михальцов С. Без шумихи и общих разговоров. [Аб газ. „Ленінскі Сьцяг", Лёзна]—*Районная печать*, 932, № 25, с. 19—20.

282. Хома Ўл. Да перабудовы працы часопісу „Кам. Выхаваньне"—*Кам. Выхаваньне*, 932, № 4-5, с. 13—17.

283. Нястомнаму барацьбіту за генэральную лінію партыі—„Зьвязьдзе" [Прывітаньне ад рэдакцыі „Бальш. Бел."] —*Бальш. Бел.* 932, № 10, с. 3.

284. Про підсумки соціялістичного змагання преси робселькорів Україні, Білорусі та Північного Кавказу на краще проведення конкурсу „Правды". (Резолюція наради конкурсних комісій у м. Менську).—„*Рабселькор*", 932, № 24, с. 2—4.

285. Про підсумки соціялістичного змагання преси й робселькорів Україні, Білорусії та Північного Кавказу. (З ухвали наради конкурсних комисій та делегацій преси)—„*Червона преса*", 932, № 24, с. 1.

286. Шыдлоўскі У. Дванаццаць (Нарыс) [Аб насьценных газэтах колгасаў Радыянскага с/с.]—*Чырв. Беларусь*, 932, № 7, с. 13-14.

### 16. Літаратура. Мова

287. Бэндэ Л., Александровіч Андрэй. М-к, Б. Д. В. 932, с. 82, 65 к.

288. Бязродны М. „Зямныя зоры" Алеся Пруднікава—*Полымя Рэв.*, 932, № 2, с. 180—182.

289. Бярозка Юры. У змаганьні за мэтод. (Творчыя характарыстыкі Рыгора Мурашкі і Платона Галавача).—*Наступ.* Масква, 932, кн., 1 с. 113—126.

290 Глыбінны Ул. „Наступ" з памылковых пазыцый. [Аб кнізе „Наступ" орган Бел. сэкцыі Маскоўскай Ас. Пр. П. 931]—*Беларусь кал.*, 932, № 5, с. 79—89.

291. За перестройку литературно-художественных организаций. Сборник материалов—*М, Парт. Изд.* 932, с. 72. Постановление ЦК КП(б)Б о перестройке лит.-худ. организаций БССР (27 мая 1932 г.) О создании Орг. комитета в Белоруссии. с. 44—46.

292. Красьнеўскі. 50-гадовы шлях Янкі Купалы.—*Чырв. Бел.* 932, № 17, с. 11—12.

293. Куніцкі С. Пра другі зборнік творчасьці рабочых-ударнікаў.—*Маладняк*, 932, № 5-6, с. 99—114.

294. Кучар А. Уладзімер Хадыка.—*Полымя Рэв.* 932, № 2, с. 167—179.

295. Кучар А. Паказ герояў 5-годкі ў беларускай пролетарскай літаратуры—*Полымя Рэв.* 932, № 1, с. 154—169.

296. Мурашка Р. Часопіс „Маладняк" за 1931 г. (Да вынікаў творчага агляду часопісі ў дыскусіі Бел. АПП)—*Кніга масам*, 932, № 2-3, с. 29—31.

297. На вышыню гістарычных задач [Перадавая]—*Беларусь калг.* 932, № 5, с. 3—5.

298. На юбілейным вечары Янкі Купалы. (Прамова першага віцэ-прэзыдэнта АН т. Домбаля. 2) Прамова народнага поэты Янкі Купалы.—*Чырв. Бел.* 932, с. 11-12.

299. Народнаму поэту БССР—Янку Купале (Прывітаньне ўдзень 50-годзьдзя)—*Бел. Калг.* 932, 6-7, с. 5.

300. Паваротны Зьм. Поэт пролетарскай песьні. (Дзесяцігадовы юбілей беларускага пралетарскага поэта Ан. Александровіча)—*Раб. і Калг. Бел.* 932, № 1, с. 14.

301. Пастанова сакратарыяту беларускай асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў. [Аб перабудове Бел. АПП]—*Кніга масам*, 932, № 2-3. с. 5; *Маладняк*, 932, № 5-6, с. 9, *Бел. Калг.* 932, № 5, с. 7-8.

302. Пастанова Бюро ЦК ЛКСМБ ад 19 мая 1932 г. пра ход творчага агляду маладзёжнай літаратуры.—*Маладняк*, 932, № 5-6, с. 152. Хроніка.

303. Пра перабудову літаратурна-мастацкіх організацый. Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка 1932 г. і пастанова ЦК КП(б)Б ад 27 мая 1932 г.—*Беларусь Калг.* 932, № 5, с. 7. *Маст. і Рэв.* 932, № 1, с. 1. *Кніга масам*, 932, № 2-3, с. 3-4. *Маладняк*, 932, № 5-6, с. 3-4. *Полымя Рэв.* 932, № 1, с. 3-4.

304. Пра стварэньне аргкамітэту саюзу савецкіх пісьменьнікаў.—*Маладняк*, 932, № 5-6, с. 7-8. *Бел. Калг.* 932, № 5, с. 8-9.

305. Постанова Білоруського літераратурно-мистецького об'єднання „Узвишша".—„*Гарт*", 932, № 5-6, с. 209-210.

306. Паўлоўскі Т. Шляхі і соцыяльная прырода творчасьці З. Астапенкі.—*Маладняк*, 932. № 5-6, с. 115—122.

307. Першае пасяджэньне аргкамітэту БССП.—*Беларусь Калг.* 932, № 5, с. 10.

308. Против национал-демократизма в литературе. Стенографический отчет диспута на тему „Национал-демократизм и борьба за попутчиков". Рэд. Б. Л. Коваленко.—М.-Л. 932, с. 91 (Секция Литературы народов СССР Ин-та ЛИЯ Комакадемии) Доклад Коваленко „Нац-дем. и борьба за попутчиков". Выступления в прениях А. Сенкевича, П. Головача, Х. Дунца от Бел. АПП.

309. На вышыню гістарычных задач. [Перадавіца аб пастанове ЦК пра перабудову літаратурна-мастацкіх арганізацый]—*Белар. Калг.* 932, № 5, с. 3-5.

310. Напагатове. (Перадавая)—*Напагатове* 932, № 1, с. 1—10.

311. Новымі шляхамі. (Перадавая)—*Полымя Рэв.* 932, № 1, с. 5-6.

312. С-ка А. Беларуская мастацкая літаратура за 15 год.—*Чырв. Бел.* 932, № 20-21, с. 4-5.

313. Савецкія пісьменьнікі БССР пра пастанову ЦК УсеКП(б) (Рэзолюцыя агульнага сходу пісьменьнікаў г. Менску)—*Маладняк*, 932, № 5-6, с. 6.

314. Старобінскі С. Ха. Пародыі Себасьцяна Старобінскага Шаржы ДэВэБэкі. Гомель. 932, с. 43. 3 р. 50 к.

315. Сьвірын Н. За ленінскі этап абарончай літаратуры.—*Напагатове*, 932, № 1, с. 99—110.

316. Цэйтліна М. А. Пра кніжку Ул. Барашкі „Камунары".—*Маладняк*, 932, № 4, с. 61—66.

317. Уступаем у новы гістарычны этап (Рэзалюцыя камуністычнай фракцыі пісьменьніцкіх аб'яднаньняў) — *Маладняк*, 932, № 5-6, с. 4-5.

318. Шараховускі. Гімн жыцьцю і сонцу. (Творчасьць Каваля В.)—*Маладняк*, 932, № 5-6, с. 123—150. (Працяг).

319. Шукайла Паўлюк. Проблема суб'ектыўнага і об'ектыўнага ў мастацкім творы. (Мастацкі твор і рэчаіснасьць).—*Наступ*, Москва, 932, кн. 1, с. 127—164.

320. Dombroski, Cz. Ze słownictwa i gramatyki języka ludności polskiej na Białorusi Sowieckiej—M-k., BAN, 932 96 str. 1 r.

### 17. Мастацтва. Тэатр-кіно

321. Бобрык Янка. Заходні фронт. (Сцэнары Брадзянскага)—*Чырв. Бел.* 932, № 19, с. 12-13.

322. Вольскі В. На парозе 2-й пяцігодкі. 5 год Бел. 2-га Дзярж. Тэатру—*Мастацтва і Рэв.* 932, № 1, с. 15—20.

323. Вольскі і Модэль. Пяць год творчай дзейнасьці яўрэйскага Дзярж. Тэатру БССР.—*Мастацтва і Рэв.* 932, № 1, с. 7—14.

324. Горскі Р. Ад вандроўнага да стацыянарнага. (Тэатр пад кіраўніцтвам У. Галубка - [Шляхі разьвіцьця БДТ III] *Чырв. Бел* 932, № 18, с. 6.

324а. Гурскі I. Тэатральнае мастацтва БССР за 15 год.—*Чыр. Бел.* 932, № 20-21, с. 8-9.

325. Гурскі I. XV-годзьдзе Кастрычніцкае рэволюцыі і задачы фронту мастацтва.—*Мастацтва і Рэв.* 932, № 1, с. 5-6.

326. З пастановы аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б аб культурным будаўніцтве БССР у галіне разьвіцьця мастацтва.—*Мастацтва і Рэв.* 932, № 1, с. 2.

327. За магнітабуды Бел. мастацтва (Перадавая) — *Мастацтва і Рэв.* 932, № 1, с. 3-4.

328. Зограф Н. Пути развития Белорусского Гострама.—„*За агитпроп. бригаду и трам*". 932, № 3-4, с. 63-67.

329. Каменскі М. На шляху да бальшавіцкага паказу. Да пяцігодзьдзя „Ботвіна" ў БДЯТ.—*Мастацтва і Рэв.* 932, № 1, с. 19-20.

330. Касталянскі і Гаўрыленка. IV Усебеларуская выстаўка выяўленчага мастацтва БССР -- *Мастацтва і Рэв.* 932, № 1, с. 29—32.

331. М. А. БДТ 2 (Бел. Дзярж. Тэатр 2. Сэзон 1931—32 г.)—*Чыр. Бел.* 932. № 15, с. 8-9.

332. М. Г. Эндэ. (Нэкролёг)—*Мастацтва* і *Рэв.* 932, № 1, с. 35.

333. Норд Б. Опэра „Кармэн". Да пастаноўкі ў Бел. Дзярж. студыі опэры і балету—*Мастацтва і Рэв.* 932, № 1 с. 25—28.

334. С. К. Вечар сустрэчы двух братніх тэатраў. (Белар. і Чырвоназавод. Украін. тэатраў)—*Мастацтва і Рэв..* 932, № 1, с. 3-4.

335. СССР на экране—киноатлас.—Кинорепертуар 1932 г. № 6, с. 2—19. Белорусская ССР, с. 14-15.

336. Скокаў П. Камсамол—на кінофронт—*Маладняк*, 932, № 7, с. 147—152.

### III. Гісторыя

337. Алена. Раней і цяпер. (Успаміны старых работніц Добрускай папяровай ф-кі „Герой працы")—*Раб. і Колг. Бел.* 932, № 30, с. 16-17.

338. Гесэн Ул. Барацьба сялянства на Беларусі напярэдадні 19 лютага 1861 г.—*Сав. Краіна*, 932, № 6, с. 16—34.

339. Гесэн У. Да пытаньня аб прадпасылках Кастрычнікавае рэвалюцыі на Беларусі. (З поваду кнігі К. І. Кернажыцкага „Да гісторыі аграрнага руху на Беларусі). — *Бальш. Бел.* 932, № 14, с. 31—44.

340. За бальшавіцкую гісторыю грамадзянскай вайны. (Адозва Ін-ту гісторыі партыі і Кастрычнікаўскай рэволюц. пры ЦК КП(б)Б)—*Сав. Краіна.*, 932, № 6, с. 80—81.

341. Інструкцыя па організацыі работы мясцовых камісій садзейнасьці па зьбіраньню і апрацоўцы матар'ялаў для Гісторыі грамадзянскай вайны на Беларусі.—*Сав. Краіна.* 932, № 9, с. 95—98. (Падпісана: Сакратарыят „Гісторыі грамадзянскай вайны на Беларусі").

342. Ляўданскі А. Папярэднія вынікі работы археолёгічнай брыгады Палескай экспэдыцыі.—*Сав. Краіна*, 932, № 9. с. 81—88.

343. Паваротны Зьм. Горад на рубяжы. Гістарычны нарыс аб Менску—*Чыр. Бел.* 932, № 20-21, с. 2-3.

344. Скардзіс В. і Кернажыцкі К. Супроць буржуазнага „об'ектывізму" ў гісторыі Беларусі. (Пра арт. Пушкарэвіча „Преобразование духа народности. Эпизод из истории руссификации Белоруссии")—*Сав. Краіна*, 932. № 6, с. 76—79.

345. Lwowski E. 15 rocznica Października w BSRR.—*M-k* 932, 55 str. 50 kop.

### IV. Заходняя Беларусь

346. Інформацыйны бюлетэнь № 5-6 за другое паўгодзьдзе 1931 г. і за першую палову 1932.—М-к, 932, с. 133 1 р. 10 к. (Бел. Акад. Навук. Камісія Зах. Беларусі). Зьмест: Становішча ў Польшчы. Заняпад прамысловасьці на Зах. Бел. Становішча рабочае клясы. Фашысцкі тэрор. Падрыхтоўка Польшчы да вайны. Матар'ялы і дакуманты.

347. К. Д. Сустрэча політзьняволеных капіталістычных турмаў пролетарыятам Менску.—*Раб. і Колг. Бел.* 932, № 27, с. 2-3.

348. Гарбацэвіч П. Полёнізацыя Заходняй Беларусі, — М-к, АН, 932, с. 24.

349. Кайгарадаў А. Клімат Заходняй Беларусі.—М-к, АН, 932.

350. Мятла П. Аб таварыстве беларускае школы і яго барацьбе.—М-к, 932, АН, с. 34, 35 к.

351. Рэзолюцыя протэсту пісьменьнікаў гор. Менску. [Супроць зьняволеньня правадыроў нацыянальна-вызваленчага руху ў Зах. Бел.]—*Маладняк*, 932, № 5-6, с. 151. Хроніка.

352. Е. Ж. Працоўныя масы Заходняй Беларусі ў барацьбе за свой Кастрычнік,—*Раб. і Колг. Бел.* 932, № 19, с. 4-5.

353. Топаз С. Е. Сусьветна-эконамічны крызіс і рэволюцыйны уздым у Польшчы.—*Бальш. Бел.* 932, № 15-16, с. 16—27.

354. У дзень XV гадавіны Кастрычніка палкае прывітаньне работніцам і сялянкам Зах. Бел. [Ад колгасьніц колгасу імя Дзяржынскага, Заслаўскага р.] *Раб. і Кол. Бел.* 932, № 30, с. 3.




Выдавец—Беларуская Акадэмія Навук

# ЗЬМЕСТ



## Афіцыйны аддзел.



## Хроніка



---

Друкарня Беларускай Акадэміі Навук. Менск, Няміга, 7.

Упаўнаважаны Галоўлітбелу № В—59. Зак. 946. Тыраж 2.000.

